*Анатоль Кудравец*

# Смерць нацыяналіста



*Анатоль Кудравец*

# Смерць нацыяналіста

*Аповесці*

○

*Апавяданні*

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1992

ББК 84Бел 7
К 88

Новую книгу прозы Анатолия Кудравца составили написанные за последние годы повести и рассказы. Эти произведения — клубок тревог и переживаний автора за человека, за его право на радость и сочувствие.

Острые драматические коллизии и трагические мотивы произведений — это жестокие реалии нашего времени, нашей жизни,— то, о чем не говорить, не думать просто невозможно.

К $\frac{4702120201-063}{М 302(03)-92}$ БЗ 131—91

ISBN 5-340-01120—8

# ПАХАХУЦІКІ

*Аповесць*





---

Рака, мутная, жоўтая вада. Брудны паток нясецца сам і нясе на сабе ўсё, што трапляе ў яго. Вада ідзе такім напорам, што толькі адчайныя намаганні і дзержаць Рыгора наверсе. Ён ведае: варта толькі здацца, перастаць ваяваць за сябе — і ўсё, канец.

Плыве матрац з іржавымі спружынамі, плывуць нейкія дошкі, бярозавыя кругляки, плыве матавіла з наматанай суконнай пражай. Усё быццам яго і не яго. З гэтых нітак Надзя звязала яму цёплыя рукаўкі, узялася за шкарпэткі. Звязала адну, пачала другую... Як жа яна дакончыць яе, калі пража пайшла за вадой?..

Побач вынырнула рамка з іхняй сямейнай фотакарткай: Надзя, ён з Жоржам на руках. Шкло веерам

пасеклі трэшчыны, быццам нехта цюкнуў каменьчыкам. Рыгор пацягнуўся схапіць рамку, але вада крутанула яе, баўтанула ўніз. Выкінула наверх ужо наперадзе. Ён дацягнуўся да рамкі і ўбачыў, што самога нясе на бетонную плаціну. Шэрая масіўная сцяна глухім маналітам перагарадзіла раку. Нават праз мутную ваду відаць былі няроўнасці грубай апалубкі. Вада цяжка напірала на плаціну, перакатвалася цераз край і з пенным гулам зрывалася ўніз.

Трэба ратавацца, але як? Рыгор не паспеў нічога прыдумаць, як яго са страшнай сілай кінула на шэры, зубчасты бетон. Ад удару затрашчалі грудзі, а ніжняя сківаца вышчаўкнула з рота, як з гнязда. Выбіла і рамку з рукі. Рыгор хацеў кінуцца ўслед — вада прыціснула да бетону, хацеў закрычаць — не было голасу. Хаўкаў пустым ротам, з роспаччу пазіраючы ўслед мутнай вадзе, з якой, то ныраючы, то ўскідваючыся на хвалях, аддаляліся яго сківаца з зубамі і рамка з фотакарткай.

Падумалася: «Як жа я цяпер... без зубоў?» Але гэта ўжо было на мяжы сну і явы.

Нейкі час Рыгор сядзеў, як і дагэтуль, заплюшчыўшы вочы, вяртаючы сябе на зямлю. Нібы прыходзіў да памяці і бачыў сябе збоку. Чужы чужога. І, як чужы, падумаў пра сон. Зноў нейкая каша, бруд і неразбярыха.

Выцягнуты ўздоўж аграмаднага дзевяціпавярховага дома двор, лаўка на літых чыгунных ножках, на ёй чалавек з газетай у руцэ. Чытае ці так дзержыць. Лаўку, па ўсім, узялі недзе ў парку, калі тут яшчэ нічога не было, ды так і пакінулі. Добра, што са спінкай, можна прысланіцца плячыма. На вяроўках вецер палошча бялізну. Недзе ў кватэры плача дзіця, малое, відаць, яшчэ да годзіка. За дамамі несціхана гудуць машыны. Там вуліца, бойкая дарога, сваё жыццё.

Рыгор не першы раз тут. І не толькі таму, што ў ягоным двары няма лаўкі са спінкай. Хоць яе і папраўдзе няма. На добры толк мог бы і сам прыдумаць нешта, не маленькі. Тут зацішней, ніхто не трывожыць і ёсць куды глядзець вачам. Прагал між дамамі адкрывае прастору з лугам, вадой, ельнікам за ёй і небам над усім гэтым. Там, пад лесам, ён некалі і жыў.

Сяло цягнулася ў адну лінію, паўкругам па нізу пагорка, і гароды спаўзалі на луг, да ручая. Побач

з хатамі стаялі хлявы і хлевушкі, раслі яблыні і грушы, слівы і вішні. Шмат хто паабзаводзіўся парнікамі. Словам, усё як заўсёды ў падсуседзях у вялікага горада.

Горад жыў сваім тлумным клопатам, але здавалася, што гэта недзе далёка і што так будзе вечна: горад сабе, яны сабе. Толькі калі пяціпавярховыя, а пасля і дзевяціпавярховыя дамы пачалі расці па той бок ручая, усе зразумелі, што горад дабраўся і да іх.

Пайшлі перапісчыкі: хто з кім жыве, хто гаспадар, хто кватарант, хто прыпісаны, хто не прыпісаны. На адной хаце засвяцілася аб'яўка: «прадаецца на знос», потым на другой, на трэцяй... За аб'яўкамі пачалося галоўнае.

Няма горай глядзець на пакінутае ў гарачцы дворышча, на разбэрсаную сядзібу. Паламаныя платы, гнілыя падрубы, вышчарбленыя чыгуны і гладышы, дзіцячыя цацкі, пазрываныя шпалеры... І шмат чаго ўсякага рознага, што гаворыць пра чалавека болей, чым ён сам мог бы расказаць. Хто ён і што ён, чым хварэў, пра што думаў. Збіраў жа ўсё ў кучу, як сарока ў гняздо, і во павыкідваў і збег, не захацеўшы нават зямлю ўпарадчыць пасля сябе.

Ад шашы яшчэ стаялі хаты, а на другім канцы сяла ўжо ваўсю ваявалі бульдозеры, раўнуючы скляпы і печышчы, вырываючы з зямлі і горнучы дрэвы. Потым пайшлі самазвалы.

Не паспеў Рыгор змірыцца з думкай, што трэба будзе зрывацца і яму, як убачыў, што з усяго сяла засталася адна яго хата. І паўз яе, якраз па вуліцы, насыпáлі новую дарогу.

Дарогу падымалі высока, каб на адной лініі вывесці на Лагойскі тракт, і насып дастаў франтона. Вокны, што некалі глядзелі на суседаў двор, цяпер слепа ўпіраліся ў круты адхон — пясок, гліна, каменне. Пайшлі дажджы — і рудая жыжка паплыла ў двор, грозячы затапіць усё, калі гаспадар не будзе варушыцца. Наверсе свежую зямлю ўміналі машыны, шматтонныя каткі разгладжвалі дымны асфальт.

Рыгор не браў задачы спыняць машынны разгул, але абы-куды ехаць не хацеў. І кожны дзень хто-небудзь з зеляноўцаў падыходзіў да адзінокай хаты. Спачатку наведваўся на свой пусты двор, мучыўся

душой па тым, што ад усяго засталося, пасля спускаўся да яго. Гэтыя візіты растраўлялі сэрца, хоць ты скажы ўсім, каб не заходзілі.

Так аднойчы спусціўся і Мікола Верталёт, грузнучы салдацкімі ботамі ў плыўкім пяску. Моўчкі пацiснулі рукі, моўчкі прыселі на лавачку пад слівай, закурылі.

— З'язджай ты адсюль. А то і мне моташна ведаць, што ты сядзіш тут. Як лішні ў бога,— сказаў Мікола. Сказаў спагадна, як свайму. Даводзіў далей: — Ну во, правады паабразалі. На лямпу сеў, як пасля вайны. Добра яшчэ, што калонка ў двары ды дроў хапае.

Яны і не дружылі ніколі, і не сварыліся — так, людзі аднаго сяла. І жылі ў розных канцах. Але гэтая шчырасць кранула Рыгора. Быццам па-новаму ўбачыў чалавека.

— Ды ўжо ж з'еду, куды дзенешся. Каб толькі талковае што далі,— адказаў Рыгор.

Верталёт заседжвацца не стаў. Дакурыў папяросу і пайшоў. А Рыгор яшчэ доўга сядзеў на лавачцы. Думаў пра тое, што гэты Мікола сур'ёзны мужчына, хоць і прычапілі яму такую вясёлую мянушку — Верталёт. Не такі ўжо і Верталёт, калі чужую больку носіць у душы.

Але з'ехаў Рыгор яшчэ не скора. З таго, што давалі, нішто не падабалася. То маленькія, як катушкі, пакойчыкі, то далёка, аж на другім канцы горада, і гола кругом — ні дрэўца, ні кусціка, адны халодныя каробкі.

Сядзеў, як у асадзе, ці яшчэ горай. Тут навісла дарога, засланіўшы свет, паўсюль раўлі маторы. Хіба толькі на яго двары машын не было, але яны запаланілі ўсё кругом. І толькі чакалі каманды, каб накінуцца на яго, скрышыць, зраўняць, каб і звання не засталося.

Але чым болей падганялі, тым большая ўпартасць накіпала ў ім. Аблажылі, як мядзведзя ў бярлозе. Быццам ён у чым вінаваты перад людзьмі. Хацелася на злосць усім назаўсёды застацца тут. Мой двор, мая хата — і пайшлі вы ўсе! Ведаў, што гэтага не будзе, але думкі такія находзілі.

Знайшлася-такі кватэра паблізу, у Зялёным Лузе. Чатыры пакоі, лоджыя, шырокія вокны. Два пазі-

раюць на ельнік, на Зеляноўку. Дзе яблынька-груша, дзе вішанька, там-сям ліпа — вось і ўсё, што засталося ад яе. Але ўсё ж нешта сваё, як адрэзаны палец.

Болей за ўсё спадабалася кватэра Лене, нявестцы. Яна і памеціла: «Тут будзе зала, тут вы, тут мы, тут дзеці...» Хай сабе і дзеці, хоць быў тады толькі адзін Ігар. Жоржа згодна ківаў галавой, усміхаўся. Хаця што Жоржа. Ён заўсёды ішоў за некім: з добрым — добры, з крывым — выручай, бацька. Гэта каб мужчына не меў нічога свайго. А тут дык усё перапаручыў Лене.

Лена... Толькі банцікаў на косах і не хапала, а так школьніца і, можа, нават не дзесяцікласніца, хоць і вучылася ў тэхнікуме. Там яе Жоржа і знайшоў, такой і прывёў у хату.

Вяселле гулялі ўсім сялом. З Ленінага боку была толькі маці. І тая прыехала перад самым вяселлем. Намазаная, накручаная: ці дачку замуж аддае, ці сама туды намылілася. Людзям усё не скажаш, а ад сябе не схаваеш. А я, кажа, і не думала рабіць вяселле. Сышліся — і хай жывуць. Галоўнае — любоў. Дзе любоў — там і шчасце.

Любоў — гэта добра, толькі чаму дачка вырасла без бацькі? Што ты адна ёй дасі? Чаму навучыш?..

У хаце Лена стала сваёй адразу, быццам век тут жыла. «Татачка, мамачка»... Ён не настойваў, каб яна звала так. Чужое — не роднае, навошта ламаць душу. Сама захацела, і не было відно, што ёй гэта ў нагрузку. Надзі такое было па сэрцы. Бабская натура. Як смала: прыгрэў — і размякла, і прыляпілася — не адарвеш...

Надзя пераехала спакойна. «Усё роўна некуды трэба ўсяляцца. А тут добра: і ціха, і ад старой хаты блізка, і дарога такая ж гразкая».

Знайшла роднае. Сёння гразкая, заўтра асфальтам ляжа. Лепей падумала б, як з нявесткай ужывешся. Нейкі чарвяк пачынаў тачыць Рыгораву душу.

— А што нам ужывацца? У іх свая сям'я, у нас — свая.

— Свая-то свая. Але бач, як хлопца да рук прыбрала, нібы і не наш.

— Неяк памірымся.

І мірыліся спачатку. Чаму ж не. Маці дома — за

ёй і яда, і парадак. І малое за ёй, як за каменнай сцяной. Яны кожны ўстаў — і на працу, а ты, бабулька, круціся. Вернецца нявестачка: «Мамачка, мамачка...» А мамачка насоўгаецца за дзень — ледзь ногі перастаўляе. Але маўчыць. Слова добрае пачуе — і то радасць. Бо ад каго дачакаешся. Сын усё моўчкі і ўсё бліжэй да чаркі. І ён, Рыгор: галоўнае праца, а астатняе... Астатняе пасля.

Не нашмат хапіла старой. Унучак рос баявы. Не пасядзіць, не паслухае. Ты — яму адно, ён — другое, і ўсё наравіць наадварот. На што паказаў рукой — давай. А бацькі патакаюць: «Малое само ведае, што яму трэба».

Не надта ведае, вучыць трэба. Паспрабавалі вучыць — і баба, і ён сам. Па хвасту раз, другі. І адразу ворагамі сталі. «Непедагагічна». Гэта Лена. Непедагагічна. А што ён кусок з рота вырывае — гэта педагагічна? І ўсё, і «мамачкі» не стала. «Не ваша справа»,— так і заявіла.

Не наша дык не наша. Рыгор прыняў гэта спакойна, а Надзя заўпарцілася нутром. Гаваркая баба была, адкрытая, а тут як вады ў рот набрала. Ходзіць, усё робіць і маўчыць. Тады, мусіць, і пачала гадавацца яе хвароба. Дрэва пачынае гнісці знутры — гэта ўсе ведаюць. Ведаць бы і тут, калі яно пачалося...

Пераламалася ўсё надта хутка, не паверыў бы, каб хто жаліўся на такое. Было адно — стала другое.

А ўсё ж вясна ідзе, што б там ні гаварылі. Пры сонцы можна і сагрэцца ў зацішку. Заплюшчыць вочы, падставіць твар промням і слухаць, як нешта цёплае напаўняе цябе. Нібы гарачая вада батарэі.

Быццам і драмаў Рыгор, а пачуў далёкае і такое знаёмае вуркатанне. Ціхае і неназойлівае, як вуркатанне соннага ката. Ішло яно з неба.

Рыгор напружыўся, як ад унутранага штуршка, але вачэй не расплюшчваў.

Нібы ажыло, прыпомнілася даўняе. Сорак трэці год. Лес на Магілёўшчыне, пад Цераболлю. Ён ляжыць паранены на калёсах. Недалёка стаяць яшчэ некалькі падвод, на іх таксама ляжаць пакалечаныя партызаны. Чакаюць самалёта «адтуль», з цемнаты, за якой недзе далёка праходзіць лінія фронту. Пры-

ляціць ён ці не прыляціць — ад гэтага залежыць іхняе жыццё. Іхняе, а можа, і ўсяго атрада. Самалёт павінен забраць параненых і аслабаніць рукі атраду, яму яшчэ трэба ісці на прарыў. І першым сігналам, што надзея становіцца рэальнасцю, было вуркатанне матора.

Гэтае вуркатанне партызаны добра ведалі. Не шмат яго было за час жыцця атрада, але было. І яго чакалі. І ў пару блакады, і ў спакайнейшыя дні. Ну што таго самалёціка? Падкіне колькі мяшкоў газет, медыкаментаў, пару дзесяткаў аўтаматаў, скрынак з патронамі, гранат... А не... Самалёт. Ён — «адтуль», і «там» пра іх ведаюць.

У Рыгора скразная рана правай нагі. Куля коса прайшла ніжэй калена, развярнула лытку і адшчапіла кавалак косткі. Аказваецца, шчапаецца не толькі дрэва. Ашчэпак косткі дасталі, рану прамылі, перавязалі, і толькі самалёт можа дапамагчы далячыць нагу. Ці самалёт, ці ніхто.

Над зямлёй — глухая чорная ноч, над Рыгорам цяжарам апушчаных лапак навісае старая елка. Рыгор чуе гэты расслаблены цяжар, нібы той ужо ўзлёг на яго.

Ён трызніць: то правальваецца ў бяспамяцтва, то ачынаецца — і тады такая ясная і чыстая галава. Так добра бачыцца ўсё, што калі было з ім. То школа, і ён павінен адказваць урок, а ўрок не вывучаны; то рэчка, і яны купаюць коней; то начлег, і яму зябка на астылай пад раніцу зямлі. А болей за ўсё ўспамінаецца суседка Раіса, яе твар, яе смех, выцвілая паркалёвая сукенка, у якой яна была, калі яны ўдваіх праз дзірку ў шчыце выкідалі снапы з гумна на двор. Там малатарня, яна раве — аж трашчыць, разламваецца галава...

Рыгор разумее, што яго і яго параненых таварышаў можа выратаваць толькі самалёт, разумее і тое, што калі самалёта не будзе, то ім не жыць. Ён не баіцца *таго*, што чакае іх, хоць паміраць і не хочацца. Для сябе ён ужо ўсё вырашыў. У торбачцы пад галавой разам з самым неабходным — ТТ. ТТ, дзве абоймы, дзве гранаты... Яны адпусцяць атрад, а самі зоймуць кругавую абарону... Назад у зямлянкі не палезуць, застануцца тут, наверсе, пад елкамі. Гэта будзе іх апошні бой.

І тады Рыгор пачуў вуркатанне матора. Ціхае і глухое, быццам самалёт ішоў і не хацеў, каб яго чулі. Ці хацеў, каб чулі толькі тыя, хто яго чакаў.

І праўда — гэта быў самалёт, і ён ляцеў па іх. І вось цяпер, праз столькі гадоў, на разгоне яшчэ не вясенняга, але цёплага дня, Рыгору пачуўся голас таго самалёта. Матор патурчэў і перасціх, і Рыгор падумаў, што гэта яму падалося, прыснілася, як сніліся не раз і той лес, і голас таго самалёта. Але не. Голас гэты пачуўся зноў — і бліжэй, і болей настойліва.

Рыгор расплюшчыў вочы і ўбачыў самалёт. Не з тых цяжкіх аграмадзін, ад якіх стогне зямля, а маленькі «кукурузнік» — страказу з двайным крыллем.

Самалёцік прайшоў над гарызонтам, завярнуў назад і, як свярдзёлак, круг за кругам пачаў увінчвацца ў неба, то хаваючыся за дамамі, то выныраючы з-за іх. Ён забіраўся вышэй і вышэй, і ўжо відзён быў увесь яго маршрут. Вось ён выйшаў на гарызантальны разбег і раптам заціх, нібы выключыўся. Ад яго аддзяліліся дзве чорныя кропкі і паляцелі ўніз. Самалёцік зрабіў новы віраж, зноў выйшаў на прамую лінію. І зноў ад яго аддзяліліся дзве кропкі. Пакуль ён рабіў новы заход, кропкі завіслі на раскрыленых, як абрэзаная з канцоў кілбаса, парашутах. І адразу стала відаць, што пад парашутамі людзі, што яны боўтаюць нагамі, ваюючы з вышынёй і ветрам.

Самалёцік кружыў у небе над колішняй Зяляноўкай, і здавалася, парашутысты прызямляцца тут, па гэты бок ельніку, на месцы былых садоў і агародаў. Але Рыгор ведаў, што гэта не так. Неба і вышыня скрадваюць адлегласць, і парашутысты сядуць за лесам, за кальцавой дарогай. Недзе там стаяў, чакаючы свайго часу, гэты самалёцік, там было чыстае поле для трэніровак парашутыстаў.

Выкінуўшы яшчэ дзве чорныя кропкі, самалёцік хутка развярнуўся і прапаў за лесам. Ён зрабіў гэта так рэзка, што Рыгорава сэрца тарганулася ў трывозе. Колькі разоў ён бачыў, як такія самалёцікі ўспыхвалі ў небе і з дымным шлейфам несліся да зямлі, каб ускінуцца ўгору развітальным веерам агню і асколкаў. Праўда, было гэта ў вайну, не цяпер.

А парашутысты паволі ішлі ўніз. Павіснуўшы на

напятых стропах, яны нагадвалі дзьмухаўцы-пушынкі і, як пушынкі, здаваліся такімі ж лёгкімі. Яны нібы і не спяшаліся садзіцца на зямлю. Задумалі нейкую гульню, пачалі тасавацца між сабой. То адзін заходзіць наперад другому, то адзін ляціць уніз, а другі ўзмывае ўгору. Дзіўна, як ім такое ўдавалася? Гульня гульнёй, але зямля цягнула да сябе, парашуцікі збліжаліся з верхнім беражком лесу і потым, як па камандзе, пападалі за яго.

Неба было чыстым, хоць Рыгору хацелася думаць, што там мог яшчэ нехта застацца. І лётаць, як коршак ці іншая якая вольная птушка. Думкі думкамі, а чалавеку чалавечае. Вунь ужо і холад пачаў падступацца да касцей.

Рыгор зябка павёў плячыма і тут убачыў сына, Анютку за руку дзяржыць. Відаць, толькі што забраў з садзіка. У самога твар пахмуры, быццам чалавек злосны на ўвесь свет. У Анюткі ў вольнай руцэ вядзерца з лапаткай. Пазнала дзеда, узрадавалася.

— Дадула?! — Кінула вядзерца з лапаткай, утапіла тварык у дзедавых каленях. Няма большай шчырасці, як у дзяцей.

— Ага, я, унучка.— Рыгор падхапіў лёгкае цельца малой, ускінуў на руках.

— Ну ты, бацька, і замаскаваўся... Каб спецыяльна шукаў — не знойдзеш,— хрыплаватым голасам прагаварыў сын, пазіраючы паверх Рыгоравай галавы ў двор. Там за рогам дома быў харчовы магазін з вінагарэлачным аддзелам, і адтуль даносіўся людскі шум.

— Ты ж знайшоў... Ды і навошта шукаць. Трэба бацька, то скажы.

— Няўжо ж не трэба... Хай малая пабудзе з табой, а я праскочу ў магазін. Можа, вазьму што.

— То і малую ўжо водзіш туды?

— Водзіш... А куды яе дзенеш?

— Хай пабудзе. Толькі каб Лена язык не трапала. Зноў скажа, што прываджваю малое...

— Не скажа... Паехала на выхадныя ў Вільнюс.— І гэта сын сказаў, пазіраючы некуды ўбок, нібы аббягаючы бацьку вачыма. І так стала заўсёды. Чаго ты хаваеш вочы?

— Што ёй рабіць там, у Вільнюсе?

— Захацелася паехаць — хай едзе.

— А Ігар дзе?

— Таксама скруціўся некуды, можа, на каратэ сваё. У яго свае інтарэсы.

— З яго інтарэсамі школу б як-небудзь скончыць. Шчэ ж толькі восьмы клас.

— Для нас восьмы, а для іх цэлая акадэмія,— хмыкнуў сын.

— То-та што акадэмія... Прынясуць павестку ў суд, тады будзеш ведаць...

— Можа, не прынясуць...— Жоржа пайшоў цераз двор. Анютка паглядзела яму ўслед і пачала церабіць дзеда:

— Дадула, пайсі пакаць пясоцак...

— Які пясочак, унучка, холадна яшчэ, сыра.

— Дадула-Анютка пойдуць пакаць пясоцак,— вяла сваё малая, і Рыгор хацеў ужо ісці шукаць той пясочак, як зноў угары пачулася знаёмае вуркатанне.

— Пачакай, Анютка. Паглянь, ву-у-унь самалёцік. Зараз ён пачне скідваць парашуцікі.— Узяў малую на рукі, павярнуў тварам на голас матора.

Анюта доўга не магла спаймаць у небе маленькі самалёцік, вочы збіваліся на зямлю. Нарэшце, калі самалёцік выйшаў на прамую і выкінуў двух парашутыстаў, яна ўбачыла і іх, і самалёцік.

— Хамалёцікі, пахахуцікі... Пахахуцікі, хамалёцікі,— паўтарала радасна, паказваючы на неба.

І зноў Рыгор глядзеў на рызыкоўную гульню парашутыстаў, радаваўся іхняй смеласці кідацца ўніз, як у вір галавой, трывожыўся, каб хаця добра ўсё было. Да яго нібы вярнулася забытае, даўняе — адчуванне трывогі і нецярпення. Нешта такое находзіла на яго ў партызанах, перад самым пачаткам бою, у чаканні першага стрэлу. Такое нецярпенне, што, здаецца, няма болей сілы чакаць сігналу, вось зараз, зараз...

Ачнуўся: Анютка цярэбіць за рукаў: «Дадула, пайсі пакаць пясоцак».

Пайшлі, дарагая, пайшлі.

Чалавек жыве чаканнем лепшага. А калі яшчэ наперадзе засвяцілася нешта — то і зусім расцвіў. Так было і з Надзяй. Педагогіка — штука добрая,

калі дзіця здаровае. А калі пайшлі хваробы адна за адной — тут ужо трэба ратавацца. А працу таксама не кінеш. Застудзілі вушкі маламу — да каго Лена? Да яе. Зноў: «Мамачка, мамачка...» Ведала, як пад'ехаць. І растала бабуля. Як жа: зноў далучылі да ўнука. У жанчыны душа заўсёды каля дзяцей пасецца, па дзецях кане. Хоць і ў самой хапала болек і сілы ішлі на вайну з імі, але што яе болькі, калі дзіця хворае? Бегае, квокча кругом яго: прымочкі, прагрэвы, ванначкі... Каб бабуля ды не выхадзіла, не вылечыла. Выхадзіла і раз, і два, і... А там і падзякі дажылася.

Рыгор тады наняўся вахцёрам у інстытуце. Занятак для пенсіянераў — дзяжурства на ўваходзе. З абеду да поўначы. Дамоў вяртаўся па той бок ночы, але Надзя звычайна чакала яго.

Тым разам ён знайшоў яе ў пасцелі.

— Нешта мне холадна, мусіць, прастудзілася,— пажалілася яна і заплакала. Падумалася, што слёзы ад хваробы, ад перажыванняў.

Толькі праз тыдзень, калі яму трэба былі грошы на плашч, і ён палез у шуфлядку, дзе яны ляжалі, і не знайшоў іх, Надзя пра ўсё расказала.

— Ён калі-небудзь зарэжа нас. Такія страшныя белыя вочы, пена на губах, у руцэ нож... Я ніколі не бачыла яго такім. «Давай грошы!» Я аддала яму ўсё: «На, сынок, хіба ж можна даводзіць сябе да такога... Ну, трэба табе дзвесце — на дзвесце, трэба болей — прыйдзі, скажы, хіба ж мы ворагі табе — і бацька, і я. Што ёсць — усё аддадзім».

— І Лена была дома?

— Варыла есці на кухні. Можа, яна яго і натравіла...

Рыгор падпільнаваў, калі Жоржа вярнуўся дамоў цвярозы, спытаў: дык што ж гэта такое? Сядзелі на кухні.

Жоржа доўга маўчаў, унурыўшыся, пасля буркнуў, што болей да такога не дапусціцца. Быў п'яны і надта грошы трэба былі. Грошы грашмі, але кідацца з нажом... На маці?..

Пасля таго ўзрушэння Надзя працягнула нядоўга. Плакаў на могілках Жоржа, плакала Лена. Жоржа, не дачакаўшыся памінак, паспеў выпіць, і тут пла-

кала гарэлка. А Лена дык і голас падала: «Мамачка, на каго ты нас пакінула?..»

«Мамачка...» Паслухаць, дык і шкадуе, дык і балюча ёй...

І, як ніколі, стала ясна Рыгору: жыць яму будзе нашмат горай, чым было дасюль. Баба без мужыка сірата, а мужык без бабы — двайная сірата.

Не стала ў хаце гаспадыні. Лена — не гаспадыня. У кіно матануць ці так куды — можа. У турпаход ці на экскурсію ў той жа Талін ці ў Рыгу. А вы тут разбірайцеся, як хочаце.

Пачала самагонку гнаць... Ну, першы раз хай сабе — юбілей спраўляла. Па цяперашняй дарагавізне ды чэргах, дзе ты той гарэлкі набярэшся. Хаця і юбілей смешны — трыццаць пяць. Ну, справіла... Дык зноў... А Жоржа і рады... Не трэба далёка шукаць: нырнуў у шкафчык, а там заўсёды нешта стаіць.

На юбілеі Рыгор і ўбачыў міліцэйскага лейтэнанта. Міліцыянер як міліцыянер. Якая розніца, што на пагонах у чалавека. Вясёлы, жывы і за сталом, і на танцах, ён спачатку спадабаўся Рыгору. Сабраліся маладыя, чалавек з дзесяць, толькі Рыгор і быў са старэйшых. Смех, гамана, тлум. А яму што — пасядзеў трохі і пайшоў у свой закутак. І Жоржа асалавеў. Да танцаў яшчэ дзяржаўся, а пачаліся танцы — заваліўся спаць.

Недзе пасля поўначы выйшаў Рыгор на кухню вады папіць, уключыў святло, а з кухні яны ўдваіх — Лена і лейтэнант.

«Я ж табе казала, што ў цемнаце не знойдзеш».— «Цяпер не знайшоў, другім разам знайду»,— смяецца ён. У яе ў руках пляшка з настойкай. Размінуліся з Рыгорам, пайшлі ў залу.

Рыгор вярнуўся да сябе, але доўга не мог заснуць. Чаго? Здурнеў ці пачаў дурнець... Ну, удваіх. Ну, у цемнаце — дык і што?..

Праз колькі дзён глядзіць — зноў на кухні бітон з брагай. Эге, дарагая, упадабала... Вярнулася Лена вечарам, ён і падышоў. «Ты што ж, дзевачка, пад суд нас хочаш падвесці, пад міліцыю. Я на сваім двары, можна сказаць, у лесе жыў і такім промыслам не балаваў, а тут, у кватэры...» Выслухала спакойна. «Калі вам гэты дух не па носе, забяру бітон з кухні.

Забяру, толькі і чыстага духу не дам панюхаць. Ні на грам. А міліцыі баяцца не трэба. Там таксама людзі».

На тым і разышліся. Бітон пераехаў у спальню, а вечарам за сталом Жоржа спытаў:

— Табе, бацька, ужо цесна стала на адной кухні?

— Па цеснаце то, можа, і не цесна, а смуроду гэтага ў хаце чуць не хацеў бы.

— Смуроду... Бач, які чысты стаў... Н-ну...

— Які быў, такі і стаў. А пра тое, сынок, што бітон гэты табе, можа, болей чым каму не трэба,— ты не думаў?

— Сам ведаю, пра што думаць. Не маленькі.

— То харашэнька падумай. А то, бывае, позна разумнае да чалавека прыходзіць...

Пагаварылі, называецца, бацька з сынам. І не пахвалішся нікому.

Вясна брала сваё. Растаў апошні гарбок снегу пад ракітавым кустом, і дворнік згроб смецце ў кучу, даў волю зямлі. Заклапочана церабіліся вераб'і ў галлі, ладзячыся на новае гняздоўе. Пасвятлела кара таполі, крону абсыпалі клейкія лісткі.

На лавачцы можна было сядзець ужо ў адным світэры і, як добрую неспадзяванку, чакаць двухкрылага вестуна. Сустрэча з ім стала нібы абавязковай, і Рыгор перажываў, калі самалёцік доўга не аб'яўляўся. Так некалі перажываў, калі раптоўны дождж не даваў згрэбці высахлае сена.

Для сваёй гульні парашутысты звычайна выбіралі бязветраны дзень. Унізе строгая сцяна лесу, а над ёй, як узяць позіркам, бяздонная прастора неба.

І вось адтуль, з гэтай чыстай прасторы, раптам прарываўся голас матора. Спачатку абзываўся ціхім, нібы выпадковым вуркатаннем, якое нават цяжка было вылучаць з мешаніны галасоў горада. Але Рыгор ведаў, што гэта ён, яго самалёцік. Нібы пасланец з далёкай планеты, што нёс з сабой нешта такое, аб існаванні чаго людзі здагадваліся, але страцілі надзею, што яно ёсць.

Надзею страцілі, а чакаць — чакалі.

Так надакучыла бачыць паўсюдную грызню — дома, у магазінах, у тралейбусах. Быццам іншага чаго

ўжо і быць не магло, быццам кругом адна пустата і адчуванне тупіка, у які людзі самі сябе загналі. Глядзіш на сварку ля прылаўка з мясам, на тое, як людзі гатовы паперагрызаць глоткі адзін аднаму, і робіцца страшна, да чаго ўсе дайшлі.

Высока ў небе з лагодным вуркатаннем плаваў самалёцік, выпускаў на волю парашуцікі. І Рыгор радаваўся, быццам сам быў там з імі, як роўны з роўнымі. Быццам сам, усімі сваімі жыламі, адчуваў каменную сілу цяжару, што несла парашуцікі ўніз, супраціўляўся гэтай сіле, адцягваючы як надалей сустрэчу з зямлёй.

Верылася, што гэтыя парашуцікі маюць дачыненне да нечага вялікага, свабоднага, да чаго і ён некалі меў дачыненне. Можа, тады, як пасвіў коней над рэчкай. Ці як з Раісай выкідвалі снапы з гумна. Ці ў партызанах. Можа, нават у той вечар, калі ляжаў паранены на калёсах пад елкай з ТТ і дзвюма гранатамі пад галавой. Яму хацелася быць разам з гэтымі вольнымі парашутыстамі. Часам яму здавалася, што ён і папраўдзе там, з імі, у небе.

Гэта было дзіўнае і нечаканае адчуванне. Ён быў аднačасова і тут, на лаўцы, і там, у небе. Вецер шкуматаў яго світэр, прадзімаў наскрозь, абдаючы пругкім холадам цела. Хацелася смяяцца, крычаць ад радасці: «Людзі, апамятайцеся. Паглядзіце, якое неба над вамі, і колькі волі дае яно чалавеку!»

У чалавекаў, што мітусіліся ўнізе, не было часу адарваць галаву ад зямлі. Яны былі ў пастаянных клопатах. Яны былі заняты здабываннем грошай, кватэр, машын, магнітафонаў. А калі ўсё гэта было ўжо, прыдумлялі сабе новыя задачы, каб не спаць ночы, думаючы, як вырашыць іх. Пісалі скаргі, ананімкі на суседзяў і радню, на сваіх і чужых. Сварыліся, біліся, судзіліся. І так усё жыццё — без паслабкі, да апошняй мяжы. Быццам увесь сэнс жыцця і заключаўся ў гэтай незразумелай пагоні за ідэяй быць як усе, быць лепшым за ўсіх. Лепшым за каго?!.

Пасядзіш вось так, падумаеш. Паглядзіш на чужое і дзесяць разоў успомніш сваё. І там, у Зеляноўцы, не мёд быў, а цяпер — быццам бы і мёд. Было нешта такое, што падганяла ноч, каб хутчэй раніца, каб можна было заняць рукі работай. А тут ляжыш і думаеш, каб ноч была даўжэйшая, бо наперадзе

дзень — год, і нічога добрага ён не дакляруе. Адно свята — Анютка. Прыбяжыць з садзіка — адразу да яго дзвярэй. Торгае за ручку, спрабуе адчыніць: «Дадула, пайсі а вулацку. Магазін пайсі, сахаліку пукім. На коніку катацца, хамалёцікі глядзець пайсі».

Апошнія часы шмат гаварылі пра атам, пра вайну. Рыгор не мог слухаць гэтыя гаворкі спакойна. І чым далей, тым болей яны раздражнялі яго.

Ён быў упэўнены, што бомба даўно ўжо ўзарвалася. Страшнейшая за атамную ці вадародную. Людзі адчуваюць на сабе ўздзеянне яе разбуральнай сілы, але не здагадваюцца пра гэта. Дзеці ваююць з бацькамі, каб не даць ім часу жыць, каб хутчэй загнаць у зямлю. Калі б не было страху пакарання, то многія дзеці хавалі б сваіх бацькоў голымі. Каб зэканоміць грошы на адзенні. Сорам, што спракувеку быў меркай чалавека, црапаў. Як папрападалі, павыміраўшы, маманты і іншая безабаронная жыўнасць.

Дык што гэта? Адкуль? Хіба такое можна без узрыву нейкай страшнай бомбы? Толькі людзі прывыклі ведаць, што за ўзрывам абавязкова ідзе выбух. І чым мацнейшы выбух, тым страшнейшая бомба. А тут — ціха. Людзі проста забыліся, што самае страшнае робіцца ў цішыні. У ціхім балоце чэрці водзяцца. І чым болей мы крычым пра любоў, любоў усіх да ўсіх, тым меней яе застаецца. Можа, засталося ўжо столькі, як той чырвонай рыбы ці чорнай ікры. Дзялі як хочаш, а на ўсіх не хопіць...

Неўпрыкмет прыйшло лета, хоць уцехі і не прынесла. То задуха, ад якой некуды дзецца, то раптоўны холад, дождж, золасць.

Такой пагодай пагана сардэчнікам. Парне шылам пад левай лапаткай — і ўсё, ні ўдыхнуць, ні выдыхнуць. Аднак пасядзіш сущішыўшыся, асцярожна ўздыхнеш колькі разоў — і нічога, адпускае.

Самалёціка не чутно было ўжо месяцы два, і Рыгор надумаўся праверыць, чаму гэта. Можа, яго зусім ужо няма ці аэрадром перакінулі куды ў іншае месца?

Жыў у сяле — не звяртаў увагі, калі што рабілася — калі зацвітала, калі адцвітала. Усё жыло само сабой, як і павінна быць.

Сышоў снег — выскачылі жоўтыя стаўбункі падбелу, спяшаюцца на свет са сваёй асцярожнай радасцю.

У лазняку яшчэ мокра, ногі грузнуць, а па леташнім лісці дымок блакітны. Пралескі пайшлі!..

На балоце разгарнула галоўкі лотаць — усё, вясна... І так далей — лета, восень. Прырода завяла парадак — прырода яго блюдзе.

Выйшаў за кругавую дарогу — жыта серабрыцца каласамі, понізу, як у попеле, васількі блішчаць. Паўз лес, між кустоў, трава ў пояс. Усё цвіце, буяе. Мятліца, званочкі, слёзкі, гарошак, браткі, валяр'яна... І сярод гэтага багацця дзед-асот — непадступны, калючы прыгажун.

Чамусьці болей за ўсё ўразіў гэты абавязковы задавака дзікага лугу: стаіць сабе, высока ўскінуўшы бэзавую галаву-шышку, каб усё бачыць і каб яго бачылі. Распрастаў у бакі зубчастае лісце, напружыў жылаватую шыю: не падлазь, укалю! Хоць абкошвай яго, хоць адкідвай граблямі, скасіўшы, а ён усё роўна ўхітрыцца трапіць на воз, а адтуль на вышкі. І зімой, скубучы сена, раптам пачуеш востры, як распаленым шылам, укол іголкі ці, яшчэ лепей,— дзесятка іголак. Гэта калі схопіш пруткую сцяблíну ўсёй рукой — і закрычыш, і затанцуеш. І ўспомніш, як касіў луг, як пот засцілаў вочы, як бабы грэблі сена і як ты вёз яго ў двор, цягаў на вышкі. Усё ўспомніш, пачуўшы рукой гэтага нялюбага, калючага «дзеда». І не будзеш злавацца на яго. Бо ці ж ён вінаваты, што ўрадзіўся калючы?

Пастаяў Рыгор ля «дзеда», правёў даланёй па пушыстай галоўцы. Галоўка пакорліва загайдалася, нібы запрашаючы: а ты вазьміся смялей. І затрымцела нешта ўсярэдзіне. Падумаў пра тое, як пагана ён стаў жыць, нічога не бачыць, нічога не чуе. Так, сам з сабой і сам у сабе.

Вярнуўся на лесавую дарогу, па ёй і выйшаў на чыстае. За драцяной агароджай некалькі невялікіх цагляных будынкаў, цыстэрна для гаручага. А далей — самалёцік, невялічкі шэра-зялёны «кукурузнік». Тут шэра-зялёны, а ў небе заўсёды здаецца серабрыстым. Яшчэ далей — верталёт і вялікае акруглае поле. Гэта на яго садзяцца парашутысты.

Пад фюзеляжам самалёціка ўбачыў двух чалавек

у чорных камбінезонах. Раз ля машыны клапоцяцца людзі, машына будзе жыць.

Назад ішоў праз лес напрасткі. Грыбоў ніякіх не трапілася, хаця асабліва і не прыглядаўся да іх. Пабыў на волі — і то добра.

Выбіраючыся з дому, сказаў Лене, што ідзе ў грыбы і вернецца пасля абеду. І трэба было вяртацца, як казаў...

Адамкнуў кватэру, зайшоў. Ля вешалкі стаялі мужчынскія чаравікі. На Жоржавы непадобныя і для Ігара вялікія.

Са спальні выскачыла Лена — у халаціку, расчырванелая, ускудлачаная. «Чаму так рана? Ці грыбоў няма?» — стрэльнула позіркам на чаравікі. «Ага, няма... Няма грыбоў». Распрануўся, пайшоў у свой пакой.

Зашумела вада на кухні, потым у ваннай. Праз гэты шум было чутно, як шчоўкнуў замок у дзвярах.

Рыгор стаяў каля акна, бяздумна пазіраючы на вуліцу. Па дарозе, як заўсёды, ішлі аўтобусы, тралейбусы, машыны. Ад аўтобуснага прыпынку ўгору да дамоў вяла лесвіца. На ёй Рыгор убачыў міліцэйскага лейтэнанта. Таго самага. Ён кіраваўся ўніз.

Выглянуў у калідор: чаравікаў не было. І дома, акрамя яго, нікога не было.

Не вытрымаў, назаўтра сказаў:

— Ты, Леначка, перадай гэтаму... свайму лейтэнанту, каб абуўку болей не пакідаў у калідоры... Так можна і босаму застацца. Начальства за гэта не пахваліць: не па форме.

Яна доўга пазірала на яго пацямнелымі вачыма.

— Што табе яго абуўка? Як захоча, так і зробіць. І як зробіць, так будзе па форме. А табе, татачка, скажу: надта ты відушчы стаў. Бачыш і тое, чаго не трэба бачыць...

— Дык, можа, мне вочы завязаць?

Бліснула ненавісным позіркам:

— Завяжы. Завяжы, а то завяжуць. Навек завяжуць.— Пайшла ў спальню, але вярнулася: — А будзеш выдумляць, то я скора знайду ўправу. Праведнік зас...

— Праведнік, ладна, але скажы...— Рыгор стараўся быць спакойным.— Скажы, табе не шкода? Ні сям'і, ні дзіцяці, ні...

Лена крыва ўсміхнулася і, зачырванеўшыся, пайшла на яго, выставіўшы наперад грудзі. Яна і цяпер была ў халаціку, ён расхінуўся, паказаўшы напаўаголенае цела.

— А хто мяне пашкадуе, хто?..— зашаптала пабялелымі губамі.— Ён мужчына, а не размазня...— І раптам закрычала — дзіка, быццам яе збіраліся забіць: — Адстань ад мяне, не прыставай! Адстань! Людзі, людзі, што ён робіць? Ты, стары хрэн, куды лезеш... Людзі! Людзі!..

Яна напірала на яго, піхала грудзьмі і крычала, крычала. Дзверы на лесвічную пляцоўку чамусьці былі адчынены, вокны на кухні таксама. Твар яе пабялеў, вочы наліліся крывёй. На губах з'явілася пена. Лена зрабілася як ненармальная. Зачапіла рукой тэлефонную паліцу, тэлефон бразнуўся на падлогу.

Задам-задам Рыгор вывернуўся да свайго пакоя, ускочыў, падпёр плячыма дзверы. За імі доўга крычала, насілася нявестка.

«Стары бабнік, стары казёл... Я Жоржу скажу, ён табе пакажа. Ён табе ўкажа, ён табе ўправіць мазгі».

Суцішылася, пачала некуды званіць па тэлефоне. Рыгор прылёг на канапу, няўцямна пазіраючы ў столь. Не заўважыў сам, як задрамаў. Разбудзілі галасы:

— Дзе ён?

— Тут.

У дзверы пастукалі. Рыгор адчыніў. У калідоры стаяў малады вусаценькі міліцыянер. З-за яго пляча выглядала заплаканая Лена.

Убачыўшы міліцэйскія пагоны, Рыгор падумаў: «Цікава, а чаму не той?..»

— Гэта ён, стары кныр! У-у-у!

— Пакіньце нас,— нецярпліва сказаў міліцыянер, зачыняючы за сабой дзверы.— Можна прысесці?

Рыгор паказаў на крэсла, сам сеў на канапу. Лейтэнант дастаў з папкі паперу, ручку, расклаў паперу на стале.

— Ну, што ў вас тут адбываецца?

— Нічога.

— А ўсё-такі? — лейтэнант пасунуў да сябе ліст.

— А ўсё-такі... трэба рабіць тое, што гаворыш.

Сказаў, што едзеш у грыбы — едзь у грыбы. Сказаў, што прыедзеш пасля абеду — прыязджай пасля абеду. Нечага вяртацца раней. Бо, можа, тут не ўсё паспелі зрабіць, што хацелі, і, можа, ты ім перашкодзіў.

— Не разумею,— вочы міліцыянера засвяціліся жывым інтарэсам.

— І я шмат чаго ў гэтым жыцці не разумею.

— І ўсё-такі...

— Пагаварыце з ёй. Яна ўсё раскажа. Калі захоча. Калі захоча, раскажа. А мне нечага болей ўлазіць. Ды і пад лапаткай калоць пачало. Я прылягу.

Рыгор укінуў у рот таблетку валідолу, прылёг.

Лейтэнант пасядзеў нейкі час каля стала, пазіраючы на старога, сабраў паперу назад у папку і ціха выйшаў.

І пайшло. Быццам сарваўся камень з гары і пакаціўся ўніз, збіваючы новыя — большыя і меншыя. І, можа, не столькі тых камянёў — колькі шуму і грукату. І не супакоіцца ўсё гэта, пакуль не абрынецца ўніз, не ўляжацца, не заглухнуць адгалоскі...

У хаце нібы пацішэла. Лена не заўважала свёкра. Ды ён і сам стараўся не бачыць яе. На кухню выходзіў, калі ўсе разыходзіліся, гатаваў што-небудзь збольшага, еў, не чуючы смаку, паволі, як па прымусу, жуючы. Днямі мог не браць нічога ў рот і голаду не чуў. Тэлевізар глядзеў, калі нікога дома не было.

Падсмажыў неяк сала, разбіў два яйкі, павярнуўся паставіць скавараду на стол — нехта штурхель пад локаць. Скаварада загрымела ўніз, яйкі і сала паплылі па падлозе.

— Ужо і скавараду ўдзяржаць не можа!

Лена!.. Ці не пайшла на працу, ці рана вярнулася. Стаіць у дзвярах, ухмыляецца. Нічога не сказаў. Узяў анучу, пачаў выціраць падлогу.

Ігар прывёў Анюту. Малая ўбачыла дзеда, кінулася да яго:

— Дадула, пайсі а вулацку. Хлеб пукім, хамалёцікі пукім...

— Купім, мілая. І хлеб, і самалёцік.— Узяў на рукі даверліва цельца.

Выскачыла са спальні, схапіла малую, панесла. Тая ў крык, у слёзы.

— Хай ён здохне, твой дзядуля. Маладыя памі-

раюць, а гэтаму ўсё сходзіць. Доўга ён яшчэ будзе ссаць нашу кроў... доўга.

Рыгор прысланіўся да сцяны. Ігар увесь гэты час стаяў у калідоры. Не вытрымаў, кінуўся ўслед за маці:

— Што ты да яго маеш? Што ты ад яго хочаш? Гэта яго кватэра, гэта яго хата!

— У Навінках яго хата. У Навінках ці на могілках!..

Жоржа рабіў выгляд, быццам не бачыць, што робіцца дома. Уставаў рана, вяртаўся позна. Вячэра, тэлевізар і — на бакавую, да раніцы.

У той дзень прыйшоў раней, пляшку віна прынёс. «Пайшлі, бацька, павячэраем». Можна і павячэраць, ды яшчэ так, без нікога. Рыгор адчуваў, што сын наважыўся сказаць нешта сур'ёзнае.

Прыкусвалі, маўчалі. Першы загаварыў Жоржа.

— Ты і ўпраўду надумаў дзяліцца?

— Упраўду, сын. Разменімся, раз'едземся, вы жывіце, як хочаце, і мне нейкі спакой патрэбен.

— Ну не, бацька. Так дзела не пойдзе!

— Як гэта не пойдзе?

— Ну, раз'едземся. Ты...— Жоржа мелькам зірнуў на бацьку,— ды што тут мудрыць, мы ж дарослыя людзі... Ну, здарыцца з табой так, як з мамай, і ўсё ляснула. І кватэра твая, і ўсё астатняе. А вы тут душыцеся, як хочаце.

— Здарыцца, кажаш... А можа, яно і не скора здарыцца? А можа, сынок, і я яшчэ чалавека сустрэну? Для жыцця. Трэба ж, каб нехта і пра цябе думаў.

— Ах, вунь яно што!.. Так бы і сказаў, а то водзіць, водзіць. Бабы захацелася... Яму баба маніцца. А я думаў, што гэта Леніны выдумкі.

Рыгор глядзеў на сына, шырока раскрыўшы вочы:

— Ты гэта пра што?

— Пра тое, усё пра тое. Дык ведай, калі такое яшчэ раз паўторыцца, то не пагляджу, што ты і бацька. Я гэта з дому — грошы зарабляць, а яму не ляжыцца. Бабу яму падавай. Бач, да міліцыі дзела дайшло.

— Ты што, саўсім ужо з каткоў з'ехаў? Каб я...—

Рыгор устаў з-за стала.— Ці ўжо ўсё прапіў, да канца?..

— Я не з'ехаў, а ты, ты...— Жоржа таксама ўскочыў, падаўся да бацькі. Вочы пабялелі, быццам пакрыліся плеўкай. «Як тады, з Надзяй».— І запомні: ніякага размену. Ні на які размен я не пайду!

— Запомніў, сынок, добра запомніў. Толькі тут не твая воля будзе.— Рыгор павярнуўся і, шукаючы нагамі падлогу, выйшаў з кухні.

За дзвярыма было ціха, быццам усе павыміралі. Толькі ранічкай, калі Анюту збіралі ў яслі, а яна капрызіла, чуваць былі прыглушаныя галасы. Потым і іх не стала. Адно на кухні бубнела нявыключанае радыё.

Рыгор ляжаў, утаропіўшы вочы ў столь, не то спаў, не то трызніў. То правальваўся ў бяспамяцтва, то вяртаўся да рэальнасці, прывыкаючы да ўсяго з самага пачатку, пазнаючы, як пасля доўгага расстання, і свой пакой, і хто ён сам, і што з ім адбываецца. І чым далей думаў, тым болей пераконваў сябе, што, мусіць, нічога *такога* не адбываецца, мусіць, так і трэба. Ва ўсіх так, каго ні паслухай. Ну, пасварыўся з нявесткай, пасварыўся з сынам. Ці ты першы, ці ты апошні. Яны вінаватыя, а можа, і ты вінен. Чаго ўбіўся ў іхні парадак? Не падабаецца? Шмат каму што не падабаецца, дык і што? І хто ты такі, каб суд вяршыць?..

Сабраўся на Камароўку, купіць маладога сала. Хадзіў між сталоў, прыглядаўся, прыцэньваўся. Шмат усяго ўсякага — і свайго, і прывазнога. Праўда, і цэны, хоць вочы заплюшчвай.

Убачыў грыбы. Самому не собіла набраць, дык хоць тут падзівіцца. Болей лісічкі, апенькі, там-сям баравічкі. Ого, цэлы кош! Дзе чалавек і набраў? Узняў вочы на прадаўца — Мікола Верталёт! Бародка рудая, вусы рудыя, лысіна брылём накрыта — а каб ты здароў быў!

— Што, кажуць, грошай бракуе?

— Яно і грошы ёсцека, але ж і рабіць нешта трэба.— Верталёт глянуў паверх людскіх галоў і пракрычаў, як малады певень, тонкім галаском: — Каму грыбы? Каму грыбы? Па дзяшоўцы, па вяроўцы. Ка-

му грыбы? — Усміхнуўся: — Ты адвярніся на хвілінку, пакуль я іх збуду, ды праедзем ка мне. Тут блізка, два пралёты аўтобусам.

Рыгор не стаў упірацца. Праехалі тыя два пралёты, зайшлі ў хату. Сядзелі за сталом, гаварылі. Два перасяленцы, два бабылі. У Верталёта таксама жонка памерла. Жыў з дачкой. Дачка, муж, дзіця. Забыліся і на пляшку, што стаяла між імі на стале, і на скавараду з салам, што купіў нібы пад гэтую прычыну Рыгор. І ў абодвух было адчуванне блізкасці, можа, нават большай, чым яна была там, у сяле.

— Дык што гэта такое, Мікола? Што гэта за парадак? — дапытваўся Рыгор.

— А якога парадку ты хацеў? Маеш сілы ваяваць — ваюй, не маеш — змірыся.

— З кім ваюй і з чым, кажуць, змірыся?

— Ваяваць... Ваяваць?..— Верталёт аж падскочыў на стуле, нібы толькі цяпер задумаўся над тым, што сам сказаў.— І праўда, быццам і няма з кім ваяваць. Быццам усё, як трэба, па закону.

— Во-во, па закону,— торкнуў угору пальцам Рыгор.

— А змірыся...— Верталёт закрамянеў тварам, узвысіў тонкі голас.— Змірыся з тым, што ты ўжо ніхто. Лішніца, пустое. Копціш свет, блытаешся пад нагамі.

— У каго гэта я блытаюся?

— У маладзейшых, у быстрэйшых. Як цяпер гавораць: у прагрэсу!

— Хай бы хто хоць раз толкам расказаў, што гэта такое — прагрэс? І для каго ён?.. Для людзей? Дык пасмею думаць, што і я чалавек і што мне балець можа.— Намаўчаўся Рыгор у адзіноце, і яму карцела пагаварыць з блізкім чалавекам.

— Баліць... Каго цікавіць тваё баліць? — Верталёт, як заўсёды, быў круты на слова. Толькі тут сказаў стомлена, быццам выдыхнуўшы апошнія сілы.

— То-та і яно, што нікога,— сказаў Рыгор. Падумаў і дадаў: — Лічы, што нікога.

Пасядзелі яшчэ, паўспаміналі даўняе, селавое. Рыгор даў Міколу свой адрас, тэлефон.

— Цяпер твая чарга.

— А што — як-небудзь і зайду,— скалануў галавой Верталёт.

— Не «як-небудзь», а зайдзі,— нібы ўжо і папрасіў Рыгор.

Прыслалі цэтлік з палiклiнікі. Рыгор ужо і забыўся, калі бачыў такія. Ажно не, клопат у людзях жыве, успомнілі... Рыгор Іванавіч... Доктар Сергіеня В. І. просіць вас... кабінет... у 10 гадзін...

Запрашаюць — то трэба ісці. Дрэнна спіцца апошнім часам, то, можа, таблетак якіх выпішуць.

Зайшоў. Малады хлопец. Як і трэба — белы халат, белая шапачка. Уважлівы, насцярожаны позірк. «Як жывяце, як чуеце сябе? На што скардзіцеся? Дрэнны сон? У такіх гадах — не дзіва. Пастаўце ногі разам, не напружвайцеся». Стукнуў малаточкам па адным калене, па другім. «Пакажыце язык, зубы. Заплюшчыце вочы, выцягніце рукі. Гарэлку п'яце?» — «Ніколі не хварэў па ёй».— «Але і не працаўнік?» — Усё неяк весела, з усмешкай, як да дзіцяці.— «Няма каму супрацiўляцца, няма з кім хаўрусаваць. Хіба яшчэ Верталёт застаўся».— «Хто такі Верталёт?» — «Так, чалавек».— «Чалавек — гэта добра. Гэта добра, калі ёсць чалавек. Чалавек — гэта гучыць горда. А як з жанчынамі?» — «Што?!» — «Вы не палохайцеся, мы ж мужчыны. Ды і я не проста так пра жанчын. Усё гэта жыцейскае...» — «Да дзевак запрашаеш? Калі так, то чаму ж...» — сумна пажартаваў Рыгор. «Я сур'ёзна»,— пазірае ў вочы, быццам во ён ужо злавіў злодзея. «І я сур'ёзна».— «Бывае так, ведаеце: сівізна ў вус, а чорт пад гэта самае, пад рабро...» — «На маладое цягне?» — «Можна і так сказаць. Сілы няма, а ахвота застаецца. І тады бывае ўсякае — і бяссонніца, і кашмары... Я гэта з рабочай практыкі ведаю».— «З якой практыкі?» — «З гэтай,— паказаў вачыма на кабінет.— Дык як з жанчынамі?» — «Як і з бабамі!» — зазлаваў Рыгор. Чаго я сюды папёрся, дурань.— «Што?» — «А тое, што не магу без іх. Ноччу дык проста месца не знаходжу. Вось так бы ўзяў і з'еў яе, каторую, усю, жыўцом». Рыгор устаў, падаўся да доктара, быццам збіраўся ўкусіць таго.

Доктар адступіў да сцяны: «Што вы, што вы, супакойцеся... Су-па-кой-цеся!»

Рыгор выскачыў у калідор. Пад дзвярыма сядзелі людзі — і пажылыя, і маладыя. Чакайце, мілыя, да-

чакаецеся. «Як з жанчынамі?..» Ды я даўно забыўся, што гэта такое баба пад бокам.

Доктар як наваражыў. Рыгору сaснілася жанчына.

...Яе звалі Раісай. Раіса, Рая — непаседлівая, бесклапотная весялуха. Былі яны аднагодкі, і двары іхнія стаялі па розныя бакі вуліцы. З Раісай было лёгка і проста. Свойская, кампанейская, як хлопец. Хоць у лес, хоць на рэчку, хоць у чужы сад. Не прадасць, не выдасць. І гарнулася болей да хлопцаў, чым да дзяўчат.

Вясковыя законы простыя і адкрытыя. Кожны ведае, у каго якія дровы гараць у печы і што варыцца ў чыгуне. Дзеці растуць, пераймаюць адно аднаго, доўга не разбіраючы розніцы, хто яно — хлапец ці дзяўчынка. Але настае час, і законы рознасці прымаюць свае формы, і тыя вольнасці, што лёгка дазваляліся яшчэ ўчора, робяцца немагчымымі. Значыць, дзеці перасталі быць дзяцьмі.

Была восень, у калгасе малацілі жыта. Два гумны было набіта снапамі пад самы вільчык, і праз дзірку ў шчыце іх трэба было падаваць на двор. Там мужчыны лавілі іх на вілы і кідалі на столік малатарні. Малатарня не любіць чакаць. Тарахціць трактар, гудзе барабан, глытае снапы як прорва: давай, давай!

Перад абедам яны засталіся на тарпе ўдваіх. Раіса падкідала снапы да шчыта, а ён ужо далей — на двор. Зверху нічога, а чым ніжэй, тым цяжэй. Разагрэліся, успацелі. Грукат, пыл, чыхаўка. Губы пасмяглі: піць. Вочы ў Раісы блішчаць, смяюцца. Час ад часу яна бярэ пальцамі сукенку ля каўняра, скаланае, каб астудзіць разагрэтае цела. Рыгор бачыць усе яе рухі, бачыць, як сукенка адстае ад цела, агаляючы ногі вышэй каленяў, і чамусьці адводзіць вочы. Усё гэта трывожыць яго. Такое з ім першы раз, ён не можа зразумець, што гэта такое, але ўсё гэта так соладка трывожыць.

Трактар заглушаюць на абед, можна перадыхнуць. Раіса кідае сноп, трапляе Рыгору ў спіну. Ён ёй назад. Яна ловіць і зноў яму. Быццам і няма стомленасці. Сышліся, учапіліся ў сноп, цягнуць кожны сабе. Аб'язджаюць снапы зверху суседняй тарпы, накрываюць абаіх. І там, пад снапамі, яны ваюоць між

сабой, хоць і самі не ведаюць, за што ваююць. Яго рука лягла на яе нагу вышэй калена, ён замірае. Якая гладкая, атласная скура!.. Якая яна гарачая! Шалёна б'ецца сэрца, у горле перасохла, у галаве дзіўны звон... Нейкі момант і Раіса ляжыць ціха, напружыўшыся, нібы спуджаная трывожнай нечаканасцю, пасля рванулася, раскідала снапы, устала каля сцяны, абцягваючы сукенку.

— Ну, ты! — бліснула на яго вачыма.

— Што я?..

— Нічога...

— А ты чаго?

— А таго!..

Прыгладзіла валасы і раптам загадала, нібы мела на гэта права.

— Пайшлі абедаць! — І першая з'ехала па снапах на ток.

Пасля абеду Раіса працавала моўчкі, зацята, нібы ўсе думкі былі заняты толькі тым, каб кідаць і кідаць снапы Рыгору пад рукі і каб ён мог падаваць іх туды, дзе раўла малатарня. Некалькі разоў ён лавіў на сабе яе цікаўны, нібы насмешлівы позірк. Паспрабаваў паўтарыць гульню са снапамі, але яна не пайшла на яе.

— Вечарам на вуліцу выйдзеш? — спытаў сухім языком.

— Выйду,— ціха адказала яна.

Ён не ведаў, што з ім робіцца, але адчуваў, што робіцца нешта вельмі важнае. Ён адчуваў, што стаіць на парозе, за якім вялікая таямніца, якую хоча спасцігнуць кожны. Думкі былі толькі пра Раісу, пра той момант, як яны апынуліся пад снапамі.

Вечарам яны сядзелі каля Раісінага двара на лавачцы. Было цёпла. Раіса была ў другой сукенцы, але ад яе ўсё гэтак жа пахла жытам. Ён абняў яе, торкнуўся губамі ў яе губы. Яна не працівілася, прыціснулася да яго.

— Пайшлі ў наш сад,— прашаптаў ён. Там была капа сена.

— Зараз мама пакліча,— адказала Раіса стомленым шэптам. І праўда. Недзе следам расчыніліся створкі акна на вуліцу і пачуўся грубы голас Раісінай маці:

— Рая!

— Ну...
— Ідзі спаць...
— Іду!..

Яны яшчэ нейкі час пастаялі ў цемнаце каля варот, прыціснуўшыся адно да аднаго, адчуваючы адно аднаго, і ім не было сорамна гэтага. Ім не хацелася разыходзіцца, але зноў расчынілася акно:

— Раіса!..

Раіса нічога не адказала. Павярнулася і пайшла. Бразнула клямка, зачыняючы за ёй варотцы, рыпнулі дзверы сянец. І ўсё сціхла.

Пасля восені была зіма, была вясна. З Раісай яны бачыліся кожны дзень, і па некалькі разоў на дзень — і ў школе, і дома. І ні разу болей ніякім знакам Раіса не падала выгляду, што помніць пра той дзень.

А ён помніў.

Што гэта было? Простая цяга да забароненага, але што абавязкова павінна некалі збыцца, праз што праходзяць усе і што ў кожнага сваё, непадобнае ні на што? Шал крыві? Жаданне адчуць сябе мужчынам, сцвердзіць сябе як мужчына? Мужчына — трынаццаць гадоў?! А можа, гэта было каханне — першае наіўнае каханне? Можа, таму Рыгору так часта ўспаміналася тая малацьба і той вечар. І было ў тым успаміне нешта вельмі цёплае і добрае. І было шкадаванне таго, што магло быць, але чаго не было і ніколі не будзе.

Пасля вайны Раіса паехала па вярбоўцы, выйшла там замуж, нарадзіла трое дзяцей... Дамоў ужо не вярнулася. Ці жывая яна, ці, можа, памерла. А во саснілася. І чыста так, ясна, быццам гэта было ўзапраўду. Здаецца, абдымае ён яе, цалуе. Яна ў той лёгенькай, паркалёвай сукенцы. Рука яго забралася пад сукенку, ён гладзіць яе маладзенькія, крэпенькія гурбячкі грудзей. І яна ахвотна паддаецца яму, хоча яго, і ён хоча яе...

Прачнуўся Рыгор з салёным прыкусам на губах. Прыпомніў сон і з сумам падумаў, што нехта падражніўся з ім. На некалькі хвілін вярнуў маладосць, каб тут жа забраць назад.

Мікола Верталёт не любіў надоўта адкладваць тое, што можна было не адкладваць. Тым болей госці.

Ды цяпер, на старасці гадоў, калі, устаўшы раніцой, не ведаеш, як дастаць канца дня. А была нядзеля, ва ўсіх вольны дзень.

Пагаліўся, надзеў свежую кашулю, укінуў у сетачку банку марынаваных грыбоў: хай і Рыгор ацэніць яго тварэнне. Знайшоў паперку з Рыгоравым адрасам і паехаў.

А што тут ехаць: адным транспартам, без перасадак — зайшоў і выйшаў.

Дзверы адчыніў Жоржа, Мікола пазнаў яго адразу, хоць і не бачыў гадоў з дзевяць. Парода сваё кажа — і вушы, і вочы, і рот. У бацьку пайшоў.

— То добрага дня ў хату,— сказаў весела, заходзячы ў калідор. Знайшоў пры парозе вешалку, пачапіў шапку.

Жоржа нібы сумеўся: ці не пазнаваў, ці так прыглядаўся да госця. Стаяў, распусціўшы губы.

Мікола здзеў з плячэй плашч, але дзяржаў у руцэ.

— Бацька дома? Як ён?

— Н-нічога, ён нічога...

Аднекуль выбегла дзяўчынка гадоў пад тры, падышла да Жоржы.

— Дачушка?

— Ага, меншая, Анюта.

Дзяўчынка прыцёрлася галоўкай да бацькавага калена, прагаварыла, не зводзячы вачэй з госця:

— Дадула паехаў...

— Ага, дзядуля. Дзядуля прыехаў,— Мікола пагладзіў малую па галоўцы.— Дык што бацька?

— Нічога страшнага. Прыхварэў трохі.

— Што такое? Ці даўно бачыліся, і во табе. Хаця, хвароба, як грыб, вылазіць дзе ўздумала. Ён дома?

— У бальніцы. Але гэта так, прафілактыка... Праверыцца, падлячыцца.

— У каторай жа ён? Бач ты, як усё робіцца. Мы, кажу, нядаўна з ім бачыліся. Планаваў госці, ды сам у госці трапіў. І даўно?

— Ды з тыдзень ужо... Але нічога, павінны скора выпусціць.

— Гэта дома скора, а ў бальніцы... дзень векам здаецца. Я ведаю. Дык дзе ён ляжыць? — Мікола надзеў плашч, забраў з вешалкі шапку.

— Дадула паехаў,— паўтарыла дзяўчынка, скубучы бацьку за калашыну. Цяпер і Мікола зразумеў,

што сказала малая, спытаў, быццам ужо ў яе: — Дык куды паезаў дзядуля?

— Далёка. Ма дадулі.

— Ну што ты прычапілася! — раптам зазлаваў Жоржа. — Ідзі гуляй з цацкамі! — Адвёў дачку, зачыніў за ёй дзверы, вярнуўся. Мікола глядзеў на яго, чакаў. Не ўцерпеў:

— Ці... ты не хочаш сказаць мне, дзе ён?

— Хочаш не хочаш... Далёка гэта, ды і не пускаюць туды...

— Чаму гэта не пускаюць? Ва ўсіх бальніцах пускаюць, сёння якраз нядзеля. А далёка... Што-та за далёка ў горадзе?

— За горадам ён. У Навінках.

— У Навінках? У Навінках... І што яму рабіць у тых Навінках? Там жа псіхі ды алкаголікі... Пастой, ён сам захацеў туды?

— І сам, і дактары. Хай паглядзяць, праверадь. Такі нервовы стаў, нецярпімы. Кідаецца на ўсіх.

— Як гэта кідаецца? Я ж з ім толькі што... Ты быў у яго, што ён?

— Быў. Ён нікога бачыць не хоча. Перадачу і тую не ўзяў... Сказаў, каб не прыязджалі.

— Ага, дык ты яго ў Навінкі завёз. А я думаю, што ён круціць хвастом. Ажно ён бацьку... у дурдом. Маладзец, Жоржа, маладзец... І правільна, так і трэба. Навошта ён тут, што з яго цяпер возьмеш. А там надзейна. Кажаш, нікога не пускаюць? Не пускаюць... Пусцяць! Я папрашу, каб пусцілі.

Мікола выйшаў, ляпнуўшы дзвярыма, але ўспомніў, што забыўся грыбы, вярнуўся назад. Ні слова не гаворачы, абмінуў Жоржу, забраў сетачку і ўжо не стаў чакаць ліфта — пайшоў уніз сам.

Усё сталася так нечакана і так не па-людску, што і не раскажаш нікому. Сын адправіў бацьку ў дурдом. Нармальны сын нармальнага бацьку. Хаця нармальныя не адпраўляюць. І нармальных таксама. Так што, кажуць, жыві, Рыгор, і радуйся. Радуйся, што знайшоўся Верталёт. А то і цяпер лячыўся б...

Ніколі не думаў, што той такі настырны. Адкуль што і ўзялося. І да дактароў, і ў райком, і да міністра. Людзей падняў з усяго дома. Рыгор іх і не ведае, а

яны знайшліся. І ўсюды пісьмы. Хочаш не хочаш, а пісьмы чытаць трэба. І адказваць на іх трэба. Навошта запёрлі здаровага чалавека ў псіхбальніцу? Па якому праву? Так можна і ўсіх перасадзіць. Хапай і вязі, а там дакажы, што ты не дурань. А калі яшчэ сынок ідзе ззаду, угаворвае: «Пабудзеш трохі, тата, у бальніцы, падлечышся — і дамоў». Рыгор і не думаў, што едзе ў Навінкі. Думаў, у гарадскую бальніцу. Бо яно і праўда — нервы сталі нікудышныя. І сын ідзе ззаду. Угаворвае, хоць вочы і хавае.

Яно і ў Навінках можна было б пабыць, калі б не думаць пра ўсё. І калі б ні з кім не гаварыць. Дык жа лезуць з усіх бакоў гаварыльшчыкі, пішчом лезуць. Кожны хоча расказаць — пра сябе, пра радню, пра дзяцей. Якая яна ва ўсіх харошая, радня, якія яны харошыя, дзеці.

І калі б не Анютка. «Дадула а вуліцку пайшоў. Дадула магазін пайшоў. Дадула Анюты сахалік плынясе...» Адтуль прынясеш сухарык...

І адкуль бог паслаў гэтага Верталёта? Як ён смела ўсё раскруціў. Нават доктару спадабаўся: «Добры ў вас брат, упарты».— «Гэта не брат, гэта сусед».— «Сусед? Мне ён назваўся братам. А калі сусед — тым болей добры. Упарты».— «Упарты, дзякуй яму».

Мала ўсяго — дык і на таксі дамоў прывёз. «Хай ведаюць!» Хто гэта будзе ведаць...

Вярнуўся Рыгор — як у чужы дом. Усё тое і ўсё чужое. Нават пакой стаў вуглаваты, халодны. І шпалеры, і шафа, і канапа. Усё нейкае казённае. Як там, у Навінках. Хоць бяры і памяняй усё. Толькі Надзін партрэт і пакінуў бы. Яе ўсмешка: і радасць, і нейкая гарчынка, як дакор, у вачах. Ды Анюцін галасок. Два дні чуў яго праз дзверы, а саму не бачыў. Не пускалі. Потым зазвінеў тэлефон, выйшаў узяць трубку, і яна выбегла на калідор. Выскачыла і супуцілася. Падыходзіла ціха, нібы не верачы, што гэта ён самы.

— Дадула пыехаў... Дадула пыехаў!..

Узяў на рукі, прыціснуў. «Прыехаў, унучка, прыехаў...»

Гэтым разам ніхто яе не адабраў.

Ігар зайшоў у той жа вечар. Стаў каля дзвярэй, прысланіўшыся плячыма да вушака, сказаў з нечаканай, нібы вінаватай усмешкай:

— Здароў, дзед.— Голас яго ўжо ламаўся на бас.

— Здароў, унучак.

Пазіралі адзін на аднаго, маўчалі. І было ў гэтым маўчанні нешта такое балючае, што ў Рыгора зашчыпала вочы.

— Дык як ты? Як табе?...— Ігар і хацеў і не ведаў, як падступіцца да дзеда.

— Нічога, бачыш, вярнуўся... Чаго ты стаіш? Прысядзь.

— Можна і прысесці.— Сеў на стул, не спускаючы вачэй з дзеда.

— Чаго ты маўчыш? Раскажы пра сябе. Як школа?

— Усё як заўсёды, нечым хваліцца. Можа, табе памагчы што?

— Нічога не трэба.

— Тады я пайшоў? — Ігар устаў.

— Ідзі. Калі што, я скажу.

Ігар выйшаў, асцярожна прычыніўшы дзверы. Рыгор уздыхнуў — і цяжка, і горка, і нешта цёплае, як цененькі званочак, ажыло ў ім.

З тыдзень не мог спаць. Усё здавалася, што ён не дома, а там. І першае важнае, што зрабіў, навучыўшыся засынаць без снатворнага,— занёс у вячэрнюю газету аб'яву на размен кватэры. Тыдні тры прайшло ўжо, а аб'яўкі няма. Праўда, яму і казалі: вялікая чарга, давядзецца пачакаць... Але ўсё ж тры тыдні...

Як і раней, прыходзіў на сваю лавачку, сядзеў падоўгу. Драмаў, думаў, чакаў свой самалёцік.

Дзень гразіўся быць душным. Сонца доўга плавала ў шэрай пене, пакуль выбілася на волю, расчысціла неба. Ад лесу пацягнуў нізавы вецер — з ім стала лягчэй.

Высока над галавой на загарадні аэрадром праплывалі цяжкія пасажырскія самалёты. Натужны гул доўга стаяў у паветры, нібы ішоў з нутраных нетраў зямлі, перакрываючы ўсе галасы.

Рыгор прагледзеў газеты. Усе яны цяпер пісалі пра перабудову. Перабудову ўсяго і ўсіх. Каб і звання не засталося ад непарадку і подласці. А куды яно дзенецца? Усё гэта з людзьмі, ад людзей. Хату перасыпаеш — труха вочы забівае—. А тут людзі, і кожны

наравіць сваё ўрваць. Паспрабуй дакажы, што гэта няможна. Разбарсаліся. Зняверыліся і ў сабе, і ў другіх. Робіць і нікому не верыць.

Самалёцік абазваўся нечакана, як рабіў гэта і раней, але сёння Рыгор узрадаваўся яму болей, чым калі. Можа, таму, што пасля Навінак гэта было першы раз. Самалёцік нібы таксама хацеў заявіць усім: «Вось ён я — жыву. Жыву — што б там ні было».

Узяўшы разгон за кальцавой дарогай ён лёгка вынырнуў з-за лесу і пайшоў увінчваць спіраль у шэры блакіт.

Рыгор пазіраў угару, куды самалёцік яшчэ павінен быў забрацца, і думаў пра тое, якая там яму воля. Ляці куды хочаш, рабі што хочаш.

І самалёцік, мусіць, гэта добра ведаў і забіраўся ўсё вышэй і вышэй. Вось і сам ужо стаў маленькі, як коршак. Значыць, сёння будуць зацяжныя скачкі. Парашутысты каменем ляцяць уніз і толькі над самай зямлёй раскрываюць парашуты. Рыгор не любіў такіх скачкоў. А што, калі парашут не раскрыецца?

Тым часам самалёцік выраўняў крылле, нібы завіс на адным месцы, і ад яго аддзяліліся адна-дветры кропкі. Яны доўга ляцелі, як і выкуліліся, адзін за адным — тры каменьчыкі ў шэрай пустаце, і толькі над лесам, здаецца, зусім нізка, распусцілі парашуты. Хай вас, што вы робіце, адчайныя людзі? Столькі ляцець уніз — і потым, як для пацехі, затармазіць на ўсім хаду... Не, гэта страшна. Хоць ты не глядзі на іх. Але як ты не будзеш глядзець?

Самалёцік зрабіў разварот, зноў выйшаў на прамую. Страшна чакаць, калі гэтыя маленькія каменьчыкі распаструць свае крылы. Рыгор адлічваў час: раз... два... тры... чатыры... пяць... шэсць... Здавалася, другая тройка ляцела хутчэй, чым першая, і перагоніць тую. Не, не перагнала! Завісла над ёй. Цяпер ужо шэсцера парашутыстаў — тройка над тройкай — плылі да зямлі.

Самалёцік зайшоў на трэці заход. Ну, чэрці!..

Зноў з-пад крылля выкаціліся тры кропкі. Рыгор затаіў дыханне.

Першая тройка прапала за лесам. Другая разгойдвалася вышэй, і да яе набліжаліся тры новыя

каменьчыкі... Раз... два... тры... чатыры... пяць... шэсць... Пара тармазіць. Ага!.. Раскрыўся адзін парашут, другі, трэці... Не, трэці ляцеў далей... Ну і адчайны! Трэці парашутыст дастаў папярэднюю тройку, прашыў яе...

«Братка, што ты робіш?! Не жартуй!.. Тармазі!..»

Але гэта быў не жарт.

«Раскрывайся! Чуеш? Раскрывайся!.. Раскры!..»

Парашут не раскрыўся.

Каля магазіна ўсё было як заўсёды. Вакол аўтаматаў з газіроўкай таўкліся хлапчукі, лупілі кулакамі па бляшаным корпусе, калі аўтамат, праглынуўшы манету, не хацеў даваць вады.

У гастраном і з гастранома снавалі людзі. Ля ўвахода ў штучны аддзел завіваўся доўгі хвост чаргі: прадавалі віно. Трэба было б купіць і сабе, калі б не Анюта. У адной руцэ яна несла вядзерца з лапаткай, другой учапілася за бацькаў палец.

Жоржа запаволіў крок: можа, усё-такі пастаяць? Слізгануў позіркам па чарзе: знаёмых не было. Прыстроіўся ў хвост. Дачакаўся, калі сталі за ім, адвёў Анютку ў пясочніцу. «Пагуляй з пясочкам, а я зараз прыйду». Анюта стала сыпаць пясочак у вядзерца.

Чарга ішла хутка, відаць, працавалі дзве прадаўшчыцы. З дзвярэй адзін за адным выскоквалі мужчыны з цёмнымі бутэлькамі ў руках. Давалі малдаўскі вермут, даўно ўжо не было яго.

— Нам хопіць? — спытаў Жоржа ў хлопца, той прыпыніўся збоку, хаваючы бутэлькі ў партфель.

— Наўрад... Скрынкі чатыры засталося.

— Ну-у-у, ты так не жартуй... А то... на слабае сэрца...— Жоржа ўзяўся за грудзі.

Хлопец зашчоўкнуў партфель і пайшоў. Да Жоржы павярнуўся вусаты мужчына, што стаяў наперадзе.

— Хто ведае, што трэба таму сэрцу. Каму гарэлка, каму каньяк, а каму і нічога. Вунь у суседнім двары: прыйшоў чалавек, сеў на лавачку, разгарнуў газету... Гадзіну сядзіць, другую... Людзі думаюць, ён газету чытае, а яго даўно ўжо няма тут. Адгасцяваў.

— Канечне, смерці шмат не трэба,— падхапіў

Жоржа.— Смерць ёсць смерць... Кажаш, з раніцы... Дык жа цяпер ужо...— Жоржа не дагаварыў.

— Галоўнае, ніхто не ведае, адкуль стары. Прыехала «хуткая», міліцыя. Праверылі: жывы ці нежывы. Мёртвы. Чакаюць, пакуль хто з радні аб'явіцца. З некім жа чалавек жыў. А ён прысланіўся плячыма да спінкі і сядзіць цэлы дзень.

— Дзе ты кажаш усё гэта?..

— Ды вунь, у суседнім двары,— мужчына кіўнуў галавой у бок дзевяціпавярховага дома.

Жоржа вываліўся з чаргі, узяў дачку на рукі:

— Пайшлі, Анюта...

Сам не пайшоў, пабег.

У двары ўсё было, як заўсёды, але Жоржа адчуў нейкую перамену. Не адразу зразумеў, што перамянілася, але перамена была.

Здзівіла цішыня. Звычайна добрай пагодай у пясочніцах поўна дзяцей. Сёння пясочніцы былі пустыя.

Жоржа набліжаўся да лавачкі, на якой любіў сядзець бацька. Воддаль ад яе паўкругам стаяла некалькі старых жанчын. Вось ужо стварэнні: абгаварыць, перамыць чые-небудзь косці. Жоржа заўсёды з нянавісцю праходзіў паўз такіх, адчуваючы на сабе іх позіркі. Ішоў выпіўшы, здавалася, чуў шэпт: «Ужо набраўся. А недзе ж дом, сям'я». Ішоў цвярозы — зноў шэпт і зноў, мусіць, нешта не так. Іншы раз хацелася разварнуцца, пабраць усіх за крылле — і туды, за дарогу, у лес, у глухамань, каб ніколі адтуль не павярталіся, каб раз і назаўсёды.

Але цяпер ён набліжаўся да старых жанчын са страхам. Хацеў хутчэй мінуць іх і тым самым сцвердзіць няпраўду страшнай здагадкі — і сустрэўся з жаласлівым позіркам сухенькай гарбатай бабкі. Яна павярнулася да жанчын, нешта сказала, і ўсе яны павярнулі галовы да яго, і ў вачах ва ўсіх было спачуванне.

— Во і сынок прыйшоў,— сказала гарбатая, саступіўшы ўбок. Жаночы паўкруг распаўся, адкрываючы лавачку.

Бацька і цяпер сядзеў на ёй, адкінуўшыся прамымі плячыма да спінкі, паклаўшы рукі на калені, нібы ўзяў позу перад фатографам. Толькі твару яго

не было відаць: на галаву была накінута белая хустка і па ёй паўзла чорная муха. Гарбатая жанчына ўзмахнула рукой, муха сарвалася, зрабіла некалькі віткоў укруга лаўкі і зноў шпокнулася на хустку.

Жоржа адчуў, што ногі яго зрабіліся ватнымі і ўсяго накрыла варам. Няцвёрдымі крокамі падышоў бліжэй, спыніўся за метр ад лаўкі, спусціў з рук Анюту.

— Што з ім? — прашаптаў сухімі губамі. Абвёў вачыма жанчын, баючыся зрабіць апошні крок да бацькі.

Жанчыны маўчалі.

Тады ён зрабіў гэты крок. Узяўся пальцамі за ражок хусткі, прыўзняў яго. Твар у бацькі быў белы, спакойны, вочы заплюшчаны, рот прыадкрыты, быццам стары сабраўся ўздыхнуць ці сказаць нешта. У роце відзён быў сіні язык.

Жоржа апусціў хустку.

— Ён тут з самай ранічкі,— сказала гарбатая.— Гадзін у дзевяць як сеў, так і сядзіць. Я з унучкай ішла ў магазін, дала «дзіньдобры», ён прамаўчаў. Думала, можа, чалавек недачуў. У самой такое бывае: усю ноч не звядзеш вачэй, як хто жарствы ў вочы насыпаў, дык устанеш, што дурная. Газетка ў яго на каленях, як заўсёды. Можа, вычытаў што і думае. Вярнулася з магазіна, паставіла варыць капусту, зірнула ў акно — сядзіць і галава далёка адкінута. Адхінулася, працерла падлогу, але трывожыць нешта. Зноў зірнула ў акно — сядзіць. Мне як малатком па галаве. Выскачыла. Так і ёсць: мяртвы. Галава адкінута, быццам шыя пераламана, рот раскрыты і ў роце мухі. Божа мой, я бягом назад. Узяла чыстую хустачку, пазваніла Лідзе Іванаўне, і ўжо разам выйшлі. Ён яшчэ цёплы быў. Паправілі галаву, рот сціснулі, вочы закрылі. Пазванілі ў міліцыю, яны прыехалі самі, «хуткую» прыслалі. А што яна зробіць, калі ўсё даўно зроблена. Шчаслівы чалавек, лёгкая смертачка...

Пакуль бабка расказвала, Анюта пазірала на дзеда непаразумелымі круглымі вачыма. Апусціла вядзерца на зямлю, кінулася да яго, схапіла за руку:

— Дадула! Дадула, уставай!

Дзядуля не збіраўся ўставаць.

— Дадула, пайсі пахахуцікі глядзець...

Дзядуля маўчаў. Яна асцярожна апусціла яго руку, паспрабавала зазірнуць у вочы, пад хустку. Нічога не зразумела. Азірнулася на бацьку:

— Дадула спіць?.. Спіць дадула?..

— Ага, дачушка, спіць. Спіць дзядуля,— Жоржа зморшчыўся, пацягнуў малую да сябе.

Праз дзень у гарадской вячэрняй газеце на чацвёртай старонцы было змешчана невялікае паведамленне:

«21 ліпеня ў час трэніровачных скачкоў з парашутам трагічна загінуў майстар спорту СССР М. В. Варановіч. Прычыны трагедыі высвятляюцца».

У рэкламным дадатку сярод многіх аб'яў пра абмен і куплю-продаж катоў і сабак, дач і імпартных жаночых боцікаў была і такая:

«Мяняю чатырохпакаёвую кватэру — плошча 63,04 м², пакоі асобныя, тэлефон, паркет, лоджыя — на трох- і аднапакаёвую. Магчымы варыянты. Званіць у любы час...»

# ДВОЕ ЗА НІЗКІМ СТОЛІКАМ

*Аповесць*



Высокая і тонкая, можа, не такая высокая, а тонкая болей, чым трэба было б, как не выглядаць худой ці заморанай, яна сядзела ў нізкім мяккім крэсле, абхапіўшы сашчэпленымі рукамі сціснутыя і нахіленыя набок калені. Нават вольны крой трыкатажнай сукенкі не мог схаваць ні вуглаватасць плячэй, ні касцістую кволасць рук. Праз чорную павуцінку калготак відно было, што і калені вострыя, з асобных і нібы таксама вострых костачак. Чырвоныя на нізкіх абцасах вастраносыя лодачкі на прыгожых, падабраных пад крэсла нагах...

Час ад часу яна брала гліняны кубачак з кавай, адпівала глыток, ставіла кубачак на квадратны столік і зноў сашчэплівала рукі на каленях.

— Даўно я не піла нармальнай кавы,— хваліла каву і нібы заадно яго. «Нармальная» азначала толькі што змолатая.

Далікатны чысты твар, шчокі з ледзь прыкметнай ружовасцю — яны ведалі крэмы, але не шмат і не абы-якія, высокая, без маршчынак белая шыя. Стаячы каўнерык скрадваў яе вышыню.

Відаць, некалі яна была прыгожая. Хаця чаму «некалі»?

Раман Іванавіч сядзеў насупраць у такім жа нізкім крэсле. Гліняны кубачак з кавай стаяў і перад ім.

— Вы былі піянерам? — спытала яна проста, як могла б спытаць жонка ў мужыка, які вярнуўся з двара: «як там надвор'е?» — Ну, хадзілі ў паходы, удзельнічалі ў злётах?..

— А хто не быў піянерам? Па-мойму, піянерамі ў нас былі ўсе... А на злётах бываць не давялося. Не давялося...

Раман Іванавіч не паказаў, што пытанне яго трохі здзівіла, і не стаў тлумачыць, чаму «не давялося». Пасляваенны развал, нястача. Іх у маці чэцвера — адзін пад адным. «Усё на іх гарыць, як на агні». Гэта матчыны словы. Адзін раз было і пашчаслівіла, і адпраўлялі: вучыўся ён на «выдатна», і выпала казырная карта ў нейкі лагер, а не паехаў.

Трэба было пасвіць коней, сушыць лазу, грыбы-ягады, каб сабраць якую капейку на адзежу, на кніжкі...

І зноў жа, калі ехаць, то ў чым? Дома можна і ў зрэбным, а туды — хіба на пасмешышча? І дзе ты набярэшся крамнага?

Паехаў пераростак Антось Валеўскі. Ён у дзевяць пайшоў у першы клас і вучыўся так сабе, але старэйшы брат быў настаўнікам. Вярнуўшыся, Антось расказваў, як усё там было цікава, як жылі яны ў доміках у лесе над рэчкай, разбіўшыся на некалькі атрадаў, як выходзілі на лінейку, уздымалі сцяг, як праводзілі ваенныя гульні і як іхні атрад заняў першае ці другое месца.

Антось прывёз з лагера чырвоны піянерскі гальштук. У іхняй школе гальштукаў не было, насілі значкі — тры малюсенькія аблітыя эмаллю рубінавыя язычкі полымя. Гальштук ужо быў нечым багацейшым, недасягальным.

Наіўная дзіцячая душа. Яна заўсёды прагне, чаго няма, і чаго няма — тое самае жаданае... Нейкі чырвоны каснічок, пераціснуты вузлом,— і вось ужо праблема, зайздрасць, адчуванне няроўнасці і несправядлівасці...

— А я надта любіла злёты. Сама не ведаю, што там было такое, але яно ўцягвала, як вада ў вір. Якая гэта была радасць! Здаецца, усё было пранізана гэтай радасцю — зямля, людзі, паветра. Усё жыве гэтай радасцю, і я жыву ёй. Як птушка. Сказалі б паляцець — узяла б і паляцела. Гэта быў дзіўны акрылены стан. А сама піянерская атрыбутыка, голас горна, гром барабана! Нешта ўздымае цябе, ты выпростваешся, падцягваешся, нават дыханне робіцца глыбейшым, душа спявае, ногі самі нясуць цела некуды туды, наперад, у будучыню... Я і цяпер іншым разам убачу піянерскі атрад — і зноў у грудзях ажывае тое даўняе, маладое. Вось, здаецца, узяла б і стала ў строй і пайшла б разам з імі, не пасаромелася б ні гадоў сваіх, ні сваёй старой душы.— Мяккая сумная ўсмешка сагрэла асцярожны, нібы вінаваты позірк ясных, каштанава-светлых вачэй.

— Гэта хвароба ўзросту. Як кажуць медыкі: пасля смерці ўсё праходзіць,— пажартаваў Раман Іванавіч.

— Не гаварыце пра смерць. І пра ўзрост. Узрост, канечне, але і яшчэ нешта,— строга сказала яна.— Відаць, вера. Мы ж верылі кожнаму слову — вунь яна, наперадзе, тая чыстая праўда і тая светлая будучыня, а мы — маладое племя, і ўсё ў нашых руках...

— У мяне нічога гэтакага не было. Было іншае. Было ачуванне сваёй непаўнацэннасці, што ты ніхто і нішто. Нічога ты не можаш і ніколі не зможаш. І нікому ты непатрэбен. Нікому, акрамя хіба маці, братоў. Ды яшчэ настаўніца ў нас была такая сардэчная, Хрысціна Адольфаўна. Яна ўсё шукала справядлівасці і нас вучыла шукаць. І трохі навучыла, але ка мне галоўнае — упэўненасць, што і ты нехта і нешта, прыйшла пазней, недзе ў арміі.

Маргарыта Васільеўна ўважліва і неяк знізу, павярнуўшы галаву набок, зірнула на Рамана Іванавіча. Нешта птушынае было ў гэтым яе позірку — і нібы птушыная цікаўнасць, і птушыны недавер. Пазірала

яна адкрыта, але з той дзелавой строгасцю, якая выпрацоўваецца доўгімі гадамі ў настаўніц і наогул у жанчын так званага «кіруючага» звяна. Глядзяць на цябе такія вочы, і губляешся, як паводзіць сябе, бо ў першым жа нават самым мімалётным позірку іх напісана: «Ну-ну, што там у цябе яшчэ, выкладвай».

Такія вочы, бывае, ратуе голас. Але спачатку вочы: «Ну-ну, выкладвай...» І выкладваеш...

Прыехаў, зайшоў у будынак санаторыя, убачыў яе за столікам з тэлефоннай трубкай у руцэ... Хацеў сказаць: «Якая ў вас прыгожая рука... Асабліва вось гэты плаўны пераход ад кісці ў цэўку і далей, да локця... І гэтыя залацістыя валосікі на руцэ... Вы самі не разумееце, як гэта прыгожа...», а сказаў так: «Як тут у вас, жыць можна?..»

І «кіруючае звяно» ажывілася, устрапянулася, быццам толькі і чакала гэтага пытання і быццам гэта і толькі гэта займала яе душу і сэрца...

— І жыць можна, і лячыцца можна, і нават працаваць, калі хто прыязджае папрацаваць. Думаю, будзеце задаволеныя. Усё тут ёсць, самі ўбачыце, а калі што — зноў жа, усё ў нашых руках...

У нашых руках... Цяпер гэтыя рукі атулялі кубачак. Ці то грэючыся, ці то aберагаючы цяпло.

— Вось жа ведаеш, што ўсё гэта была гульня, гульня і падман, а адрынуць усё не хапае сілы. Душа супраціўляецца. Можа, мы не разумеем, у якім свеце жывем, не разумеем, што ёсць рэальнасць, а што прыдуманае. Дзе сапраўднае, а дзе не сапраўднае? Тады ўсё гэта здавалася сапраўдным. Столькі страсці, столькі хвалявання!

— Гульня — гэта вы правільна сказалі,— усміхнуўся Раман Іванавіч.— Гульня ў жыццё. Як пачалі гуляць з Леніным, так і гуляем. То ў Чапаева, то ў Машэрава.

Маргарыта Васільеўна адпіла з кубачка, асцярожна паставіла на столік:

— А ў каго гуляць?

— Ні ў кога. У самога сябе.

— Можа, і так, можа, і ваша праўда. Але дзецям патрэбна дзіцячае. Я дык два разы была на рэспубліканскіх злётах... І не таму, што бацька быў дырэктарам школы, хаця, можа, трохі і таму... Я добра

вучылася, пісала ў газеты, адзін мой «опус» нават «Пионерская правда» надрукавала. Я была вялікая актывістка, і мне хацелася быць ёю. Я нічога і нікога не баялася. Дзеці часта тушуюцца, асабліва калі чужы хто зойдзе ў клас ці трэба выступіць перад многімі людзьмі. А мне было ўсё роўна, ці я адна, сама з сабой, ці перада мной уся школа. Я не ведала, што можна баяцца людскіх вачэй... Чаго іх баяцца? Хіба я раблю што-небудзь непрыгожае, хіба гавару пустое? Тады мне здавалася, што ўсё, што я рабіла, было надта важнае. Смеласць, мусіць, і вылучала мяне з іншых, мусіць, таму і падмецілі мяне райкомаўскія камсамольцы... Як толькі трэба выступіць дзе, прывітаць каго — шукаюць мяне. «Скажы, Марго, у цябе гэта складна выходзіць...» А мне гэта імпануе, расту, як на дражджах. Марго, каралева Марго... Расла, пакуль бацька не сказаў: «Чаго ты ўсюды лезеш, як парася ў плот?» — «Я не лезу, мяне лезуць».— «Лезеш, аж са скуры вылузваешся...» Сказаў ён гэта дома, неяк вечарам. Тлумачыць нічога не стаў, дадаў толькі: «Ты думаеш, што адна ты такая разумная? Што нікога такога разумнага няма — ні ў класе, ні ў школе? Ці шмат трэба розуму барабаніць дзяжурныя фразы».— «Я кажу праўду»,— упарцілася я.— «Ты праўды яшчэ не ведаеш. Праўда ўсялякая бывае, і яна любіць, каб з ёй гаварылі ціха».

Пасля я часта ўспамінала тыя словы, хаця «пасля» гэтае прыйшло нашмат пазней, калі і бацькі не стала і я стала інакшая. А тады... тады я пакрыўдзілася на яго. І вырашыла: болей ніколі выступаць не буду. Так і зрабіла. І сапраўды ўбачыла, што і ў школе, і нават у класе нашым не адна я «такая разумная». А гэта ўжо быў дзевяты клас, я шмат пра што думала і шмат што разумела, хоць жылі мы ў невялікім глухім райцэнтры. Дзве школы, ільнозавод, швейная майстэрня, сталярны цэх, старэнькі кінатэатр — вось і ўся наша прамысловасць і культура, тут кожны чалавек на вачах, як першая зорка на вячэрнім небе...

Маргарыта Васільеўна перастала гаварыць. Ішла, ішла і раптам спынілася, уперлася ў сцяну. І засяроджаныя на нечым сваім каштанава-светлыя вочы, і маршчынкі і цені пад імі паказвалі страшэнную стомленасць. Гэта было відаць з першага позірку.

Яна зайшла да яго выпадкова, магла і не зайсці. Хаця калі зайшла, то, мусіць, павінна была гэта зрабіць.

Ён быў тут ужо тры дні і, як заўсёды на новым месцы, прыжываўся хваравіта. Звычайна адпачынак ён праводзіў на волі, але некалькі сардэчных прыступаў загналі сюды, у асобны нумар. Рэдактар у яго быў чалавек нармальны, за час сумеснай працы яны добра паразумеліся, і той сказаў, адпускаючы яго: «Адаспіся, падлячыся, а калі яшчэ прывязеш і артыкул, то скажам, што ты зусім паправіўся».

— Пра што артыкул?

— На маральна-этычную тэму. Ты ж бачыш, што робіцца вакол. Ні маралі, ні сумлення. Няма павагі ні да настаўнікаў, ні да начальнікаў. Нічога святога.

— І сваім артыкулам я павінен вярнуць людзям гэта святое?

Нейкі час яны пазіралі ў вочы адзін аднаму. Дарослыя дзеці, наіўныя гульцы ў палітыку і тайну.

— Адным артыкулам яго не вернеш,— уздыхнуў рэдактар.— І двума таксама. Але падумаць, падумаць...

Рэдактар любіў «падумаць». З гэтым словам ён пачынаў сваю кар'еру, з ім, відаць, і скончыць.

Трэба падумаць, Раман Іванавіч... Накіды артыкула ляжалі на стале — шырокім, нібы спецыяльна для пісьмовай працы заказаным. Там жа ляжалі запісныя кніжкі, чыстая папера, ручка... Не думалася...

Раман Іванавіч спусціўся ўніз — паглядзець, ці няма свежай пошты. Пошты не было і нікога ў вестыбюлі не было, адна яна сядзела за столікам у сваім рабочым закутку. Яна пажалілася, што баліць галава. Ён таксама адчуваў сябе санліва. Надвор'е было гнілое, шэрая вата абклала неба, напусціўшы на зямлю даўкую сырасць. Ён сказаў, што ў яго ёсць кава ў зярнятах, ёсць млынок і ёсць у чым варыць.

— Тады варыце, я зайду,— сказала яна.— Я даўно не піла сапраўднай кавы. І надта баліць галава.

Ён адразу адчыніў дзверы на яе стук, але перш чым зайсці, яна кінула насцярожаны позірк уздоўж калідора.

— Ці не баіцёся вы, што нехта ўбача? — пажартаваў ён.

Яна хуценька зайшла ў пакой і ўжо тут сказала:

— А лепей, каб ніхто не бачыў.— Села ў крэсла каля століка, абняла рукамі калені, дадала сур'ёзна: — Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць... Звяга бывае страшней самога сабакі.

— Няўжо і тут яны ёсць?..— Ён не першы раз быў у гэтым санаторыі, чуў шмат добрых слоў пра яго, усё тут было зроблена эканомна, але з жаданнем дапамагчы чалавеку, і такая перасцярожлівасць здзівіла яго.

— А дзе іх няма? — махнула рукой Маргарыта Васільеўна.

Ён разліў гарачую з белым дымком каву ў кубачкі. Яна ўзяла кубачак у рукі, паднесла да носа, глыбока ўдыхнула востры пах, адпіла трошкі, паставіла на столік:

— Добрая ў вас кава, сапраўдная...— Адпіла яшчэ, адкінулася да спінкі крэсла, заплюшчыла вочы: — Божа мой! Колькі таго чалавеку трэба? Каліўца нейкае, і гэтае каліўца яму не хочуць даць. Усё зробяць, абы толькі не даць.

— Што значыць «даць»? Трэба браць. Калі ты маеш на гэта права, калі ты яго зарабіў — трэба браць. Я не кажу: хапаць ломік і ісці ўспорваць сейф, але патрабаваць і сваё браць...

— А я не хачу браць. Гэта мяне зневажае, гэта пярэчыць маёй душы, майму характару, майму разуменню жыцця. Я працавала, выкладвалася, патраціла час, нервы, я старалася зрабіць як найлепей, я зрабіла як найлепей, я стамілася, вось яна, мая праца, яна падабаецца людзям, яна мне самой падабаецца, вось я ўся перад вамі, дык будзьце добрыя — дайце мне тое, што я заслужыла, дайце! Я не кажу: «Падайце!» Хаця чаму б і не падаць. Калі чалавек зрабіў нешта добрае, прыемнае людзям, то чаму б яму і не «падаць»? Калі не ў знак павагі, дык хоць у знак падзякі. А вы — «браць». Браць у нас навучыліся. Бяруць. І чым болей нахрапістасці, тым болей бяруць, грабуць нават, і гавораць, што гэта правільна, так і трэба. Браць, браць, браць. А вы дайце мне. Дайце!..— Яна ўскінула рукамі, быццам была перад многімі людзьмі і ў адчаі звярталася да іх. А скончыла нечакана ціха, пазіраючы ў вочы Раману Іванавічу.— Не дасцё? Не дасцё...

— Не дам,— адказаў ён.— Не маю сілы і не ўмею, як гэта зрабіць. Ды вы зашмат захацелі. Гэта закон іншай цывілізацыі, гэта закон вышэйшасці.

— Хіба вышэйшасць можа быць такой простай, такой прымітыўнай?

— Прастата і прымітыў — розныя рэчы. Хоць і ляжаць на адной паліцы. Але адзнака любой вышэйшасці — перш за ўсё прастата.

— Дык ці нельга хаця б трошкі гэтай вышэйшасці нашай цывілізацыі, хаця б во столечкі.— Маргарыта Васільеўна паказала кончык пазногця.— Во столечкі, каб убачыць яе, адчуць, каб хоць ведаць, што яна прысутнічае і ў нашым жыцці.

— Гэта ўжо іншая мера — гэта ўжо якасць. Спачатку колькасць, а потым якасць...

— Спачатку колькасць, а потым якасць... Колькасць пераходзіць у якасць. Гэта я ведаю, гэта ўсе мы ведаем, вучылі,— стомлена адказала яна і раптам усміхнулася: — А вось я, па-вашаму, колькасць ці якасць, га?..

Яна пачынала падабацца яму. Твар яе адагрэўся ў пакоі, заружавеўся і быў ужо не такі завостранавуглаваты, і рукі з цененькімі нітачкамі жылак, што свіціліся праз скуру, і тонкімі пальцамі, што прыгожа атулялі гліняны кубачак, нібы аберагаючы яго...

— Скажыце, што такое я?

— Вы — якасць. Якасць, хаця...— ён весела прабег вачыма па ёй — ад гладка зачасаных валасоў да ног у чорных калготках і чырвоных лодачках,— хаця і колькасць таксама.

— Метр шэсцьдзесят восем. А ў вас?

— Метр семдзесят пяць.

— Вось бачыце, вас болей і вам лягчэй. І заўсёды будзе лягчэй, бо вы яшчэ і мужчына, а ў мужчын колькасць заўсёды бярэ верх. Прабачце. Заседзелася я ў вас,— раптам нахмурылася яна. Устала рыўком і пайшла да дзвярэй, прыпынілася: — Зжалі жыта, залацістую салому сабралі на краі поля,— гэта што — колькасць?

— Дапусцім, колькасць...

— Дапусцім... Дапусцім, спяшаліся, згарнулі ў кучу, думалі вярнуцца, а тут пайшлі дажджы, потым снег, потым вясна. І пахучая залацістая салома стала вялізнай кучай гною... Гэта ўжо якасць?

— Не бачыў, не магу сказаць.

— А вы перайдзіце цераз рэчку — вунь там, па бервяне, потым выйдзіце за лес і ўбачыце,— Маргарыта Васільеўна паказала на акно, на левы куток яго, у якім сапраўды бачыўся ражок лесу.— А пасля скажаце мне, добра?.. Дзякуй за каву. Смачная, і галава не баліць,— яна пацiснула вузкімі, як у дзяўчынкі, плечыкамі.

— То прыходзьце яшчэ.

Яны стаялі побач. Ён узяў яе за руку і пачуў, якія тонкія ў яе костачкі, быццам толькі з іх і склалася гэтая вузенькая рука.

— Кава гарачая, а рука халодная...

Маргарыта Васільеўна быццам і не вырывала руку, а проста пацягнулася да дзвярэй:

— Я мярзлячка. Мне б нарадзіцца дзе-небудзь на Каўказе, можа, я была б інакшая і любіла б і прыроду тую, і гарачыню, і горы, а так і гарачыня мяне не вабіць, і да экзотыкі я спакойная. Я тутэшняя, халодная. А за запрашэнне дзякуй, на каву я зайду.

З акна яго пакоя відаць густая сценка маладых сучкаватых хвоек з дзвюма жоўтымі свечкамі бярозак пасярэдзіне. Бярозкі не баяцца калючых суседак, але цягнуцца ўгору завостранымі, нібы прычасанымі галоўкамі.

Праз сценку люстрана блішчыць цёмная вада рэчкі, на тым беразе якой высокім частаколам устаюць разгоністыя хвоі — стромыя, жаўтастволыя, з раскідзістымі чубкамі зелені ўгары.

Недзе справа заходзіць сонца, і роўнае спакойнае святло яго ацяпляе бронзавыя ствалы, робіць іх жывымі, мітуслівымі, нібы не сонца, а самі ствалы выпраменьваюць і цяпло, і залацістае святло.

І застылыя ў нерухомасці дрэвы, і люстэрка зялёнай вады ад перакуленага ў яе сасонніку з падлескам, і халодна-сіняе неба — усё гэта востра трывожыць Рамана Іванавіча, цягне на роздум. Адкуль гэтая прыгажосць, у чым яе сакрэт? І чаму яна трывожыць яго? І чаму чым болей глядзіш на яе, тым болей прабівае трывога? Здаецца, трэба зусім трошкі, нейкае каліва, нейкая малюсенькая дробязь — і адкрыецца драматычная тайна гэтай маўклівай прыгажосці, гэтай незразумелай трывогі. Але няма гэтай

дробязі, няма гэтага маленькага зернятка, і сэрца трывожыцца як ад свайго нутранога болю.

Не першы раз такое адчуванне находзіць на Рамана Іванавіча, хаця кожны раз яно робіцца ўсё болей шчымлівым. Недзе ў глыбіні закіпаюць слёзы, і, здаецца, не стае ўсё той жа малой дробязі, каб іх убачылі людзі.

Раман Іванавіч даражыў такімі хвілінамі. Яны нібы пацвярджалі, што ён яшчэ жывы, што ён здольны адчуваць, думаць, што ён здольны адчуць і свой, і чужы боль. Нават той, пра які яшчэ ніхто не ведае, але які ёсць, які ўжо жыве ў прыродзе. У прыродзе і ў ім самім. Гэты боль нібы радніў яго з прыродай — з лесам, з вадой, з небам, рабіў яго раўнёй усяму гэтаму, і ўсё гэта было раўня яму.

У такія хвіліны Раман Іванавіч не любіў заставацца ў хаце, цягнула на волю, на прыроду.

І цяпер ён спусціўся ўніз, да рэчкі, пайшоў між соснаў па сцежцы.

Было зябка ад вады, ад блізкага вечара, ад чыстага і сцюдзёнага паветра.

Сцежка то нырала ўніз, пад самую рэчку, то чаплялася высока ўгору, і тады можна было толькі здагадвацца, што рэчка недзе там, за дрэвамі ўнізе. З сасонніку сцежка вывела на прасторную і роўную, як футбольнае поле, лугавіну, раздзялілася на два рукавы: адзін паўз лес налева, другі направа цераз рэчку. Там над вадой ляжала бервяно, і Раман Іванавіч ступіў на яго.

І па другі бок лугавіны лес стаяў на ўзвышэнні, толькі тут пераважала елка, і таму ён быў глухі і пахмурны. Сцежка перайшла ў дарогу на дзве каляіны ад машынных колаў, вывела ў поле.

Кіламетры за тры наперадзе віднелася невялічкая вёсачка — некалькі хат, чубок дрэў. Злева, каля самага ельніку, Раман Іванавіч убачыў тое, пра што гаварыла Маргарыта Васільеўна. Сцірта была вялізная: метраў сорак даўжынёй, метраў дзесяць шырынёй. Праўда, цяпер цяжка было нават уявіць і той залацісты колер, якім яна некалі свяцілася, і той густы жытні дух, якім дыхала. Цяпер гэта была вялізная шэра-чорна-зялёная гарбатая куча, ад якой несла гніллю і плесняй. Раман Іванавіч абышоў яе кругом і павярнуў назад.

Свяціла тое ж сонца. Яно спусцілася зусім нізка і залаціла толькі вершаліны дрэў. Было ціха, як бывае ціха ў калодзежы. Раман Іванавіч зноў выйшаў да поймы. Дрэвы глядзеліся ў ваду, і вада здавалася матава-зялёнай. Усё было так, як бачылася з акна, усё было прыгожа, але цяпер ніякай таямніцы тут Раман Іванавіч не бачыў. Быццам яе ніколі і не было. Ці проста ён прыдумаў яе. Як Маргарыта Васільеўна сваю залацістую жытнюю салому.

Два дні ён не бачыў Маргарыты Васільеўны. Колькі разоў праходзіў па вестыбюлі, кідаў позіркі ў бок яе століка, але самой яе не было.

Сабраўся прагуляцца, спусціўся ўніз і... сутыкнуўся з ёю нос у нос. Некуды спяшалася, але ўзрадавалася.

— Дзе гэта вы прапалі? — спытала так, нібыта не ён, а яна сама шукала яго.

— Хто прапаў?

— Ну не я ж.— І вочы сур'ёзныя, і голас. Сапраўды: жанчына дыктуе, мужчына піша.

— Затакаваўся. Як цецярук у сваю харошую пару.

— Па-мойму, яны гэта робяць вясной. У пару любоўных гульняў.

— У мяне свой расклад.

— Асенні?

— Як разумець. Але ўжо калі находзіць,— Раман Іванавіч шырока раскінуў рукі.

— Адно такаванне?

— Адно такаванне... Вось і цяпер вылез... Давайце ў кампанію...

Маргарыта Васільеўна падумала, кіўнула:

— Пачакайце мяне на выхадзе.

І вось яны ідуць, то сыходзячыся плячом да пляча, то аддаляючыся, каб абмінуць дрэва ці куст. Ігліца і шышкі мяккія, нібы распараныя, ногі бясшумна грузнуць у падатлівай пругкай мякаці.

Кругом, як бачыць вока, гонкія сосны. І скразная прастора між імі. Здаецца, што і яна жывая, што без яе сосны не маглі б жыць, як і яна без іх.

Маргарыта Васільеўна час ад часу спыняецца каля якой-небудзь сасонкі: пагладзіць рукой па кары, летуценна ўсміхнецца, ідзе далей. Прысланілася спіной да ствала, адкінула галаву.

— Ведаеце, я ўсяго баюся. І прыроды таксама. Люблю яе — і баюся.— Голас ціхі, ды, відаць, па-інакшаму і гаварыць тут нельга.— Мне здаецца, што яны жывыя, усе гэтыя дрэвы, што яны адчуваюць і цяпло, і святло, умеюць радавацца і злавацца. Вы ўслухайцеся ў іхні шум — які ён розны летам і зімой, раніцай і вечарам. Адно, чаго яны не ўмеюць — супрацiўляцца чужой сіле, не могуць заступіцца за сябе. Гэта бяда іхняя і іхняе шчасце. Яны супраціўляюцца бяссіллем. Бяссіллем і нязменнасцю. Тут іх сіла. «Рабі са мной што хочаш, але я застануся такім, якім быў, якім зрабіла мяне прырода». Дуб застаецца дубам, бяроза — бярозай, асіна — асінай. У нязменнасці яны вышэй, чым чалавек. Чалавек — горкі прыстасаванец. Ён так лёгка пераломвае сябе, калі гэта яму выгадна, што аж дзіўна, чаму ён усё яшчэ ходзіць на дзвюх нагах, а не поўзае на чатырох. За выгаду ён гатовы што хочаш над сабой зрабіць. Людзі такія пераменлівыя. Цеста, з якога можна ляпіць што каму ўздумаецца — героя і здрадніка, работніка і гультая. А дрэва — не... Вось дзе вышэйшасць, вось дзе прастата. Можна расці на гэтай зямлі — расце, няможна — памірае... Вось у каго трэба было б вучыцца мудрасці проста жыць і з годнасцю паміраць.— Маргарыта Васільеўна зірнула ўгору, на неба, што светлым полагам навісала над кронамі.— Я разумею лес, адчуваю яго ўсёй істотаю. Часам мне здаецца, што і я — часцінка яго, маленькае дрэўца на дзвюх нагах. І можа здарыцца такое, што аднойчы я стану босымі нагамі на цёплую зямлю і не сыду з месца. З маіх ног прарасце карэнне, з маіх рук, з маіх пальцаў пойдуць галінкі, галінкі збяруцца ў крону. Вы прыйдзеце ў лес, будзеце стаяць каля мяне і не пазнаеце, што гэта я, такая я буду зялёная і непадобная на цяперашнюю. Я вас буду бачыць, а вы мяне не. Мне будзе радасна, што вы стаіцё каля мяне, але і сумна, што не бачыце, не адчуваеце мяне. І тады я папрашу, каб вы прысланіліся да мяне, во так, як я да гэтай сасны, каб вы адчулі мяне, а я адчула вас. Вы прыслоніцеся? Не бойцеся, ад вас нічога не ўбудзе. Наадварот, я аддам вам частачку сваёй сілы, бо я буду нашмат мацнейшая,чым цяпер, я буду дрэва, я буду сама прырода.— Маргарыта Васільеўна глядзіць на Рамана Іванавіча напружанымі вачыма, у вачах густы зялёны бляск, на

шчоках — тугі крамяны налёт. Гэты дзіўны позірк, яна сапраўды верыць усяму, што гаворыць!

— Не ведаю, як будзе тады, а цяпер...— Раман Іванавіч замаўкае. Ён збянтэжаны, ён не ведае, як яму быць далей. Зрабіць крок наперад, абхапіць рукамі гэтыя абедзве тонкія сасонкі, зашчаміць у абдымках, асабліва вось гэтую, у пры таленай куртачцы з капюшонам, з зялёным агнём у вачах, з тугой чырванню на шчоках, ці... Нешта не дае яму волі зрабіць гэты крок наперад.

— Што цяпер? — выручае яго сама Маргарыта Васільеўна.

— Цяпер я цвёрда перакананы, што наш лясны інстытут некалі ўпусціў сваю лепшую студэнтку і свайго лепшага работніка.

— Інстытут... Колькі іх трэба, гэтых інстытутаў?..— Маргарыта Васільеўна горка ўсміхаецца, ляпае рукой па кары сасонкі.— Лес я люблю, і ён мяне любіць. Я і прыехала сюды, каб уцячы ад людзей, схавацца. Ажно не выйшла. Лесу без людзей не бывае...

— Відаць, яны здорава насалілі вам, гэтыя людзі...

— А ўжо ж... Як не насаліць...

— Вы сказалі, што любіце прыроду і баіцёся яе... Чаго яе баяцца?

— Чаго баяцца? — Маргарыта Васільеўна ўважліва глядзіць у вочы Раману Іванавічу.— Таму, што яна — прырода, што яна не любіць кампрамісаў, таму, што яна чуе толькі сама сябе. Бр-р-р, нешта зябка стала.— Маргарыта Васільеўна рашуча адштурхнулася ад сасны і пабегла ў бок санаторыя. Раман Іванавіч ледзь паспяваў за ёй. Калі за дрэвамі засвяціўся белы будынак, яна спынілася:

— Тут я пайду адна, а вы... вы можаце трошкі пазней.

Раман Іванавіч пацісн уў плячыма: зноў вялікая канспірацыя?

Маргарыта Васільеўна не збіралася ні тлумачыць нешта, ні слухаць яго, павярнулася і хуценька пайшла.

Што ж, кожны жыве сваім жыццём, кожны мае права на сваю тайну. Раман Іванавіч звярнуў на бакавую сцежку і пайшоў да ракі. Невядома чаму, але

ён адчуваў сябе пакрыўджаным. Быццам яму, як дзіцяці, нешта падабяцалі, а пасля паказалі кукіш.

Некалькі дзён Раман Іванавіч стараўся не паказвацца ў вестыбюлі. Ваяваў з самім сабой ці з некім іншым. І вайна гэтая была не проста ўпартасцю. Хадзіў па пакоі з кута ў кут, сядзеў, ляжаў. Думаў. «Хто ты такая, Маргарыта Васільеўна? І чаму такая? І чаму табе цяжка жыць? Цяжка, канечне. А самому табе лёгка? Не лёгка, але я... мужчына... Мужчына, ну і што? Нічога, мужчына... Колькасць?.. А-а-а, колькасць...»

Узрадаваўся, калі зазваніў тэлефон і пачуўся яе голас:

— Раман Іванавіч хаваецца ад людзей?

— Не хаваецца — баіцца іх бачыць...— Ён стараўся быць злосным.

— Каб не перашкаджалі такаваць?

— У кожнага сваё такавішча, і мала хто хоча, каб пра гэта такавішча ведаў яшчэ нехта.

— А я хачу паказаць вам сваё такавішча...

— Тады бягу.

Яны стаялі над высокім абрывам. На самым краі яго раслі скрыўленая ў корані бяроза, сукаватая елка і высокенькі стаўбунок ядлоўцу, за якім, як лішай, распаўзлася чорная пляма вогнішча. Агонь раскладалі не адзін раз, і жар аблізаў бліжні бок ядлоўцу ад зямлі да самага верху, памеціўшы дрэўца бурым колерам смерці.

Унізе заломвала калена рэчка, падточваючы пясчаны падмурак адхону, і мела немалы поспех у гэтым. Гадоў колькі таму падмыла карэнне і заваліла высокую страявую сасну. Тая лягла ўпоперак плыні, нібы такім спосабам выказваючы супраціўленне чужой волі. Волю гэтую яна не стрымала, вада перакатвалася цераз ствол, злізваючы мёртвую кару, і несла далей сваю разбуральную сілу. Сасна набыняла вільгаццю, глеіста пасінела, тармазіла рознае смецце і друз, і сур'ёзна пачала заступаць дарогу вадзе. Рака пырскала пенай, шукаючы слабейшае месца, і знайшла — у тым жа пяску. Летась, у пару высокага разліву, перакуліла аж тры вольхі, і цяпер яны ляжалі галовамі ў вадзе, і пругкая плынь забаўлялася з яшчэ жывымі галінамі.

Рэчка ішла далей па нешырокай пойме, нібы ўспоранай кратовымі пірамідкамі, хаваючы петлі ў лазняку і алешніку, але адсюль, з гары, добра было відаць яе мудрагелістыя завароты і завоіны.

— Тут заўсёды спакойна. Знізу далятае ціхі голас вады — ці то рэчка спявае, ці нешта ў табе самой... Нябесныя коні падымаюць цябе і нясуць на сваіх крылах угору, і ты ўжо не ты, і ўсё не тое, а лёгкае, лятучае, і быццам так было заўсёды і з табою, і са ўсім светам, і быццам ніхто ніколі нічога паганага не рабіў і не зрабіў табе, і ты свая ўсім і гатова ўсё пачынаць спачатку...

— Што пачынаць?

— Пачынаць жыць, нібы ты і не жыў дагэтуль. Мы так заблыталіся ў словах, нам столькі лгалі і прымушалі нас ілгаць, усё так перамяшалася — праўда і няпраўда, светлае і чорнае, што людзі страцілі разуменне, дзе зло, а дзе дабро, а дабро ў самым простым. Не трэба пустых слоў, не трэба прыгожых фраз, дайце мне жыць і спакойна працаваць. Дык жа не даюць.

— Хто не дае?

— Усе не даюць. Усе... І ўсё гавораць, гавораць, гавораць. Столькі ўсякага нагаворана, людзі аб'еліся словамі, людзі баяцца, што скора словы пачнуць расці, як лісце на дрэвах. Нічога не застанецца на свеце, будуць толькі шамацець пустыя, заржавелыя, ненавісныя словы. Я баюся гэтых слоў, баялася іх, а яшчэ болей баялася, каб словы гэтыя не перайшлі да сына, каб тое, чаго не прымала мая душа, не перадалося яму. І я рада, што не перадалося...

— У Маргарыты Васільеўны ёсць сын?..— Пытанне было нетактоўнае, вырвалася яно ў Рамана Іванавіча самахоць і перапыніла Маргарыту Васільеўну на паўслове. Яна бліснула вачыма:

— Як бы гэта мілей сказаць: па-вашаму, я нейкая не такая, каб мець сына?

— Не, чаму... Проста мне здавалася, што мы з вамі даўно знаёмыя, што я ўжо ўсё пра вас ведаю, і тут... Бачыце, зноў яны, словы...— Раман Іванавіч прасіў прабачэння, і яно яму было дарована.

— Ёсць сын. Салдацік на далёкім Амуры. Аж самой не верыцца: мой сын і ўжо салдат — боты, шынель, пагоны... Раўняйсь, смірна, шагам марш!.. Ён

у мяне не любіў дысцыпліны, не любіў, каб ім камандавалі, і вось армія. Не хочаш — навучым...

— Нічога страшнага. Армія мужчыну робіць мужчынам... Яна прымушае думаць.

— Каб толькі не зламала, не зрабіла чорствым. Жыць жа трэба будзе з людзьмі... Хадземце, я вам пакажу яшчэ нештачка...

У лесе было ціха. Нерухома, нібы акамянелыя, стаялі сосны ў нерухомым паветры. Здавалася, прырода зацялася ў сабе, затаіла дыханне перад рашучым глыбокім уздыхам.

Праз некалькі дзесяткаў метраў Маргарыта Васільеўна звярнула да рэчкі, у малады густы ельнік. Ішла, расхінаючы пруткія лапкі, прытрымліваючы іх рукой, каб каторая не секанула яму па твары. Ігліца і мох вогка ўздыхалі пад нагамі. Зямля крута пайшла ўніз, за елкамі зачарнелі голыя ствалы вольхаў. Маргарыта Васільеўна спынілася, павяла вачыма ўлева і ўгору:

— Вось яна, мая матачка.

Толькі цяпер Раман Іванавіч убачыў высокую магутную сасну. Тоўсты, у два абхваты, камель цёмным маналітам вырастаў з зямлі, каб уверсе, метраў праз дзесяць-дванаццаць, раздзяліцца на два новыя гладкія ствалы. Правільна круглыя, яны ўздымаліся роўна, густа-залацістыя, чыстай сасновай пароды. Яны нагадвалі дзве нагі здаровага чалавечага цела — добра загарэлыя, мускулістыя, поўныя жывой пругкай сілы. І там, дзе па прапорцыі ў чалавечых нагах павінен пачынацца пераход у ступакі, угадваўся ён і тут — у выглядзе тых жа залацістых сукоў, што адпачкоўваліся ад ствалоў і ішлі ў строга супраціўныя бакі. Абсыпаныя на канцах пушыста зялёнымі кутасамі іголак, разам з гэтакай жа зялёнай раскідзістай вяршыняй яны ўтваралі акругла прыгожую, нібы падпраўленую нажніцамі, прычоску-карону. Нешта сапраўды мацярынскае было ва ўсім гэтым магутным целе сасны, якая нібыта сваёй жывой сілай рассунула зямлю і выйшла на святло адразу ўсёй сваёй мажной закончанай постаццю — глядзіце, вось я! — і ў гэтым яе грэшным раздваенні, і ў самой вяршыні.

Была адметная ў дрэва і кара. У старых соснаў яна звычайна палопаная, брудна-каравая, сухая. У гэтай жа яна была гладкая, быццам сшытая з брон-

завых латак, акуратна падагнаных адна да адной па мудрагелістай ломанай канфігурацыі. Молада-чырвоныя, быццам нехта ўвесь час начышчаў іх, яны толькі па беражках, у месцах стыкаў, куды чысцільшчык не змог дабрацца, як вышыўкай, абраслі срабрыстазялёнай аблямоўкай.

«Ну што?..» — не словамі — радаснымі вачыма пыталася Маргарыта Васільеўна. Яна раўніва сачыла, пакуль ён аглядаў сасну, то падступаючы бліжэй, то адступаючы, каб лепей бачыць. Дрэва расло не на голым месцы: ад лесу — густая сцяна елак і сасонак, ад поймы — шчыльны азярод гонкіх вольхаў. Відаць, таму і ўцалела, што мала каму трапляла на вочы.

Раман Іванавіч націснуў пальцам на кару. Палец не ўтапіўся, але было адчуванне, быццам кара паддалася націску. Правёў далонню зверху ўніз — і дрэва адгукнулася сустрэчнай крухмальнай ласкай. Раман Іванавіч ведаў, што ўсё гэта не так, што ўсё чалавечае, што ўяўляецца яму тут, не болей, як яго выдумка, што ва ўсім вінавата яго фантазія. Жывыя вочы бачаць тое, што ім хочацца бачыць, жывыя пальцы ўласцівасці жывога пераносяць на мёртвае дрэва, і здаецца, што яно жывое.

— А цяпер прысланіце лоб да кары і паслухайце. Забудзьцеся на ўсё, слухайце толькі сасну.

Маргарыта Васільеўна была як змоўніца. Рухі хуткія, нервовыя, вочы блішчаць цёмным рудым агнём.

«Вось так людзі і знаходзяць сабе багоў»,— падумаў Раман Іванавіч, але загаду паслухаўся, прыціснуў лоб да глянцаватай кары. Яна была надзіва цёплая.

Спачатку ён не чуў нічога — вушы, як ватай, забіваў роўны аднастайны шум. Укруга іх быў лес, лес не маўчаў, метраў за сто глухім машынным гулам жыла шаша.

Раман Іванавіч пастаяў так хвіліну, другую. У галаве пачало туманіцца. Шум, які толькі што запаўняў вушы, паволі пачаў слабнуць, нібы аддаляцца. І Раману Іванавічу пачулася, што ў сярэдзіне дрэва нешта адбываецца. Нібы нешта цячэ, перамяшчаецца. Зверху ўніз і знізу ўгору. Гэта быў жывы рух. За карой ішло жыццё! Малюсенькія нябачныя цягнікі ім-

чаліся па нябачных тунелях, перавозячы нябачныя грузы. Нейкім унутраным зрокам Раман Іванавіч уявіў мудроныя маршруты і віядукі, павароты і аб'езды, па якіх ішлі гэтыя цягнікі.

На нейкі час Раман Іванавіч забыўся, дзе ён і хто ён. Адчуў, што яму вальней стала дыхаць, зашчыпала ў вачах, пацягнула на сон. Ён, мусіць, і заснуў на нейкае імгненне, адключыўся, страціў кантроль над сабой. Адпусціў душу, а сам застаўся тут, ля сасны, каб зараз жа вярнуцца да сябе зноў — новы да таго, старога... Неахвотна расплюшчыў вочы, павярнуўся да Маргарыты Васільеўны, усміхаючыся ніякаватай усмешкай. Яна пазірала на яго з запытаннем у вачах.

— Мне захацелася спаць,— прызнаўся ён. Чамусьці не стаў гаварыць пра тое, што падалося яму пад карой дрэва, пра цягнікі, што бягуць па нябачных маршрутах.

— А болей нічога?..

— Н-нічога,— схлусіў ён. Вырашыў, што ўсё астатняе — яго выдумкі, фантазіі.

— Вам сёння будзе добра спацца,— сказала яна сур'ёзна.— Ага, вам будзе добра спацца,— паўтарыла ў роздуме. Пагладзіла рукой кару, павярнулася да дрэва спіной, адкінула галаву да кары.— Калі мне надта цяжка, я іду сюды, да маёй матачкі. Прысланюся вось так да яе, заплюшчу вочы і стаю. Праходзіць хвіліна, другая, трэцяя, я пачынаю супакойвацца, я чую, як маё дыханне робіцца роўным, глыбокім, як запавольваецца, выраўніваецца пульс. Сасна забірае мае болькі, мае сумненні. Я нібы перастаю быць сама сабой, я зліваюся з ёй, з зямлёй, з небам...

— Лясная псіхатэрапія?

— А вы не смейцеся,— рэзка адказала яна.— Я сапраўды адчуваю, як аслабаняюся ад усяго лішняга. Я нібы пусцею, нібы з мяне непрыкметна выцякае кроў, а разам з ёй усё чорнае, бруднае, цяжкое. Мне робіцца лёгка, вольна. Нібы я была цяжарная і разрадзілася. Насіла доўгія дзевяць месяцаў дзіця, любае сваё дзіця, хацела яго, чакала яго і нарэшце апрасталася. Здаецца, вось расплюшчу вочы — і ўбачу гэты малюсенькі камячок жыцця, бездапаможны, бяссільны без мяне. І гэтае адчуванне асла-

бaнення, адчуванне пустаты ў сабе, пустаты не ў грубым, фізічным разуменні, а як ачышчэння, як абнаўлення, якая гэта радасць... Хаця што я кажу. Вам гэтага не зразумець. Вы, мужчыны, бедныя людзі, вам гэтага не дадзена... Гэта як новае нараджэнне самога сябе, толькі калі ты сам сочыш за ўсім працэсам, сам пераживаеш гэты працэс... Такое бывае толькі пры сапраўдных родах.— Маргарыта Васільеўна кінула мелькам позірк на Рамана Іванавіча, пераняла яго на вольхі, за якімі праглядвалася пойма, рэчка, далёкі лес.— Першае, што я ўбачыла, калі расплюшчыла вочы ў раддоме, яшчэ на стале, быў Толік,— працягвала яна.— Ага, быў ён, далей было акно, а за акном блакітнае неба. Блакітнае-блакітнае, гэта мне добра запомнілася. Я тады падумала: як добра, што такое неба і што гэты маленькі чалавечак будзе бачыць яго, і хай яму будзе лёгка, як мне цяпер. Было адчуванне бязважкасці, нібы я ёсць і мяне няма, нібы я ляжу на гэтым стале і ў той жа час нібы я растварылася ў прасторы, не чую сябе, а чую толькі пустату ў сабе, нібы ўвайшоў у мяне холад і абдымае ўсю — і з сярэдзіны, і звонку... Нешта такое я адчуваю тут, каля маёй сасны. Абдыму яе і слухаю. Я слухаю яе, яна слухае мяне. Я чую, як з зямлі, з глыбокіх глыбіняў цякуць сокі, як яны праходзяць праз сасну, праз мяне, і ідуць вышэй, у неба, у космас. Холад ідзе праз мяне, запаўняе мяне, ачышчае, і ўжо няма таго цяжару, што прыгнятаў мяне, што абражаў мяне, і я ўжо сама па сабе, ужо на свеце толькі я і нікога болей, і ніхто не можа зрабіць нічога такога, каб было не так, як трэба, як я хачу, ніхто не можа адабраць гэтага ў мяне. Тут я гаспадыня, я цароўна, я і ніхто болей.— Маргарыта Васільеўна сказала гэта з сумнай упэўненасцю, як пра нешта даўно адбалелае.

— Каму ж, як не вам, быць тут цароўнай?..— ціха сказаў Раман Іванавіч. Ён адчуваў, што яго далучалі да нечага важнага, пра існаванне чаго ён здагадваўся, але было яно так далёка ад яго і такое несур'ёзнае. Несур'ёзнае?..

— Вы і праўда так думаеце? — з недаверам зірнула на яго Маргарыта Васільеўна.

— І думаю, і... ведаю. Цяпер ведаю.

— Тады...— Маргарыта Васільеўна ўсміхнула-

ся,— тады давайце раскладзем агонь. Там, над абрывам.

— Можна. Толькі мы саўсім загубім ядлоўчык..

— Яго ўжо нішто не ўратуе. Збірайце дровы, я зараз прыйду.

Лес даўно не прачышчалі. Сушняку вакол было шмат, сухія яловыя лапкі ўсхапіліся адразу, і хвілін праз некалькі агонь над абрывам стаў набіраць сілу. Каб не даваць волі полымю, Раман Іванавіч паклаў зверху тоўстых бярвенцаў і пайшоў шукаць Маргарыту Васільеўну. Знайшоў там, дзе і пакінуў. Яна была каля сваёй сасны — стаяла спіной да ствала, адкінуўшы галаву да гладкай кары. Белы твар, вочы заплюшчаны. На твары лагода і спакой. Здавалася, што яна спала.

Раман Іванавіч спыніўся. Пастаяў колькі часу, не спускаючы вачэй з белага твару, і раптам твар пачаў дваіцца, размывацца, адступаць у глыбіню, з ім адступала і Маргарыта Васільеўна, быццам гэта ўжо была не яна, жывая, а нешта лёгкае і бесцялеснае. І вось ужо стаіць адна раздвоеная сасна ў бурых латах з аграмаднай кронай-воблакам. Раман Іванавіч трасануў галавой — не, іх двое — сасна і, нібы распятая на яе ствале, Маргарыта Васільеўна. Прыжмурыў вочы яшчэ раз — і аптычны падман зноў паўтарыўся.

Раман Іванавіч спахапіўся: што ён робіць і ці не бачыць гэтых яго маніпуляцый Маргарыта Васільеўна? Яна нічога гэтага не бачыла. Відаць, яна і ўправўду спала, і снілася ёй нешта добрае, што прыходзіць толькі ў сне. Губы напаўраскрытыя, дыханне ціхае, запаволенае. Але раптам па твары яе прайшла сутарга, нібы чалавек перажываў нешта непрыемнае. Чалавек нечаму супраціўляўся, нешта яго мучыла. Раману Іванавічу падалося, што ён пачуў прыглушаны стогн. Але вось чалавек глыбока ўздыхнуў раз, другі, пасля цішэй, цішэй, твар супакоіўся, палагаднеў. Відаць, чалавек адыходзіў ад сваіх страхаў, ад таго, што мучыла яго.

Раман Іванавіч чуў за сабой віну, што апынуўся тут цяпер, што падгледзеў тое, чаго, мусіць, не павінен быў бачыць.

«Якая яна прыгожая! — падумаў ён.— Яна сама не ведае пра гэта, і добра, што не ведае. Яна б тады

іграла, як іграюць на сцэне, а так яна проста жыве».

Яна і сапраўды не іграла. Стаяла, шчыльна прыціснуўшыся спіной да сасны, апчаперыўшы ствол рукамі, і над яе гладка зачасанымі валасамі павісла залацістая слязінка смалы. Ці была яна тут і раней, ці толькі цяпер выкацілася, як кропля расы, з-пад кары, і гатова была сарвацца на валасы.

Раман Іванавіч не стаў болей таіцца, наступіў на сучок, сучок трэснуў. Маргарыта Васільеўна пачула гэты трэск, але не зварухнулася. Ён падышоў, узяў у пальцы бурштынавую слязінку — мяккую і цёплую. Нахіліўся і асцярожна дакрануўся губамі да раскрытых губ Маргарыты Васільеўны. Спачатку яны былі спакойныя і чужыя, потым уздрыгнулі, памякчэлі, халодныя чэпкія рукі абхапілі яго за шыю.

— Вось так,— засмяялася Маргарыта Васільеўна, адпіхнуўшы яго на адлегласць выцягнутых рук, пільна ўзіраючыся ў яго вочы, нібы нешта шукаючы ў іх. Ён вытрымаў гэты позірк. І сам убачыў у цёмна-жалудовых яе зрэнках мітуслівую гульню чырвона-матавых іскраў, нібы за спіной у яго затухала распаленае вогнішча. І зноў убачыў у яе вачах пытанне, жаданне нешта ўведаць, у нечым пераканацца.

— Што ты шукаеш? — прашаптаў ён.

— Я ўсё жыццё нечага шукаю...— Ускінула галавой, нібы хацела скінуць насланнё, сумна ўсміхнулася.— Прыйду сюды, пастаю вось так, адтаю душой. Спушчуся да крыніцы, патрымаю рукі ў вадзе, абмыю твар і іду дамоў. Быццам зноў маладая, быццам нічога паганага са мной ніхто не зрабіў і не хацеў зрабіць. Вы ж не хочаце зрабіць мне пагана? — спытала раптам, паласнуўшы, нібы брытвай, насцярожаным позіркам.

— Я-а-а? — Ён адчуў сябе так, калі б яму з-за вугла стукнулі па галаве.

— Вы...

— Хіба я?..

— Ды не, гэта я проста так... Як там наш агонь?

— Гарыць... Па крайняй меры, гарэў, калі я быў там...

Вогнішча ўжо дагарала. Раман Іванавіч хацеў падкінуць сушняку яшчэ, але Маргарыта Васільеўна спыніла яго:

— Не трэба. Я люблю глядзець, як агонь дагарае. Тут столькі гульні, столькі фантазіі.

— І попелу,— дадаў Раман Іванавіч.

Маргарыта Васільеўна кіўнула галавой:

— І попелу таксама.

Пасля, як агонь патух зусім, яны вярталіся ў санаторый: яна паперадзе, ён збоку і трошкі ззаду. Маўчалі, і маўчанне было справядлівым працягам таго, што было каля сасны і каля вогнішча. Быццам нехта крануў струну, і яна адклікнулася. Струна супакоілася, а голас яе ўсё яшчэ трапечацца ў прасторы з надзеяй, што яго нехта пачуе...

Тую ноч Раман Іванавіч спаў як забіты. А пад раніцу яму сасніўся сон. Снілася сасна-матачка, і нібы гэта была не проста сасна, а адначасова і дрэва, і жанчына. Ёй трэба было прычасацца, і яна шукала люстэрка.

— А ты паглядзіся ў ваду,— падказаў ён.

— Я баюся вады.

— Чаму?

— У мяне ад яе кружыцца галава.

— Няўжо ты такая кволая?

— Мне мама наказала баяцца вады. Вада — мая смерць.

— Вада — гэта жыццё. Ці ж ты не бачыш, як яна не хоча стаяць на месцы?

— Яна імкнецца ўсім навязаць сваю волю.

— Хіба лепей стаяць і пакорліва чакаць сваёй долі?

— Можна і на сваім месцы ваяваць з сабой.

— Ваяваць з сабой? Навошта?

— Каб быць чыстым...

— Вось ты і папалася... Паглянь, якая чыстая вада, як у ёй відна кожная травінка, кожны карэньчык.

— Яна празрыстая, але колькі смярцей тоіць на дне.

— Тайна заўсёды на самым дне.

— Тайна ў жыцці.

— І таму ты ваюеш з сабой?

— Я хачу жыць.

Тут наляцеў вецер, зашумеў, загудзеў, потым

аціх, супакоіўся. Сасна развінула голле, распушыла іголкі, стала стройнай, як заўсёды, і раптам уся занялася роўным зялёным агнём. Полымя ўскінулася над лесам, потым стала меншаць, меншаць і сышло на нішто, пакінуўшы невысокую зялёную купіну, з якой сіратліва вытыркалася абгарэлае рудое дрэўца ядлоўцу. У лесе стала пуста і трывожна. З адчуваннем трывогі Раман Іванавіч і прачнуўся. Ляжаў, заплюшчыўшы вочы, успамінаючы ўчарашняе, нядаўні сон. «Вам будзе добра спацца». Здавалася, словы былі сказаны толькі што, і быццам голас, які сказаў іх, усё яшчэ гучыць у пакоі.

Раман Іванавіч разумеў, што з ім адбываецца нешта незвычайнае, нават не адбываецца, а ўжо адбылося, хоць сам ён нічога такога і не прагнуў. Яму болей хацелася, каб яго жыццё ішло так, як ішло дагэтуль. Ён чуў сябе незалежным і вольным чалавекам, незалежным і вольным, якім можа быць нежанаты мужчына, разведзены халасцяк, з абавязкамі, якія сам вызначыў сабе, з задачамі, якія сам ставіў і сам рашаў. Усюды сам і ніхто іншы.

Апошнія гады яму гэта ўдавалася, і ён даражыў сваёй свабодай, сваёй незалежнасцю. У нейкай пары чалавек хоча, каб яму ніхто не перашкаджаў быць самім сабой, які ён ёсць — але сам сабой. Сам і сам і ўвесь свет.

І вот у яго жыццё ўмяшалася нечаканая сіла, супрацiўляцца якой ён не ўмеў. Не тое што не ўмеў, а можа, і не хацеў. Гэтая сіла зацікавіла яго, заінтрыгавала, як магнітам, цягнула да сябе. Сіла гэтая была Маргарыта Васільеўна і тое, што ішло ад яе. Усё нешта новае, непадобнае на тое, што ён сустракаў і ведаў дагэтуль.

Маргарыта Васільеўна падабалася яму. Яна прынесла з сабой сваё жыццё, сваё разуменне яго, свой страх. Адкуль ён у яе? Проста так страх не прыходзіць, яго прыносяць людзі. Блізкія людзі. Па каліву, па зярнятку, па слязінцы. І гэта яе рэчка, і яе лес, і сасна-матачка... Усё гэта было і да яе, усё жыло сваім жыццём, а яна прыйшла і забрала ўсё. Усё стаіць, як стаяла — і ўсё гэта яе. «Трэба ваяваць з самім сабой, каб быць чыстым...» Хто яны, тыя

чыстыя? Колькі іх на зямлі? Калі ёсць наогул... І што такое «чысты»? Апрануў дарагі касцюм, пагаліўся, пастрыгся — і ўжо чысты? А душа?.. Сснаматачка... Што гэта — фантазіі хворага розуму ці праўда, якой ён не ведаў і без Маргарыты Васільеўны не ўведаў бы... Нават калі гэта фантазіі, а чалавек верыць ім, гэта ўжо не фантазіі. Урэшце, ён сам паверыў у гэтыя фантазіі. Ён чуў жыццё там, за карой сасны, значыць, яно ёсць...

Раман Іванавіч перабіраў у памяці ўчарашняе і ранейшае, і ўсё болей пытанняў узнікала ў яго, і пытанні вялі да Маргарыты Васільеўны. Хоць зараз жа бяжы і пытайся. Ён не пабег, хаця жаданне такое было.

Пасля абеду яна пазваніла яму сама:

— У вас яшчэ ёсць кава?

— Маргарыта Васільеўна, для вас...— пачаў быў ён ненатуральна гуллівым тонам, але яна суха перабіла яго:

— Я зараз прыйду.

Зайшла без стуку, села ў крэсла за столік — на тое ж месца, дзе сядзела і першы раз. Кава была гатова, ён падаў кубачак ёй, наліў сабе. Шараваты твар, цені пад вачыма. Узяла кубачак, зрабіла глыток. Пазірала на яго і не бачыла, занятая сваімі думкамі.

— У мяне ёсць каньяк,— прапанаваў ён.

— Давайце.

Раман Іванавіч дастаў каньяк, кілішкі, наліў, і яны моўчкі выпілі.

— Не ведаю, што са мной робіцца,— нарэшце сказала Маргарыта Васільеўна, уздыхнуўшы.— Я сёння ўсю ноч не спала.— Зірнула на яго строгімі вачыма: «Што вы на гэта скажаце?»

— Трэба было пазваніць мне,— сказаў Раман Іванавіч. Прытым падумаў, што сам ён спаў як мёртвы.

— Я і хацела так зрабіць, але... гэтыя ўмоўнасці... Усе мы жывем, аблытаныя ўмоўнасцямі, як павуцінай...— Адпіла кавы, адставіла кубак.— Заснула толькі пад раніцу, і прыснілася мне, што мяне выганяюць з працы. Выганяюць, як апошнюю недарэку ці гультая, а я прашуся і плачу, плачу і прашуся.

Яна павяла вачыма на акно:

— Тут жа ўсё зроблена маімі рукамі... І гэтыя

занавескі, і гардзіны... Сама, на сваёй машынцы, вечарамі. І вазоны... Гэта ж санаторый, людзі сюды едуць па здароўе, тут усё павінна быць, як нідзе,— і чыста, і акуратна, і прыгожа... Але ніхто гэтага не цэніць, ніхто не бачыць...

— Чаму ніхто? Людзі ўсё бачаць...

Маргарыта Васільеўна горка ўсміхнулася:

— Можа, хто і бачыць, але што з таго... Што з таго,— паўтарыла, ківаючы галавой.

— А што павінна быць?

— Нешта павінна быць, нешта павінна застацца ў душы. Можа, радасць, можа, слёзы. Нашто ўжо сын далёкі ад усяго гэтага майго, ён болей прагматык, чым я хацела б, быў такім да арміі, такі застаўся і там, дык і ён незадоўга да адходу ў армію сказаў мне: «А ведаеш, мама, мне шкада цябе... Ты, відаць, і памрэш піянеркай, з задранай у неба галавой і з чырвоным гальштукам на грудзях».

— Ён лічыць, што гэта пагана?

— Усе маладыя так лічаць... Праўда, ён памыліўся. Піянеркай я ніколі не памру. Той піянеркі даўно ўжо няма. Няма...

— Адкуль гэта ў цябе ўсё? — Раман Іванавіч пацягнуўся цераз столік, паклаў сваю руку на яе. Сам не заўважыў, як перайшоў на «ты».— Адкуль усе гэтыя перажыванні, страхі...

— Адкуль... Каб я ведала, адкуль.— Яна адкінулася да спінкі крэсла, заціснула губы.— Можа, яшчэ з універсітэта... Відаць, адтуль. Дык вось... Быў злёт камсамольскіх сакратароў, на які трапіла і я. Факультэцкі сакратар, перад тым два леты працавала важатай у лагеры. Я любіла дзяцей, і яны раіліся ўкруга мяне. Іншы раз пытаюцца, як арганізаваць дзяцей. А што іх арганізоўваць? Яны самі найлепшыя арганізатары. Толькі не трэба перашкаджаць ім. Ва ўсіх нас сядзіць дурное разуменне, што школьнікі — і пяты, і шосты, і нават восьмы класы — усё гэта дзеці, якіх трэба вадзіць за ручку. Гэта дарослыя людзі без нашых, дарослых, комплексаў, «хаця б нешта не так», «хаця б нешта не тое». Усё ў іх «так» — і не трэба начальнічаць над імі, трэба, каб яны бачылі ў табе раўню. Тады цябе і слухацца будуць, і не прададуць, і не купяць, а яны ўмеюць рабіць і тое, і другое. Вось пра гэта

я і гаварыла на тым злёце. Была ў маім выступленні і яшчэ адна прапанова. Каб камсамольцы, калі яны хочуць быць сапраўднымі важакамі, калі яны хочуць, каб дзеці ішлі за імі, болей глядзелі вакол сябе і меней цягнулі галовы ўгору, дзе сядзіць партыйнае начальства, меней глядзелі гэтаму начальству ў рот. Словам, як думала, так і сказала, і зарабіла апладысменты. А было на тым злёце высокае начальства, сакратар ЦК камсамола. Не ведаю, чым патрапіла я яму, але ён ад душы пляскаў у ладкі. Злёт праходзіў летам, на базе піянерскага лагера. Лес, рэчка... Пасля выступленняў, як заўсёды, пайшлі гульні — плаванне, футбол, валейбол. Адну валейбольную каманду згарбузавалі з пярвічных сакратароў, і я з імі, у другую ўвайшло вышэйшае начальства і яго світа.

Пачалася гульня, і, як часта бывае, паядынак каманд перайшоў у паядынак лідэраў. У іхняй камандзе лідэрам быў ён, сакратар, усе стараліся, каб мяч часцей трапляў да яго. У нашай у лідэры выйшла я. Я была неблагая валейбалістка, мела другі разрад, а адзін сезон нават выступала за універсітэцкую зборную. Ён таксама некалі, відаць, быў добры біток, але цяпер яму ўжо было пад трыццаць. Што ні кажыце, узрост, асабліва калі вакол васемнаццацігадовыя. І яшчэ жывоцік, як быццам і малапрыкметны, але жывоцік. А яму хацелася паказаць, што ён такі ж малады і прыгучы, як і ўсе, як і некалі. Ён добра прымаў мяч, добра адпасоўваў, добра ішоў на ўдар, але, як толькі распрамляўся і ўзлятаў над сеткай, каб ударыць, жывот смешна вывальваўся з трусоў. Гэта так, назіранні той пары, маладосць эгаістычная і не любіць нераўню сабе, асабліва калі гэтая нераўня начальства і калі яно прэтэндуе на тое, што належыць маладосці. Ён добра стукнуў некалькі разоў. Я не была гатова сустрэць гэтыя ўдары, настроілася на лёгкую гульню. Але калі ўбачыла, з якой асалодай ён б'е і як радуецца, што я не магу ўзяць мяч, а яшчэ каментарыі світы: «Вось гэта ўдар!», «Такія не бяруцца!», «Ну, што скажаце?» — я раззлавалася. «Пачакайце,— сказала сама сабе.— Пачакайце!..»

Маё глыбокае перакананне: заўсёды ўсе добрыя справы псавалі падхалімы. Што яны прыліпаюць

да чужой славы — гэта адно, але яны і раз'ядаюць яе, як іржа жалеза. Кожнаму ўласціва недаацэньваць свае сілы, і гэта нармальна: чалавек заўсёды павінен сумнявацца, а ў сабе болей, чым у кім. Сумнявацца і — пераадольваць сумненне. А тут з'яўляюцца дабрадзеі і пачынаюць шаптаць: «Як гэта ў вас здорава!», «Які вы такі!..», «Які вы...» — і ўсё, пухір пачаў расці, раздзімацца. А кожны пухір абавязкова павінен некалі лопнуць.

Першую партыю наша каманда прайграла, і справядліва, яны гулялі лепей. У перапынку мы пашапталіся, згаварыліся гуляць толькі на тры пасы і выкладвацца да канца. І гульня пайшла. І цяпер яны ўсе мячы слалі на яго, і ён біў, як толькі атрымліваў мяч, і біў туды, дзе была я, але я чакала гэтых мячоў, я гатова была іх сустрэць. Ён атрымліваў чыстыя пасы і, здавалася, біў мёртва, але я брала гэтыя ўдары. Некалькі разоў ён ударыў міма пляцоўкі, пачаў злавацца, а гэта ўжо завал. Ён злаваўся, а мы супакойваліся. Мы бачылі, што выйграём і што выйграем. Яму было цяжка, ён не прывык да такіх нагрузак, а яго каманда не давала яму перадышкі. Уся гульня, як і раней, ішла толькі на яго.

Мы выйгралі і другі, і трэці раз і нарэшце маглі выцерці пот. Ён падышоў да мяне, пахваліў: «А ты маладзец».— «А што вы думалі? Мы такія...» — «Мы» ці ты?»

У камсамольскіх работнікаў ёсць правілы свайго этыкету. Адно з іх — ледзь не з першага слова весці гаворку на «ты». Гэта нібы зближае, ліквідуе дыстанцыю, ставіць субяседнікаў на лінію роўнасці.

«Можна і «мы», можна і «я»,— адказала я, даючы зразумець, што ў паядынку «ён — я» выйграла я. «Дык будзем знаёмы?» — ён працягнуў руку. Я назвала сябе. «Вас — Яўген Андрэевіч?» — «Не люблю афіцыйнасць. Заві мяне проста Жэня». Жэня дык Жэня. У яго была прыязная ўсмешка, упэўненасць у вачах і рухах — кампанейскі чалавек. Здаецца, нават лішняга жывоціка ўжо не было. Быў звычайны малады паўнаваты мужчына.

Маргарыта Васільеўна сціхла, памаўчала.

— Чаму я вам пра ўсё гэта так падрабязна?.. Не ведаю. Можа, і не трэба было б, можа, і не трэба, але...

«Відаць, не трэба было б...» — падумаў Раман Іванавіч. Ён сам не ведаў чаму, але гэтая споведзь нечым не падабалася яму. Нейкі халадок супраціўлення зарадзіўся ў яго душы, напамінаў пра сябе, як напамінае нядаўна парэзаны палец. Раман Іванавіч падліў у кілішкі каньяку, моўчкі выпіў.

— ...але ёсць хваробы, якімі абавязкова трэба аднойчы перахварэць, мусіць, так і ў мяне,— працягвала Маргарыта Васільеўна.— Калі едзе вялікае начальства, з ім абавязкова едзе нехта з апарату. Чалавек-арганізатар, чалавек-каардынатар ці яшчэ як можна яго назваць. Словам, чалавек пад рукой. Практычна ён адказвае за ўсё: і за падрыхтоўку мерапрыемства, і каб яно добра прайшло, і каб усе ўсім былі задаволены, а перш за ўсё, канечне, начальства. Быў такі чалавек і на гэтым злёце. Ён і знайшоў мяне пад вечар: «Паехалі».— «Куды?» — «Тут недалёка. Яўген Андрэевіч збірае самых-самых».— «Што значыць, «самых-самых»? — «Тое і значыць».— «А вячэра?» — «Дзівачка... Усё будзе там, там...»

Некалькі домікаў на беразе возера, у адным накрыты сталы чалавек на дванаццаць, на сталах усё, што трэба для свята — закускі, шампанскае, каньяк. Рэй, як і трэба было думаць, вёў сам Яўген Андрэевіч. Гэта было, так сказаць, папярэдняе падвядзенне вынікаў злёту. Злёт цікавы, злёт карысны, злёт патрэбны, ён адкрыў новыя магчымасці, новае ў камсамольскай працы, а галоўнае, галоўнае — ён адкрыў новых людзей, новыя таленты, правільна, таленты, я не баюся гэтага слова... Гэта наш рэзерв, наша папаўненне, мы павінны расціць маладыя перспектыўныя кадры...

Ён зірнуў на мяне, я сядзела побач з ім, павёў вачыма па іншых дзяўчатах — нас было пяцёра, маладзенькія дурнічкі,— і прапанаваў тост за перспектыўнае маладое папаўненне. Былі і яшчэ выступленні і новыя тосты, людзі хутка п'янелі. Неяк непрыкметна ўсе разбіліся на пары, маёй парай стаўся Яўген Андрэевіч, «проста Жэня». Ён сачыў, каб у мяне было на талерцы, падліваў шампанскае. Відаць, ад шампанскага ў мяне разбалелася галава, хаця магла разбалецца і ад іншага. Мне ўжо не падабалася гэтая «тайная вячэра». Чаму мы адлу-

чыліся ад усіх і чым такім заваявала я права быць дапушчанай да гэтай тайны? Які чорт прывалок мяне сюды? І гэтыя тосты з яўнымі намекамі. «Камсамольскія важакі ды і ўся моладзь павінна быць раскаваная, адкрытая, кантактная». Гэта словы Яўгена Андрэевіча. Усім надта спадабалася слова «кантактная»... Яго абсмактвалі з усіх бакоў... «Ісці на кантакт, скантактавацца, кантачыць...» І за кожным новым варыянтам — «га-га-га».

Я ўжо была на трэцім курсе, не маленькая і не наіўненькая, чалавек, які тое-сёе пабачыў. Былі і ў мяне хлопцы, хадзілі ў кіно, у тэатр, было, што і цалаваліся, хаця смаку ў пацалунках тых і сустрэчах я не чула. Відаць, не прыйшла яшчэ мая пара і недзе рос яшчэ мой рыцар. І на гэтым застоллі майго рыцара не было, і трэба было думаць, як выблытацца. Баліць галава — гэта ўжо прычына, і вось Яўген Андрэевіч праводзіць мяне ў домік, дзе мы павінны спаць і дзе мне з маёй хворай галавой можна прылегчы. Цёмная дарожка віецца між дрэў, пахне смалой і нейкімі травамі, услед нам барабаніць музыка.

Заходзім у домік. Утульны пакойчык, столік, на століку зноў цукеркі, шампанскае. Пара крэслаў, два засланыя ложкі.

«Які твой?» — пытаецца Яўген Андрэевіч, паказваючы на ложкі.

Я ўжо ўзяла сябе ў рукі, ужо і галава перастала балець. Які ж выбраць ложак? І правы добры, і левы. Блакітныя ў буйную клетку пакрывалы, белыя падушкі — маленькія, не дамашнія, я люблю, каб галаве было высока. Ах, якая намячаецца гульня...

— А твой? — На «ты» дык на «ты».

— Як загадаеш.

— Я магу загадваць?

— Ты — гаспадыня, я — твой раб.

— Проста Жэня?

— Проста Жэня.

— Не трэба гэтага, Яўген Андрэевіч.

— Чаго «гэтага»?

— Усяго гэтага...

— Ну што ты, мілая дзявачка, усё гэта пройдзе, зараз пройдзе...— Ідзе вясёлая гаворка, гульня ў словы. Ён падступае да мяне, я адступаю, за нешта

зачапілася, і мы ляцім упоперак ложкаў. Я зусім спакойная і зусім спакойна пытаюся:

— Няўжо ты думаеш узяць мяне сілай?

— А калі не сілай?

— Нічога не будзе.

— А можа...

— Нічога не «можа»,— я ўжо стаю каля ложка, папраўляю прычоску. Мае словы — нібы халодная вада. Ён устае з ложка, глядзіць на мяне. Як ён глядзіць! Як на якую казяўку, як на нешта чужое, маленькае, дробнае. Гаворыць, не, не гаворыць, выгаварвае:

— Што ты выломваешся?

— Не выломваюся.

— Мадонну строіш?

— Можа, і мадонну...

— Ды ты будзеш бегаць за мной...

— Не пабягу...

— Будзеш бегаць, як бяздомная сучка, будзеш прасіцца да мяне ў пасцель...

Божа мой, колькі злосці!

— Яўген Андрэевіч, і гэта вы? — Я зусім супакоілася, і мне было смешна.

— Ды я... я растапчу цябе і ногі аб цябе вытру...

Гэта быў не той Яўген Андрэевіч, што адкрываў злёт, і не застольны Яўген Андрэевіч. Нават не той, што гуляў у валейбол і ў якога жывоцік, як мячык, выскокваў з трусоў. І я сказала гэтаму новаму і ўсім тым:

— А ведаеш што, «проста Жэня», мне не хочацца нават даць табе па мордзе, такі ты мне гадкі...

— Дзевачка, думай, што гаворыш...

— Не хачу думаць, не хачу!

Ён казаў яшчэ нешта, але я ўжо не чула яго. Я ўжо бегла адтуль, каб не чуць ні яго слоў, ні музыкі, што ляскацела на ўвесь лес.

Я помніла дарогу, па якой мы ехалі з лагера, і пайшла па ёй. У лагеры таксама ніхто не спаў яшчэ. На паляне шугала вялікае вогнішча, далёка па рэчцы разносіліся галасы. Я пайшла па беразе — далей ад усяго гэтага бедламу, знайшла зацішнае месца, скінула з сябе ўсё і ўвайшла ў раку. Вада прыветна прыняла мяне. Я апусціла ў яе галаву, каб трохі астудзіць, потым нырнула і плыла пад

вадой, колькі стала духу. Вынырнула, хапнула паветра — і зноў пад ваду. І так раз за разам, і далей, далей.

Скажу: калі ёсць рай на свеце, дык ён у летняй рачной вадзе. Якая яна добрая, мяккая, як яна далікатна абдымае, абвівае, лашчыць кожную часцінку тваю, кожную клетачку. Ці то ты плывеш праз ваду, ці то ты стаіш на месцы, а вада плыве насустрач табе, як вецер, як дыханне. Абуджаецца адчуванне адзінства, роднасці з гэтай вадой, з гэтай стыхіяй. Можа, гэта ідзе ад нейкай далёкай памяці, ад далёкіх прародзічаў нашых, для якіх некалі даўно вада была адзіным жыццёвым прытулкам. Толькі ў вадзе, калі ты адзін, можна зразумець радасць дэльфінаў, што выйшлі пагуляць на вольным марскім прасторы, і самому адчуць, як ім добра прашываць сваімі гладкімі целамі водную тоўшчу, вынырацъ наверх і зноў апускацца ў празрыстую, бяздонную глыбіню.

Рака была ласкавая да мяне. Я перавярнулася на спіну і аддалася на яе волю: нада мной неба, пада мной вада, і я ў вадзе. Не ведаю, колькі я праплавала, можа, гадзіну, можа, болей, пакуль не спахапілася: куды мяне занесла і куды нясе? Развярнулася і паплыла назад, зноў, як той дэльфін, то апускаючыся пад ваду, то вынyраючы наверх, толькі цяпер насустрач плыні, хоць і вельмі ціхай. Вада давала сілу, вада і забірала яе. Выйшла на бераг, як п'яная, кінулася на пясок. Не то спала, не то ляжала. Вада зняла боль з галавы, але пакінула боль ў душы. Была прыкрасць і нейкі страх. Не страх за сябе, тут я нічога не баялася. Я не баялася гэтага «растапчу і ногі вытру»... Страх быў інакшы: як ён мог такое сказаць? Ён, здавалася б, інтэлігэнтны чалавек, мужчына, камсамольскі важак. Калі ты лічыш сябе важаком, то ў цябе павінна быць хоць нешта ад важака... І перш за ўсё высакароднасць. А хто ён такі? Хто даў яму права крычаць на мяне? Крычаць за тое, што я не захацела легчы з ім у пасцель. Ці ён ужо адчуў такую ўладу, што яму нічога не было страшна? Хто даў яму такую ўладу? Чым ён такім узяў яе? Пазней я даведалася чым: яго дзядзька быў таксама шышка і сядзеў недзе ў Маскве... Тады ж я нічога гэтага не ведала. Я проста

адчувала вялікую несправядлівасць да сябе, да ўсіх... Я ляжала на пяску, сама пясчынка, а нада мной прасціралася спакойнае і бязмежнае неба. І чым болей я ўглядалася ў яго, у халоднае мігценне зорак, тым болей супакойвалася. Мне здавалася, што яны жывыя, гэтыя зоркі, што яны ўсё бачаць і ведаюць пра ўсе мае перажыванні. Ім смешна ўсё гэта ўспрымаць сур'ёзна, ім, якія пражылі мільярды і мільярды гадоў і столькі яшчэ будуць жыць і ўсё гэта бачыць. І тады я вырашыла, што ніхто не даваў яму гэтага права, і я яму гэтага права не дам. Ні яму, ні каму б там ні было іншаму... Якая я была наіўная...

Маргарыта Васільеўна зноў пацягнулася па кубачак з кавай; відно было, што пра ўсё гэта яна шмат думала і шмат передумала.

— Гэта не наіўнасць, гэта маладосць. А маладосць глядзіць на ўсё смелымі вачыма,— адказаў Раман Іванавіч.

— Можа, і маладосць. Да таго выпадку я была такая піянерка, такая камсамолка. Бабуля па бацьку ў нас была вельмі набожная. І сама верыла ў бога, і ўсіх прымушала верыць. Хаця што прымушала. Хіба слова — прымус? Ды і хіба магла яна прымусіць тату? Гэта быў партыец, партыец і болей ніхто. Дзеці — гэта іншае. З усіх дзяцей, а было нас чацвера, яна выбрала мяне і як магла старалася далучыць да бога. Не ведаю, чым усё вытлумачыць, але да мяне ў яе была большая строгасць, чым да каго. Моліцца сама і мяне прымушае паўтараць малітву, збіраецца ісці ў царкву, і я павінна з ёй ісці. Сама запальвае свечку, і я павінна запаліць сваю. Я шмат ведала малітваў, псалмоў. Ведала, паўтарала, але яны тады не кранаді душы маёй. Хіба толькі ў царкве, на вялікія святы, калі і бацюшка, і ўсе служкі яго, і ўсе, хто прыйшоў памаліцца, спявалі хорам. І таксама: я не разумела музыкі слоў малітвы, я разумела музыку галасоў, мне дзіўна было, што галасамі можна іграць, як на скрыпцы, як на цымбалах.

На покуці ў бабуліным пакоі іконы былі даўнейшыя, алеем пісаныя, у цяжкіх пазалочаных рамах. Бабуля імі надта даражыла. Была яна з некалі багатай сям'і, адтуль і іконы тыя і, мусіць, набожнасць яе. Рэвалюцыя ўсё растрэсла, толькі і засталося, што іконы ды бог.

Памерла яна, калі я была ў чацвёртым класе. Памерла ціха, спакойна. Вечарам доўга малілася богу. Паклікала мяне, прыгарнула да сябе. Не ведаю, каб яна калі была такая ласкавая, як тым вечарам. «Ты ўспамінай бабулю. І калі добра будзе, і калі цяжка. Успомніш — і табе лягчэй стане». Пагаварыла так са мной, лягла спаць, а раніцай не ўстала — такая лёгкая смерць. Я надта і не шкадавала яе, проста нічога не разумела. Успамінаць стала пазней, калі сапраўды стала цяжка. Іконы тыя яшчэ з год віселі на покуці. Я ўжо была актыўная піянерка, бязбожніца... Глядзела я, глядзела на гэтых багоў, потым аднойчы, калі нікога дома не было, пазнімала іх і занесла на гарышча. Кажу: «Хай чарцей ганяюць!» А дні праз тры сніцца мне сон, быццам у нашу хату найшло поўна чарцей — валасатых, хвастатых, страшных. І пачалі яны ганяцца за мной. Дагоняць і лупяць хвастамі, дагоняць і лупяць. Назаўтра ўстала я ледзь жывая, усё цела пабітае і — што страшней за ўсё — сінякі, на целе, там, дзе найбольш білі. Не смейцеся, гэта праўда. Праз тры ночы зноў сон, зноў чэрці і зноў б'юць мяне. Я маўчу, нікому нічога не гавару — засмяюць. Пасля таго як яны прыйшлі трэці раз, палезла я на гарышча, узяла іконы, укруціла ў бабуліну хустку і занесла бабе Насці. Яны сябравалі, у царкву разам хадзілі. Сказала, што бабуля так хацела, што гэта яе воля. «А сабе, чаму ж сабе ні адной не пакінула?» — спытала баба Насця. Цяпер я шкадую, што не пакінула, а тады мне хацелася як хутчэй пазбавіцца іх. І ўсё, і перасталі чэрці прыходзіць да мяне. Вось так, разумей, як хочаш. Тады я не надта задумвалася над усім гэтым, ды і не было калі задумвацца: жыццё бяжыць, жыццё віруе. Мы ж былі сляпыя, як кацяняты. Ці ж мы ведалі хоць долю цяперашняй праўды — і пра калектывізацыю, і пра трыццаць сёмы, ды і пра вайну... Мы маладая гвардыя, левай, левай, левай... Ды і наогул, нават цяпер... Усё пачынаеш разумець, калі сам сутыкнешся з жыццём твар у твар, калі цябе за валасы ды носам аб дарогу, аб асфальт. Вось калі ты па-сапраўднаму адчуеш абдымкі бязлітаснай дзяржаўнай машыны, для якой ты не болей чым нейкая казюрка, якая гатова зжаваць цябе і выплюнуць,

як апошняе непатрэбства, вось тады пачынаеш шмат думаць... Абдымкі гэтай машыны я адчула не на тым злёце, значна пазней, але на злёце я пачула смуродны пах паленай чалавечыны. Ужо там, лежачы на цёплым начным пяску пад халодным міргаючым небам, я адчула, што са мной адбываецца нешта страшнае, адбылося нешта страшнае. Я зразумела, што я ўжо ніколі не змагу быць такой упэўненай, якой была дагэтуль. Усё тое піянерскае — музыка горнаў, стукат барабанаў, уся тая рамантыка, увесь той дзіцячы захлёб — усё адступіла некуды ў цемнату, у памяць, а наперад выступіла несправядлівасць. Не, я не адразу стала такой старой, як цяпер. Праз нейкі час я забылася пра тую ноч, правільней, я хацела забыцца, зрабіла выгляд, што забылася, і стала жыць далей, як жыла і дагэтуль. Праўда, з тае начы я зрабіла для сябе яшчэ адзін важны вывад. Старайся як можна далей быць ад людзей з уладай. Вучыся сам, вучы дзяцей, працуй, кім можаш і дзе хочаш, толькі трымайся далей ад людзей з уладай. Якімі б прыгожымі яны сябе ні паказвалі, якія б прыгожыя словы ні гаварылі.

— Гэта ўжо крайнасць,— усміхнуўся Раман Іванавіч, хоць твар яго заставаўся сур'ёзны.— Крайнасць. Жыццё без улады не бывае, а значыць, і без людзей, надзеленых уладай. Улада — валун цяжкі, і мала хто можа саўладаць з ім. Але калі ёсць чалавек, а ў чалавеку чалавечае, яно выцягне і самога, і ўладу. Сустрэўся такі Яўген Андрэевіч, а мог жа сустрэцца і іншакшы, зусім інакшы. Ды і гэты... Не павядзі ён у сваю келлю ці павядзі, але будзь большым дыпламатам, не будзь такім нахабным — і ўсё было б добра. І ён добры, і ўлада добрая, га?..

— Не і яшчэ раз не. Я шмат нагледзелася на тых, пры ўладзе, і маю што сказаць. Бяда ў тым, што і з нармальных людзей, яна робіць паразітаў, а пра гатовых паразітаў і казаць нечага. Не дай бог свінні рогі, а кар'ерысту панскае крэсла.

— Усё гэта так. Свіння і рогі — рэчы малапрыемныя, асабліва калі яны ходзяць недзе блізка каля цябе ці, яшчэ болей — ты ходзіш пад імі. Але ж і свіння вырастае не сама па сабе. Свінню таксама

трэба выгадаваць, а вялікую свінню — вялікімі сіламі. І ці няма тут нашай з вамі заслугі?

— Заслуга ёсць, і, можа, не малая. Толькі свінячы парадак заўсёды знойдзе парсюка, і вырасце з яго такая рохля...

— Вырасце, канечне, вырасце. Але скажы, што здарылася сёння? Не гэтая ж філасофія выбіла цябе з раўнавагі...

— Філасофія... Зноў словы — і болей нічога... Мне сёння прысніўся ён,— са злосцю прагаварыла Маргарыта Васільеўна, робячы націск на слове «ён».— Разумееце, зноў прысніўся ён.

— Ну і што?

— Нічога.— Маргарыта Васільеўна адпіла з кілішка, паставіла кілішак на столік.— Нічога, акрамя таго, што ён заўсёды прыносіць мне дрэннае.

— Ён што — мёртвы? Баяцца толькі мёртвых.

— Жывы. Жывы і яшчэ які жывы.— Яна ўздыхнула, нібы збіраючы сілы ў кулак. Сабрала.— Пасля таго злёту я думала, што дарогі нашы як сышліся выпадкова, так і разышліся назаўсёды. Ды і як ім не разысціся: яму намечана вышэйшая лінія, мая лінія простая, як ва ўсіх простых. Пасля універсітэта я пайшла працаваць у школу. Паверце, я была добрая настаўніца. Там, у школе, я сустрэла і свайго рыцара. Матэматык, з вучнямі ўмеў ладзіць, хоць любіў прадмет болей, чым дзяцей. І тут вялікай бяды няма. Горай, калі не любяць ні дзяцей, ні працу, а такіх настаўнікаў большасць. Мне думалася, што ў нас з ім нармальная сям'я. Ён мяне цаніў, можа, нават кахаў. Кажу «нават», бо мы ніколі не гаварылі пра гэта. Я і цяпер лічу: словы непатрэбныя там, дзе без іх усё зразумела, а дзе незразумела — непатрэбныя яшчэ болей. Потым нарадзіўся Толік, і я радавалася, што ён удаўся ў бацьку. Маладая сям'я, як сотні і тысячы іншых, і, як у сотнях і тысячах іншых,— у кожнай хаце свая печ. Усё было нармальна, пакуль аднойчы я не вярнулася дамоў раней, чым гэта было па раскладу ўрокаў. Я ўбачыла майго рыцара ў нашай з ім пасцелі, толькі з другой жанчынай. Што б там ні здарылася, як бы ні скаланулася сям'я, заўсёды вінаватая будзе жонка. Яна не змагла, не захацела, не праявіла і яшчэ шмат усялякіх «не», якіх яна не зрабіла, каб уратаваць

сям'ю. Грэх сямейны — грэх жаночы, гэта за ёй запісана ад роду на ўсе вякі і законы. Так глядзелі на мяне і ў маёй роднай школе. Нікому нічога я не расказвала, ды і што раскажаш? Я ведала, што ў мяне ёсць Толік, значыць, у мяне ёсць сям'я, і мне трэба думаць пра яе. Пакінуць кватэру наш рыцар нам не захацеў, жыць разам з ім у адной кватэры не магла я. Сабралася, узяла машыну і пераехала — спачатку да сяброўкі, потым знайшла прыватны пакойчык. Давялося памяняць і школу.

Дырэктара новай школы я ведала даўно: выступалі разам на канферэнцыі і, не згаворваючыся, дзяўблі пра адно і тое ж: пра паказуху, пра мярцвячыну методык, пра закамісаванасць школьнага начальства — камісіі, камісіі, камісіі... Выпускаем са школы не нармальных самастойных людзей, а неданошаных паўдурняў-паўкар'ерыстаў. Пасля майго выступлення ён падышоў да мяне і без лішніх цырымоній прапанаваў: «Вы мне спадабаліся, пераходзьце да мяне». Тады мне гэта не трэба было, а цяпер я ўспомніла яго прапанову. Сустрэў ён мяне так, быццам толькі ўчора была тая канферэнцыя. Не распытваў ні пра што, але, пачуўшы, што мы ўдваіх з сынам і без жылля, сказаў:

— Усё магу, дарагая мая, аднаго не магу — даць кватэру. У мяне тры маладыя сям'і, і ўсе чакаюць. І чакаць ім давядзецца яшчэ гады два-тры. Значыць, і табе...

Мне трэба было прыбівацца да нейкага берага, шукаць раўнавагу і грошы. Два чалавекі — сям'я невялікая, але і яе трэба карміць і абуваць. Ад аліментаў, як і ад усялякіх слёзных спачуванняў, я адмовілася адразу. Мой сын — мой клопат. І цяпер адно я ведала цвёрда: у гэтай школе мне будзе спакойна. А гэта не так і мала.

Толькі той, хто пасланяўся па чужых закутках, каго пакачала гора бяздомнасці, ведае, што стаіць за словамі «мой дом — мая крэпасць». Ёсць дом — ёсць крэпасць, няма дома — няма крэпасці. Скажу болей: няма нічога — ні жыцця, ні настрою, ні здароўя. А калі яшчэ ты бязмужняя мама, ды з малым дзіцем, ды з гарой сшыткаў, якія трэба кожны вечар правяраць, ды з гарой кніг, якія трэба перачытаць... Якая ўжо тут крэпасць...

Два гады я выцерпела такога жыцця. Памяняла тры кватэры: гаспадары не любяць жыльцоў з дзецьмі, асабліва калі яны малыя да хваравітыя, а Толік быў якраз такі. Зноў набралася адвагі, пайшла да дырэктара:

— Уладзімір Паўлавіч, зрабіце што-небудзь. Зрабіце што-небудзь, бо я не вытрымаю.

— Я ж табе казаў, мая дарагая...— Было яму гадоў за пяцьдзесят, але сівы, аж зялёны, не валасы, а шчотка, як у вожыка. Натапырыўся, пазірае на мяне.

— Казалі, але не вытрымаю. Я, як тая цыркачка, што танцуе на дроце, напятым пад купалам цырка. Танцуе, ловіць паветра рукамі, а ўнізе чарната. Чарната і агеньчыкі цікаўных вачэй: сарвецца ці не сарвецца?.. Сарвецца ці не сарвецца?.. Толькі калі цыркачку падстрахоўваюць, яе чакаюць унізе і на канцы дроту партнёры — такія ж самыя цыркачы, ды і ёй самой хочацца ўтрымацца на дроце, прайсці яго да канца, пратанцаваць свой танец, можа, не дзеля тых апладысментаў і выдыхаў захаплення, а дзеля сваёй душы, дзеля нейкага свайго свята, а мяне ніхто не чакае, і мне не хочацца ўжо ні балансаваць, ні танцаваць далей. Я не чакаю апладысментаў, але і не баюся чорнага круга ўнізе. Здаецца, ён такі маленькі, гэты кружок, што хочацца праверыць, ці хопіць яго, каб забраць мяне ўсю. Усю і назаўсёды.

Як сёння памятаю той кабінет: зашклёныя шафы, масіўная канапа, сталы ўздоўж сцяны, шырокі стол і за ім Уладзімір Паўлавіч, перад ім я ў мяккім крэсле. Заняткі скончыліся, настаўнікі разышліся. Ён уважліва паглядзеў на мяне, прыцінуў маю руку сваёй:

— Чорны круг і нічога болей?

— Нічога.

— Тады пагана. Тады трэба нешта рабіць. Неадкладна трэба нешта рабіць. А пра чорны круг забудзь. Забудзь і не ўспамінай. Гэта яшчэ не твой круг.

Праз два дні ён сам паклікаў мяне. Быў злосны, узвінчаны, снаваў па кабінеце з кута ў кут. Стаў перада мной, узяў за рукі:

— Дык вось, чорны круг... Ніякіх кругоў! Заўтра ў дзевяць ноль-ноль, а яшчэ лепей — без дзесяці

дзевяць ты павінна быць у райкоме, у Аляксея Генрыхавіча.— Сціснуў мае рукі і адпусціў, сумна ўсміхнуўся: — Будзеш намі кіраваць.

Аляксей Генрыхавіч быў першым сакратаром райкома, гэта я ведала, а вось «намі кіраваць»?..

— Растлумачце, Уладзімір Паўлавіч. Не палохайце.

— Усё растлумачаць заўтра. Усё... растлумачаць...— Ён нібы баяўся глядзець мне ў вочы. Але ўсё ж паглядзеў — спакойна так і горка.— Не хацеў цябе адпускаць. Думаў: гады праз два-тры пайду на пенсію — замена будзе. Ажно не.

— Вы хочаце, каб я пайшла на працу ў райком?..

— Не хачу, але пойдзеш.

— Не пайду. Вы ж ведаеце, што гэта такое? Пісаць дакладныя, перакладваць паперкі...

— Ведаю, мілая, але пойдзеш, калі хочаш мець кватэру, калі хочаш акрэпнуць, калі...

— А дзеці?.. Як жа я без дзяцей?

— Прывыкнеш... Папрацуеш гадзікаў тры-чатыры і нікуды адтуль ісці не захочаш. А ўжо калі захочаш — вернешся да нас... у новай якасці...

Новая якасць... Як гэта лёгка гаворыцца. Але што рабіць, што рабіць?..

Назаўтра без дзесяці дзевяць я была ў Аляксея Генрыхавіча, а праз тыдзень сядзела ў крэсле інструктара райкома партыі.

Першы сакратар быў з настаўнікаў старой, яшчэ даваеннай інтэлігенцыі. Пашчаслівілася чалавеку і трыццаць сёмы пераджыць, і вайну правяваць, быць параненым і дажыць да гэтых дзён. Дажыць і не згубіць сябе. Я нічога не таіла ад яго. Тады ж, пры першай сустрэчы, сказала і чаго іду сюды, і чаго баюся. Іду, бо ў адчаі, што іншым спосабам змагу калі-небудзь уладкаваць свой быт. Баюся, бо мяняю любімую працу на нешта чужое, агульна-абстрактнае. Адказаў ён на гэта проста: «Давайце шукаць у абстрактным канкрэтнае, мяняць абстрактнае на канкрэтнае. Чалавек заўсёды канкрэтны — і чалавек партыйны, і чалавек беспартыйны, і чалавек-настаўнік, і чалавек-школьнік... Як дапамагчы гэтым чалавекам — вось дзе задача і наша, і ваша. А быт, што быт, ва ўсіх ён павінен быць лю́дскі. Тут няма ніякай крамолы, і мне падабаецца, што

вы сказалі пра гэта так адчайна. Адно бяда, што адразу я не магу выдзеліць вам кватэру — яе няма. Але праз паўгода, можа, трошкі болей, будзе, праз паўгода вы ўселіцеся.

— Калі так, Аляксей Генрыхавіч, то ўжо на наваселлі тупнем,— засмяялася я. Засмяялася, хоць на вачах былі слёзы.

— А чаму б і не... Чаму б і не тупнуць і не грукнуць. Ведаеце, як у нас на вечарынках некалі тупалі? За тры кіламетры чутно было. А цяпер усе ўсяго баяцца. Хоць толькі вы не палохайцеся. У вас усё наперадзе.

Чаго мне было палохацца? Мне ягоныя словы былі самая лепшая музыка.

З гэтай музыкай я выйшла ад яго, з ёй упрэглася ў новы воз. І ўяўляеце, праз нейкі час мне гэтая новая мая праца пачала падабацца. Заўсёды з людзьмі, заўсёды з нейчымі клопатамі, нешта дапаможаш, нешта параіш, цябе слухаюць, цябе слухаюцца. Я не проста так казала пра ўладу. Я са страхам пачала заўважаць за сабой, што мне падабаецца быць начальніцай, падабаецца камандаваць. А што камандаваць?.. Сам ні за што не адказваеш, ты як быццам пры ўсім — і ні пры чым. Ты ёсць — і цябе няма. Вось гэта, мудрона сказаўшы, адсутнасць прысутнасці мяне гняла болей за ўсё. Я прыходзіла ў школу, бачыла жывыя дзіцячыя вочы — і сэрца маё абрывалася: «Чаму ты не з імі? Што ты робіш? Навошта падманваеш сябе, здзекуешся з сябе?» Глядзела на Уладзіміра Паўлавіча, на іншых настаўнікаў і зайздросціла ім горкай зайздрасцю. Але, Але, але...

Час ішоў, павінен быў здавацца дом, у якім намячалася і мне двухпакаёўка. Мне назвалі і нумар, паказалі, якая яна. Невялічкая, але з балкончыкам, на трэцім паверсе. Засталіся невялікія недаробкі, а там — вось твой ордэр, вось твае ключы. «Чаму б і не тупнуць...» Паехала я з сынам на поўдзень. Пагрэць дзіця, папаласкаць у марской вадзе, можа, кашаль не будзе так хлупіць зімой, ды і самой акрыяць трохі, набрацца сілы. Мора, сонца, пясок — і нікога над душой, нічога за табой... Якое гэта шчасце жыць, адрынуўшы ад сябе ўсе клопаты, трывожныя думкі пра нейкае заўтра. Жыць сённяшнім

днём, жыць тым, што жывеш, і радавацца таму, што жывеш! Так мы пражылі з сынам дваццаць чатыры дні, вярнуліся дамоў, і тут мяне абухам па галаве: наш Аляксей Генрыхавіч ужо на пенсіі, а на чале райкома другі чалавек. І гэты чалавек — Яўген Андрэевіч. Яўген Андрэевіч, «проста Жэня».

— Сюжэт пад дэтэктыў,— Раман Іванавіч устаў зварыць яшчэ кавы. Насыпаў парашок, уторкнуў шнур у разетку. Зірнуў збоку на Маргарыту Васільеўну. Яна ўся так зბеднілася, галава адкінута ўгору, вочы заплюшчаны, вострыя калені сціснуты абручом рук. Як малое пакрыўджанае дзіця. Захацелася пашкадаваць. Падышоў да крэсла ззаду, паклаў рукі ёй на плечы, і яна даверліва прыгарнулася цёплай шчакой да яго рукі. Прайшла напружаная хвіліна маўчання, Маргарыта Васільеўна тарганула плячыма, аслабаняючыся ад яго рук. Аслабанілася.

— Ён мяне не пазнаў, правільней, зрабіў выгляд, што мы нідзе і ніколі не сустракаліся. Я пагадзілася з ягонай гульнёй. Мне здавалася, што так нават лепей: усё пачынаем спачатку, як незнаёмыя людзі. Бывае, цяжка сустракацца са старымі сябрамі, з якімі даўно не бачыўся. Забываецца тое, што некалі збліжала, саграавала; прападае агеньчык прыязні. Дружба не любіць канікулаў. Але яшчэ цяжэй сустракацца са старымі ворагамі. Асабліва калі вораг пры сіле і любіць варагаваць.

Калі тое было — і той злёт, і той вечар, і тое застолле. Не скажу, што не ўспаміналася. Успаміналася, але ўжо нібыта як нейкі вясёлы эпізод, выбрык маладосці, а чаго ў маладосці не бывае, і каму чаго толькі яна не даруе. Хоць «растапчу і ногі вытру» дараваць цяжка, але я гатова была дараваць і гэта. Толькі дараванне маё нікому не трэба было. Яны былі вышэй усяго гэтага. Каменная маска на твары, сухі афіцыйны тон. Болей за ўсё я баюся казёншчыны, але да ўсяго можна прывыкнуць. Афіцыйна дык афіцыйна. Меней эмоцый — болей толку. Бяда была іншая. Пакуль мы з сынам былі на поўдні, мая кватэра ляснула. Яўген Андрэевіч прыйшоў сам і прывёў з сабой двух новых работнікаў. Аднаму з іх уручылі ключы ад маёй двухпакаёўкі.

«Як гэта разумець, Яўген Андрэевіч?» — спыта-

лася я ў яго. «Разумейце так, як ёсць. Праз паўгода будзе новы дом, і гарвыканком абяцае выдзеліць райкому дзве кватэры. Адну з іх — для вас».— «Але ж мне была выдзелена кватэра».— «Была выдзелена не вам, а райкому, а гэта не адно і тое. Мы параіліся і вырашылі, што так будзе лепей».— «Лепей для каго?» — «Для справы. Чалавек з раёна, двое дзяцей, абое ў музычнай школе. Вы ж педагог, вы павінны зразумець».— «А хто зразумее мяне? І маё хворае дзіця?» — «Ну, гэта справа далікатная, вельмі далікатная. А тут у нас праца».— Нешта падобнае на задаволеную ўсмешку праслізнула па яго твары. Праслізнула і знікла, быццам і не было.

Я былы педагог, і я ўсё зразумела. Я зразумела, што жыць тут мне будзе вельмі цяжка, што тут будзе зроблена ўсё, каб працаваць я не змагла. «Дарэчы, як выступленне? — пераключыўся ён на «працоўную» тэму. «Выступленне гатова».— «Чаму яго няма ў мяне?» — «Зараз будзе». Гаворка ішла пра жнівеньскую настаўніцкую канферэнцыю. Выступаць на ёй вырашыў першы, а тэкст выступлення рыхтаваў наш аддзел.

Так і пайшло маё новае жыццё — дзень за днём, месяц за месяцам. Пра гэта можна расказваць бясконца, можна не гаварыць нічога. Мяне выжывалі настойліва і паслядоўна. За сваю працу я ніколі не чырванела, я не люблю нічога рабіць абы-як, калі ўпрэглася, то цягну, але ён лёгка знайшоў іншае балючае месца. Знайшоў і ціснуў на яго, не адпускаючы.

Як там ні было, а настаў час здачы таго абяцанага дома. Зайшла да яго. «Яўген Андрэевіч, я наконт кватэры».— «Будзем разглядаць».— «Што значыць — разглядаць?» — «Разглядаць, як і ўсіх».— «І можа стацца, што я зноў апынуся ні з чым?» — «Усё можа стацца... Сталася ж, што ў вас была кватэра і вы яе кінулі». Ён ведаў і гэта, ён ўсё ведаў. Я адчула, што ўперлася ў халодную каменную сцяну, адно жывое на якой былі ягоныя ледзяныя шэрыя вочы. Яны пазіралі на мяне спакойна і бясстрасна. У іх я не ўлавіла нават радасці ад болю, які ён рабіў мне. Я баялася аднаго — расплакацца. Не хацела, каб ён бачыў маю слабасць, маё бяссілле што-небудзь змяніць. «Спакойна,— гаварыла я сама

сабе.— Спакойна». Спакойна ўстала і сказала гэтым шэрым ледзяным вачам: «А ўсё-такі ты аддасі мне маю кватэру». І тут гэтыя вочы нібы ажылі, нібы нешта прамільгнула ў іх. «Як вы сказалі?» — «Ты аддасі мне маю кватэру»,— паўтарыла я гэтай задаволенай мордзе, робячы націск на гэтым «ты». Я зноў яго ненавідзела і зноў магла паказаць яму сваю нянавісць. Паказала і выйшла.

Доўга думала, што рабіць далей. І вырашыла папрасіцца на прыём у ЦК да сакратара. Не буду казаць, што прашуся па сваёй бядзе, скажу, што прашуся па пытаннях адукацыі, школы. У нас жа так: прападае, гіне чалавек і просіць выслухаць яго, не дапамогі просіць — проста выслухаць,— ніхто не пачуе. А вот калі ты ідзеш з нейкай дзікай ідэяй, дапусцім, пабудаваць камунізм на Марсе ці ў якой-небудзь Афрыцы — цябе і прымуць, і выслухаюць, і нават грошай паабяцаць могуць.

Сакратара я трошкі ведала. Хаця, што ведала. Бацюшку ўсе ведаюць, але неабавязкова, каб ён усіх ведаў. Некалі, яшчэ пад крылом Уладзіміра Паўлавіча, я выступала на настаўніцкіх чытаннях, на якіх прысутнічаў і ён. Думала, можа, не забыў мяне, а забыў — сама напомню. Галоўнае — трапіць да яго на прыём, зірнуць вочы ў вочы.

Быў ён з колішніх ваенных. Ваяваў штурманам на баявым самалёце, гарэў, падаў, зноў ваяваў. Грубы мужыцкі твар, пляскаты лоб, гладка зачэсаныя валасы, хрыплаваты голас, як з бочкі, стомленыя вочы. Не забыў, успомніў і хто я, і дзе бачыліся. Вось тут, у яго, я не вытрымала — расплакалася, як сапраўдная слязлівая баба. Ён і не суцяшаў мяне. Пакуль я плакала, пазваніў у райком, гаварыў з ім, з першым. Спачатку спакойна, потым злосней, з голасам. «Ты б хоць сваіх людзей не крыўдзіў. Не крыўдзіш? Не бачу. Каго, каго... Выдзяляецца ці выдзелена? Будзе выдзелена? Калі? Ну, вось што. Не ствараў праблем, дзе іх трэба рашаць. Дамовіліся?»

Я чула толькі адзін голас, але ўяўляла, як выкручваецца на другім канцы провада. Уяўляла, і мне было брыдка, нібыта ўсё гэта адбывалася тут, на маіх вачах. Але было і радасна: я бачыла, што ўсё-такі праўда ёсць. Ёсць: вось яна. Чалавек з му-

жыцкім тварам паклаў тэлефонную трубку, гэтак па-добраму паглядзеў на мяне: «Супакойся. Супакойся і працуй. Усё будзе добра. А калі што...» — ён зрабіў рух рукой над сталом, які я зразумела, як дазвол звяртацца да яго.

Стаяла ўжо зіма. Снег накрыў горад і ўсё яшчэ сыпаў і сыпаў. Усё вакол было чыстае, нібы падноўленае. Не хацелася лезці ў трамвай, не хацелася людскога тлуму, і я пайшла пеша — па вуліцы, цераз парк, зноў па вуліцы. Ішла і адчувала, быццам у мяне выраслі крылы — белыя крылы анёлаў. Такія непрыкметныя, лёгкія, і яны самі неслі мяне.

Дарога вяла паўз вайсковыя могілкі. Колькі разоў я праязджала і прабягала паўз іх, не маючы часу і ахвоты не толькі зайсці, а неяк усур'ёз падумаць пра іх. І цяпер я ішла паўз іх, і здалося мне, што яны ўкрыты бялейшым, чым вуліца і ўвесь горад, снежным покрывам — гэтыя маўклівыя строгія помнікі, трывожныя крыжы. Чаму трывожныя? Не ведаю, але яны заўсёды выклікаюць у мяне трывогу. На могілках ішло сваё жыццё, якога я не ведала, пра якое ніколі не думала. У цяжкую цагляную браму прайшлі дзве бабулькі — маленькія, прыгорбленыя, з невялічкімі цёмнымі хатулькамі. Не ведаю чаму, але я павярнула ўслед за імі. Яны ішлі дарожкай у глыбіню могілак, дзе стаяла невялікая царкаўка, ішлі не спяшаючыся, са сваёй ясна азначанай мэтай. Відаць, гэта былі вясковыя кабеты ці, можа, нядаўнія гараджанкі з тых жа перавезеных дзяцьмі вясковых. У іхніх рухах, у хадзе была тая нетаропкая эканомнасць, з якой ходзяць на жніво ці на якую іншую сялянскую працу. І ў грудзях у мяне нешта ёкнула, не забалела, а зачапілася, зашчымела. Я ўспомніла сваю бабулю. Яна таксама ішла ў царкву ціха, спакойна, як на свята. Нават са мной гаварыла мала, хоць я і мітусілася каля яе ног. Мне раптам стала сорамна. Я бачыла іх першы раз, але я востра адчула нейкую сваю віну перад імі. Можа, таму, што яны былі мне зусім чужыя і я нічога не ведала пра іх жыццё, а яно, відаць, было нялёгкае, калі так прыгнула, прыгорбіла. А можа, таму, што яны былі нечым падобныя на маю бабулю.

Падышлі да царквы. Адна з бабулек пацягнула за ручку высокіх дзвярэй, яны лёгка адчыніліся, і

бабулькі зайшлі ў сярэдзіну, як у сваю хату. Я пайшла за імі. І перада мной дзверы лёгка расчыніліся. Ціхі паўзмрок невялікага калідорчыка, высокая прастора залы, з купала якой звісала люстра на шмат лямпачак-свечак. Лямпачкі былі і на сценах, і на масіўных квадратных слупах, што трымалі купал. І спераду, і справа, і злева, на вялікіх медных падсвечніках гарэлі свечкі — і маленькія, тоненькія, і большыя, таўсцейшыя. Жоўтыя, нейкія нерэальныя, нібы намаляваныя, бяздымныя язычкі полымя міргалі, як зоркі на вячэрнім небе. Я ўспомніла, што звычайна свечкі ставяць па тых, хто памёр. Каб ім лягчэй было там, у іншым свеце. Ставяць таксама і для жывых, каб здаравей і лягчэй жылося тут, на зямлі. І іконы, усюды іконы — і на слупах, і па сценах, і ніжэй, і вышэй, і высока. І малыя, якія некалі былі ў бабулі, і большыя, і зусім вялікія. Спакойныя твары святых, дабрыня і лагода на іх. Высока перад вачыма на ніжняй абводцы купала, як на распасцёртым ручніку, даўнімі скарынінскімі літарамі словы: «Придите ко Мне, все труждающиеся и обремененные, и аз упокою вы». Прыйдзіце да мяне, балесныя і няшчасныя, і я супакою вас... Суцешу вас... Калі б гэта было так... Хай бы гэта было так...

Бабулькі запалілі па свечцы, укленчылі перад абразамі, заварушылі губамі, зашапталі нейкія гарачыя словы.

Народу ў цэркаўцы было няшмат, але былі тут не толькі старыя, а і юнакі і дзяўчаты. Дзіўна і нязвычна было бачыць мне зусім маладых людзей на каленях. Мне здалося гэта нечым ненатуральным, прыдуманым. Хацелася нават падысці і спытаць: «Вы і ўзапраўду верыце? Верыце ў бога?» І паглядзець у вочы і пачуць, што табе скажуць.

У царкве стаяў ціхі шум, варушэнне. Людзі ўставалі, пераходзілі ад іконы да іконы, апускаліся на калені, схіляліся ў паклоне. Разам з пахам гарэлага воску і парафіну ўсё гэта стварала своеасаблівую атмасферу спакою. Кожны заняты сабой, сваімі думкамі, сваёй душой. Я стаяла ў разгубленасці, нібы была тут лішняя, нібы гэтай сваёй цікаўнасцю, гэтым сваім стаяннем магла перашкодзіць гэтым людзям рабіць сваю работу — весці важную для іх

Недзе збоку за спіной у нас зашамацелі кусты. Я азірнуўся. Адтуль з чорнай гаспадарчай сумкай у руках выйшла яшчэ зусім не старая жанчына і пайшла ўздоўж зараснікаў акацыі, пільна ўглядаючыся ў кусты, нібы шукаючы нечага. Нешта падалося мне знаёмым у ёй, але адчуванне гэта мільганула, як цьмяная згадка, і прапала. Валодзя таксама паглядзеў жанчыне ўслед, потым павярнуўся да мяне:

— Ты пазнаў яе?

— Не. Ды і адкуль я мог пазнаць?

— Мог... Гэта ж Гэлька.

— Піцерава Гэлька?

— Яна.

— І што яна тут... робіць?

— Збірае пляшкі. Сюды, бывае, прыходзяць сем'ямі — на цэлы дзень, з дзецьмі, з ядой. І часта, каб не цягнуць дамоў, пляшкі кідаюць пад кустамі. Вось яна і ходзіць, збірае іх.

Гэта ўжо было занадта. Гэлька... Гэлька збірае ў гарадскім парку кінутую пасуду. Успомніўся Васіль — не па гадах малады, прыгожы, шахцёрская пенсія, агент па страхаванні. Прыпомніўся яго голас: «Хочаш, магу застрахаваць тваё жыццё...»

— Слухай, Валодзя, а ён, Васіль, ведае, што яна ходзіць так?..

— Ведае. І добра ведае...

— Ён што, не дае ёй грошай?..

— Відаць, што не: ён надта скупы. І ўсё неяк расколалася ў іх, пайшло ўраздроб... Яна часам заходзіць да нас, да маці. Усё Ліпніцу ўспамінае...— Валодзя сказаў гэта задуменна, расцягваючы словы.

Я не стаў болей нічога пытацца ў яго, хоць мне вельмі хацелася ведаць многае.

...І быў яшчэ адзін дзень квітнеючай вясны. Гэта ўжо было пасля таго, як памёр бацька.

Прыехаў я дамоў, падыходжу да двара, думаю, як будзе ў хату ўлезці. Хоць мы і прасілі прыгледзець хату стрыечную сястру Соню, яна жыла цераз вуліцу, але просьба просьбай, у яе свае клопаты, гаспадарка...

Заходжу ў двор, гляджу, а з коміна ціхенька дым ідзе. Аж гэта брат прыехаў і запаліў у печы, каб абагрэць хату. Тым болей што дроў далёка шукаць не трэба было: бацька назапасіў іх гады на тры. Абагрэлі

мы хату, пераначавалі, а назаўтра раніцай рашылі прайсці ў лес — туды, на Баркі. У балота лезці было яшчэ рана, хоць меліярацыйныя канавы і зрабілі яго болей даступным. Ішлі берагам лесу, пералазячы цераз ссунутыя трактарамі ў лаўжы паклычаныя кусты і маладыя дрэўцы.

Стаяў пачатак мая, было цёпла і парна, светлазялёныя, вострыя, як шаршаткі, стрэлкі травы смела і лёгка прашывалі леташнюю бяскроўную лістоту і настырна цягнуліся ўгору. Над купінамі слаўся бледна-зялёны, волкі дымок. У паветры стаяў смолкі пах яшчэ заціснутай у пупышках, але гатовай вырвацца на волю лістоты маладых таполяў і асін.

Мы то заглыбляліся ў зараснік, абыходзячы жаўтаватыя, нібы цвілыя, лужыны яшчэ не забранай зямлёй вады, то ўбіваліся ў лазняк, то выходзілі на малады, сыры ельнік, вылазілі яго. Хадзілі так даволі доўга, пакуль не выбіліся на больш светлае месца.

Гэта была нечая сядзіба, нечы сад. Хоць беразняк і асіннік, чэпка сплеценыя лазняком, абступілі ўсё кругом, месца гэта вылучалася правільнасцю ліній некалі пасаджаных дрэў. Слівы ішлі па перыметры саду, яны даўно здзічэлі, абраслі парасткамі, іх цяжка было адрозніць ад лазняку. Унутры гэтага чатырохкутніка роўнымі радамі стаялі яблыні. Было відно, што людзі даўно пакінулі гэты надзел некалі адваяванай у лесу, уробленай зямлі. На месцах, дзе калісь стаялі будынкі, суцэльным бледна-зялёным абрусам бралася крапіва.

Але ўразіла не гэта. Уразіў цвітучы сад. Кветкі так густа абляпілі галінкі, што саміх галінак не было відаць. Адны пукі кветак — буйных, разлатых.

Падышлі бліжэй, і тут я спыніўся як укапаны. Глядзеў на ствалы яблынь і нічога не мог зразумець. Ствалы ў яблынь былі не круглыя, а квадратныя! Кара, як і павінна быць на яблынях, толькі ў адных месцах цёмна-бурая, а ў другіх светлая, мякка-шакаладная, і гэтыя колеры ішлі ад кроны да зямлі, нібы нехта вёў пэндзлем па ствале зверху ўніз: раз — такім колерам, раз — такім. Але ствалы былі акантаваныя, як слупкі на верандзе якога дачнага доміка.

— Нічога не разумею,— павярнуўся я да брата, шукаючы яго дапамогі.

— Чаго ты не разумееш? — ён гаварыў спакойна, нават занадта спакойна.

— Ты паглядзі на ствалы. Якія яны?

— Абчэсаныя.

— Як... абчэсаныя?

— Сякерай. Звычайнай сякерай.

Я падышоў яшчэ бліжэй да яблыні. Уся яна была бела-ружовая ад цвету, там мірна, яшчэ нясмела, па пачатку вясны, гулі пчолы. Ствол дрэўца сапраўды быў некалі груба — чах, чах,— відаць, чалавек спяшаўся ці нерваваўся — абчасаны сякерай. Але дрэва знайшло ў сабе сілу залячыць гэтыя раны, амаль усё счасанае закаціла маладой карой, і нават тыя ўчасткі, дзе разам з карой была знята і драўніна, пакрыліся тоненькай карычневай плеўкай. Тое ж самае было і з другой яблыняй, і з трэцяй... І сад цвіў.

З нямым пытаннем я пазіраў на брата. Чакаў, што ён скажа.

— А ты ведаеш, чый гэта сад? — спытаў ён у мяне.

— Не ведаю.

— Піцеравай Гэлькі. Ад'язджаючы адсюль, яна ўзяла сякеру — а ты ведаеш, што ў Піцера яны былі вострыя,— выскачыла ў сад, як звар'яцелая, і паабчэсвала ўсе дрэвы. Гаварылі, быццам бы на гэта месца мелася перасяліцца адна жанчына, з тых, у каго, будучы фінагентам, спыняўся пераначаваць яе Васіль. І вось Гэлька сякеру ў рукі і... «Не мне, дык хай нікому». А як там папраўдзе...

Я больш нічога не пытаўся. Мне ўспомнілася, як некалі мы з братам лазілі па балоце, абдзіралі лазу, каб купіць сшыткі і падручнікі, і як сіратліва і гола выглядалі тыя абадраныя лазіны. І вось яблыні. Добра, што яна не абчасала іх укругаля, а толькі з бакоў, пакінуўшы палосы жывой кары.

Дамоў мы з братам ішлі моўчкі. Ён увесь час курыў, пазіраючы перад сабой. Я таксама маўчаў. На душы было пуста і прыкра. Быццам нехта вельмі блізкі прадаў цябе, і прадаў адкрыта, бессаромна.

Я не стаў расказваць брату пра тое, што не так даўно бачыў Гэльку.

І вось гэты тэлефонны званок.

Я сяджу на кухні, куру, хоць два месяцы таму назад кінуў курыць... І жонцы кляўся, што гэта назаўсёды...

# АВОХЦІ МНЕ!

*Апавяданне*



Ну як, добра?

Выхавацельніца малодшай групы дзіцячага сада Ліля Іванаўна стаяла перад люстэркам, сціснуўшы рукой каўнер паліто. Адступіла на крок назад, каб бачыць сябе ўсю, павярнулася туды-сюды. Белы з заечага футра каўнерык шчыльна аблягаў шыю, хаваючы глыбокую маршчыну на ёй — не надта радасную адзнаку сарака гадоў. Твар у гэтым пушыстым гняздзечку выдаваў маладзейшым і свежым.

— Ну як, добра? — спытала зноў і паглядзела на малую чатырох гадоў, што, склаўшы ручкі, як гэта могуць старыя бабкі, «усё ўсыпаўшы ў печ», пазірала на выхавацельніцу вялікімі, круглымі, як гузікі, карымі вачанятамі. Малая заківала галоўкай, паказ-

ваючы, што ёй падабаецца Ліля Іванаўна ў гэтым даўгім — да пят — бардовым паліто-халаце. На каўняры тырчалі хвосцікі белых нітак. Ліля Іванаўна ўзяла нажніцы, абрэзала іх.

— Ну, дзе яе чэрці носяць? Няўжо яна думае, што я кожны раз буду вадзіць яе дзіцянё дамоў? — сказала без злосці.

Дзяўчынка на гэта нічога не адказала.

Ліля Іванаўна надзела на галаву маленькую рыжую шапачку, абшытую па беражку ўсё тым жа белым зайцам, перахапіла талію белым поясам з чырвонымі кутасамі на канцах, прыклеіла вусы-мяцёлкі, шырокую бараду і павярнулася да Лялі. Тая аж роцік разявіла. Перад ёй стаяў Дзед Мароз і пазіраў на яе строгімі вачыма. Лялі стала страшна, і яна зморшчыла маленькі носік-кнопку і вось-вось гатова была заплакаць.

— Ну, не плач, не плач,— засмяяўся вясёлым голасам Дзед Мароз, падхапіў Лялю на рукі, падняў бліжэй да барады, і Ляля зноў убачыла, што гэта ніякі не Дзед Мароз, а ўсё тая ж добрая Ліля Іванаўна. І Ляля засмяялася ад радасці, што яе страхі скончыліся, бо яна ведала, што з Ліляй Іванаўнай яна нічога не баіцца. Ліля Іванаўна прыціснула яе да сябе, і не паспела Ляля апамятацца, як ужо зноў стаяла на падлозе, і перад ёй не было ніякага Дзеда Мароза, а была ўсё тая ж Ліля Іванаўна — без вусоў, без барады, без даўгога дзеда-марозаўскага паліто, высокая, стройная, хоць і трошкі паўнаватая,— і ад яе так добра, як ад мамы, пахла духамі.

Выйшлі на двор, і на іх адразу паляцелі лёгкія сняжынкі, плакатліва затрымцелі на шчоках.

Лялін дом быў недалёка ад садзіка, і прыйшлі яны скора. Ляля адразу пазнала свае дзверы. Яны былі абабіты зялёным, а на зялёным было шмат бліскучых кнопачак, і ўсе гэтыя кнопачкі былі звязаны між сабой беленькімі ніткамі, і здавалася, што дзверы парэзаны на зялёным ромбікі. Ляля сама націснула на кнопку званка. Тата Лёша зрабіў так, каб кнопка званка была нізка і каб Ляля сама магла націснуць на яе. І дзверы абіваў ён сам, і зрабіў так прыгожа, каб Ляля не заблудзілася.

Дзверы адчыніла мама Тамара. Толькі была яна злосная, нават не павіталася з Ліляй Іванаўнай.

Моўчкі прапусціла Лялю і Лілю Іванаўну у калідор, моўчкі пачала здзяваць з Лялі цёплую куртачку з капюшонам, пакінуўшы Лілю Іванаўну ля парога.

— Мамка, у нас Дзед Мароз! — зацерабіла яе за спадніцу Ляля.— У нас Дзед Мароз!

— Адстань, які Дзед Мароз? — адмахнулася маці, атрасаючы Ляліну куртачку ад снегу.

— Во Дзед Мароз,— Ляля паказала рукой на Лілю Іванаўну.

— Гэта Дзед Мароз? — усміхнулася Тамара, зірнуўшы на Лілю Іванаўну.

— Ты па дзіця думаеш прыходзіць? — спытала Ліля Іванаўна. Ёй не спадабалася, як яе сустрэлі, і яна хацела, каб гаспадыня гэта ведала.

— Прабач, Лілечка. Усё з-за гэтага і гарыць. Я сяджу спакойная на рабоце, ведаю — свякруха дома. А яна, аказваецца, матанула да дачушкі. Тыя надумаліся сустракаць Новы год недзе на дачы, у лесе, дык з дзецьмі няма каму пабыць. Мы таксама збіраліся ісці ў оперны, заказалі столік. І Ляля...— Тамарын голас аж ляшчаў у кватэры.

— Чаго ты крычыш? Я не глухая. І наогул,— паморшчылася Ліля Іванаўна.

— Крычу, бо хачу, каб і той чуў,— Тамара кіўнула галавой на дзверы залы.

— Захацелася і паехала,— спачатку пачуўся голас, а потым з залы выйшаў і сам Тамарын муж Алёша — высокі чарнявы мужчына. Ён усміхнуўся Лілі Іванаўне, развёў рукамі.— Ты б запрасіла чалавека распрануцца, а то дзержыш у парозе,— дадаў ён мякка.

— Раздзенься, Лілечка,— спахапілася і гаспадыня, але зноў ускінула рукамі.— Не, хай бы сказала загадзя, а то цішком, падпольна...

— Яна табе парабчанка ці абавязана чым? — зазлаваў Алёша.

— Яна не парабчанка, дык ты — парабак. І будзеш сядзець сам з дзіцем, а я пайду.

— Ідзі... Мы з Лялькай знойдзем што рабіць. Праўда, Лялька?

Лялька радасна заківала галоўкай.

— Дзе любоў на грані тапара, трэцяму нечага рабіць,— Ліля Іванаўна павярнулася да дзвярэй, але спынілася.

— Ты і праўда хочаш сысці сёння з дому?
— І хачу, і сыду.
— Тады... пайшлі са мной. Мне трэба памочнік. Бацькі папрасілі, каб я пахадзіла з мяшком, пабыла Дзедам Марозам. Я згадзілася, а мой Іванка, памочнік мой, захварэў. Дык ты будзеш ім, будзем разам шукаць Снягурачку. Канечне, калі Алёша адпусціць.
— Адпушчу... Не адпусціш — яна ж ўсё роўна жыцця не дасць.
— Гэта будзе здорава! — загарэлася Тамара.— Толькі што мне рабіць?
— Нічога. Адзецца трэба пад Іванку, і каб цёпла было. Здаецца, у цябе кажушок быў. Ёсць? Давай сюды.
Тамара прынесла белы кажушок, у якім фарсіла яшчэ тады, калі кажухі не былі дэфіцытнай модай.
— Значыць, кажух ёсць, папружку Алёша дасць. Цяпер шапка. Можна во гэту чырвоненькую, вязаную. Прычоска... Распушыць трохі валасы... Яны ў цябе светлыя, гэта добра. І твар кругленькі, маладзенькі, як у хлопчыка. Вочкі сумныя, ты шукаеш сваю Снягурку, ты сумуеш па ёй, каханне паліць тваю душу. Ага, вось так, добра. Ногі... ногі... А боцікаў у цябе няма? Ёсць? Давай сюды, пераабувайся. Ну, чаго ты стаіш? — гэта ўжо Алёшу.— Дапамагай бабе абувацца. Смялей, быццам першы раз бярэшся за жончыну нагу. Во так. Цудоўна. Павярніся. Яшчэ раз. Іванка, чысты Іванка! Дык што, Алёша, адпускаеш сваю кабету?
— Толькі пад вашу адказнасць, Ліля Іванаўна. Вы ж ведаеце, ад яе можна ўсяго чакаць...
— Усё будзе добра. Ну, я пабегла дамоў. Трэба ж самой прычапурыцца ды зрабіць што-небудзь. Значыць, Томачка, сустракаемся без пятнаццаці дванаццаць у садзіку.— Ліля Іванаўна выслізнула ў калідор.
На двары церушыўся асцярожны сняжок — такі, якога заўсёды чакаюць пад Новы год. Усё кругом чыстае, улагодненае, гатовае да прыходу свята. Над трохпавярховым гандлёвым цэнтрам, што вялізным, прасвечаным з сярэдзіны ледзяным кубам з надбудоўкай-цюбецейкай узвышаўся на пагорку, гарэлі чырвона-зялёныя неонавыя літары, і ўсё кругом здавалася неспакойным, чырвона-зялёным,— і снег, і дах будынка, і дарожкі. У магазін і з магазіна беглі людзі,

і чырвона-зялёнае святло загадкавымі ценямі адбівалася на іх тварах.

У Лілі Іванаўны было хораша на душы, хацелася спяваць нешта ціхае, сумнае. Недзе ў глыбіні сэрца закіпалі слёзы, але Ліля Іванаўна не баялася іх. Гэта былі слёзы па няўдалым яе жыцці, яна звыклася з імі і ўмела не даваць ім волі. І таму пачала думаць пра тое, што яшчэ не зрабіла сёння і што трэба зрабіць.

З гэтым яна зайшла ў ліфт, паднялася на свой дзевяты, самы верхні ў іхнім доме паверх, выйшла з ліфта і аж скаланулася ад таго, што ўбачыла. Зверху, з-за ліфта, дзе пачыналася крутая металічная лесвіца на дах, цёк, пераліваючыся з прыступкі на прыступку, тонкі струмень, збіраўся ля ўваходу ў ліфт, ледзь не ля яе ног, у лужыну. Струмень быў жывы, і лужына большала на вачах. Ліля Іванаўна ўзбегла наверх: ёй здалося, што там нехта стаіць. Так яно і было. Завярнуўшыся ў куток, стаяў невысокага росту мужчына ў шэрым паліто і новай трусінай шапцы і, як ні ў чым не бывала, рабіў тое, што прынята рабіць у іншым месцы і каб ніхто не бачыў... Ён нават не пачуў, калі падышла Ліля Іванаўна.

Гэта быў малады мужчына гадоў пад трыццаць пяць, яна яго ніколі раней не бачыла. Ён павярнуў галаву да Лілі Іванаўны, п'янаватыя вочы яго зміргалі, галава пайшла ў плечы.

— Юра! — крыкнула Ліля Іванаўна на ўсю пляцоўку.— Юра!

Адчыніліся дзверы, і з кватэры паказаўся сын. Убачыў маці ўгары, здзівіўся:

— Што ты там робіш?

— Нічога. Знайшла работніка, ён паможа прыбраць наш дом к Новаму году. Вазьмі вядро вады, анучу і нясі сюды. Бягом.

Мужчына рвануўся быў уніз, але Ліля Іванаўна ўчапілася ў яго рукаў, як каршун.

— Ну, куды ж вы, не трэба так спяшацца... Давайце зробім усё па-добраму,— загаварыла яна да яго ласкава, як да дзіцяці, і яму нічога не засталося, як пакорліва чакаць.— Давайце ўсё па-людску, а то ў нас і міліцыя недалёка, дзе яна толькі ходзіць, ніколі не бачыць, што ўвесь пад'езд за... во такія маладыя чарнільшчыкі...

Сын прынёс вядро з вадой і анучу і паставіў на падлогу, з гідлівасцю зірнуўшы на мужчыну і на лужыну, з якой ішоў востры смурод.

— Ну, давайце,— ужо загадала Ліля Іванаўна, і мужчына ўзяў анучу ў рукі так, як быў, у паліто, але Ліля Іванаўна спыніла яго: — Ну што вы, хто ж так робіць, вы ж паліто вымачыце. Здзеньце яго, павесьце сюды,— яна паказала на металічную рэйку, што ішла паўз акно. Яшчэ некалькі хвілін назад п'яныя вочы чалавека набылі яснасць думкі, ён баяўся ўзняць іх угору, на Лілю Іванаўну, і рабіў усё тое, што яна прасіла. Здзеў паліто, перакінуў цераз металічную рэйку, узяў анучу, сунуў у ваду, алеміналі рукавы пінжака, ён здзеў і пінжак, ускінуў наверх на паліто, закасаў рукавы чыстай блакітнай кашулі — белыя, інтэлігентныя рукі яго дрыжалі. Ён намачыў анучу ў вядры, сказаў злосна:

— Вы не глядзіце на мяне, ідзіце.

— Ага, я пайду прынясу парашку, а то смярдзець будзе,— ахвотна пагадзілася Ліля Іванаўна, спусцілася ў сваю кватэру, узяла пачак парашку. Вярнулася, пасыпаючы парашком мутны след.

Верхняя пляцоўка ўжо была вымыта.

Ліля Іванаўна глядзела, як ён працаваў, час ад часу падказвала, што трэба рабіць:

— Не трэба столькі вады, навошта вы столькі бахнулі? Анучу спачатку трэба выкруціць, а потым выціраць, а то вы болей размазваеце ўсё гэта сваё, чым выціраеце.

Ён паслухмяна рабіў тое, што яна загадвала. Скончыў работу, зірнуў на Лілю Іванаўну: адпускае яна яго ці не. Ліля Іванаўна спусцілася ніжэй:

— Тут, на восьмым паверсе, таксама засталіся сляды.

— Я першы раз гэтак...— ціха сказаў мужчына, а сам пакорліва ішоў услед за ёй на восьмы паверх, паставіў вядро, стаў замываць чорна-бурыя застарэлыя пацёкі.

Ліля Іванаўна глядзела на прыгожую, з кучаравымі русымі валасамі галаву, на белыя, далікатныя рукі, відаць, такой работы, якую яны рабілі цяпер, яны ніколі не ведалі, і адчувала, як у грудзях закіпае нешта такое страшна-сумнае, бязвыхаднае, хоць завый на ўвесь голас, і каб не даць волі гэтаму невядома

адкуль нахлынуўшаму жалю, павярнулася і пайшла наверх, да сябе, толькі сказала:

— Божа мой... Хіба ж можна такі здзек учыняць над сабой...

— Ты заўсёды знойдзеш сабе работу,— сустрэў яе сын. Ён пачапляў на ёлачку цацкі, павесіў лямпачкі і цяпер правяраў, ці гараць яны.

Ліля Іванаўна нічога не сказала сыну, зайшла ў ванную і доўга мыла рукі з мылам.

Раздаўся званок у дзверы, яна адчыніла: на парозе стаяў мужчына з вядром і анучай.

— На сёмым таксама мыць? — спытаў ён, зірнуўшы на яе вачыма пабітага сабакі.

— Хопіць,— сказала яна і ўзяла вядро. Ён павярнуўся, каб ісці, але яна спыніла яго: — Зайдзіце хоць рукі памыйце.

Правяла ў ванную, дала мыла, ручнік, сама выйшла на кухню. Запаліла газ, паставіла ваду, пачала абіраць бульбу.

Мужчына выйшаў з ванны, але ісці з кватэры не спяшаўся, яна адчула: чакае яе, і выглянула ў калідор. Ён стаяў, апусціўшы рукі, зірнуў на яе, яна зноў убачыла, якія ў яго прыгожыя блакітныя вочы, сказаў:

— Прабачце.— Сказаў і стаяў, быццам нечага чакаў.

— Ідзіце,— з цяжкасцю сказала Ліля Іванаўна і вярнулася на кухню. Праз нейкую хвіліну адтуль пачуўся яе ціхі голас. Сын ведаў, у маці вельмі пагана на душы. Калі ёй было цяжка, яна заўсёды пачынала спяваць вось такім ціхім тоненькім голасам. Як маленькае дзіця, што доўга і няўцешна плакала, змарылася, знясілела. Сам плач прынёс разрадку, супакаенне, і дзіця вось-вось павінна заснуць, і голас — тая музыка, калыханка, што з'яўляецца прамой звязкай паміж явай і сном. У такія хвіліны сын маўчаў, стараўся не назаляць ёй, разумеючы, што тут не трэба ўмешвацца.

І цяпер ён праверыў увесь ланцужок лямпачак, знайшоў перагарэлую, замяніў яе — і гірлянда ўспыхнула зялёна-чырвона-белымі агеньчыкамі-зорачкамі. Ён абвіў ёю ёлачку некалькі разоў, выключыў люстру, і пакой адразу стаў па-навагодняму святочны і таямнічы.

Якраз у гэты час і заглянула ў пакой маці.

— О-о-ой, як прыгожа! — пахваліла яна, але ў голасе яе быў усё той жа сум і жаль.— Дык дзе вы сустракаеце? — спытала ў сына, дастаючы з шафы белы абрус і засцілаючы ім стол.

— Спачатку ў школе, там у нас ёлка, музыка, потым ідзём да Сашкі, а потым, можа, прыйдзем да нас...— Апошняе ён сказаў так, быццам загадзя чакаў, што маці будзе пярэчыць. Але яна не сказала нічога, толькі спытала: — І колькі вас усяго будзе?

— У школе ўвесь клас, у Сашкі — чалавек шэсць, можа, яны і да нас прыйдуць.

— Няхай прыходзяць,— сказала маці.— Яда будзе гатова: што на стале, што ў халадзільніку. Толькі надта не шуміце, каб не было скандалу.— Ліля Іванаўна кіўнула за сцяну. У гэтай невялічкай двухпакаёвай кватэры жыло дзве сям'і: Ліля Іванаўна з сынам займала адзін пакой, другі — другая сям'я, маўклівая і панурая жанчына гадоў трыццаці з двума дзецьмі — хлапцом і дзяўчынкай. І хоць Ліля Іванаўна характар мела спакойны і ўжыўчывы, жыць з суседкай на адной кухні было вельмі цяжка.

— Дзе ж ты бачыла, каб на Новы год было ціха,— засмяяўся сын, і яна ведала, што калі ён прыйдзе сюды з хлопцамі, то магнітафон будзе крычаць на ўсю глотку, і ўсе яны будуць тупацець і весяліцца так, як захочуць, і ніхто нічога не зробіць. Але ўсё роўна паўтарыла:

— Глядзі, Юра, не шуміце. Віна, калі захочаце, па чарачцы можаце выпіць, а гарэлку не чапайце.

— Яшчэ што выдумала... Гарэлку,— хмыкнуў сын.

Ліля Іванаўна зрабіла выгляд, што не заўважыла грубасці ў сынавым голасе. Яна цяпер часта рабіла так. Бачыла, што сын не толькі знешне ўсё болей і болей робіцца падобны на свайго бацьку. Хацелася думаць, што гэта пераходнае, што ўсё настроіцца, будзе так, як павінна быць. Што верх возьме розум, а не натура, бо натура ў бацечкі была неўтаймаваная, дзікая. І розум, а з ім і раскайванне прыходзілі да яго позна, і прыходзілі ненадоўга — да чарговай палучкі ці да чарговай сустрэчы з сябрамі, калі ён зноў даваў сабе волю.

А як яна яго кахала! Хіба ж не кахаючы паляцела

за ім на край свету — дзе той Урал, а яшчэ ж за Уралам. Аб адзін дзень сабралася, паскідала ў чамадан усё сваё дзявочае багацце, як Дзед Мароз падарункі ў мех, і паехала. А як жа: высокі, чарнявы, і танцор, і песеннік, і яна любіла і спяваць, і танцаваць. І ён сустрэў яе ў аэрапорце, прывёз на кватэру: маленечкі пакойчык у трохпакаёвай кватэры, які выдзеліў ім рабочы электрастанцыі — яго харошы знаёмы. Добры чалавек, кампанейскі, і жонка такая ж, абое маладыя, самі з двумя дзецьмі, а не пабаяліся чужых людзей. Часта збіраліся разам вечарамі — адной дружнай сям'ёй. І ўсё было добра, пакуль яна не загрубела, пакуль не пайшла ў дэкрэт. Хоць і раней намякала ёй Маруся, яе маладая гаспадыня: «Глядзі, Ліля, уецца ля яго Наташа. Глядзі!»

А што глядзець. Адзін раз спецыяльна пайшла ў цырульню, не столькі каб зрабіць завіўку, колькі каб паглядзець на гэтую Наташу. Убачыла нейкае маленькае аблезлае дзеўчанё з нахабнымі вачыма і супакоілася. Ведала, што сама ні ў чым не ўступіць ёй, адчула сябе вышэй за яе, смялей, а болей за ўсё не хацелася ставіць сябе побач з ёй. Супакоіцца — не супакоілася, а рашыла пакінуць усё на само жыццё ды на самога Толю: няўжо ён сляпы, няўжо не бачыць. Не сляпы — разбярэцца.

Не ўсё ведала яна тады. Не ведала, што да таго, як прыехала яна, Наташа і Толя фактычна жылі як муж з жонкай, то сварыліся, то мірыліся, хоць мірыла заўсёды гарэлка. І што яна стала між імі ў адзін з чарговых канфліктаў, калі Толя, раззлаваўшыся, крыкнуў: «Вось еду дамоў у водпуск і прывязу жонку!» — «Прывязі, прывязі, пабачым, што з гэтага выйдзе»,— сказала на гэта Наташа.

Ён зрабіў так, як грозіўся. Праўда, ён сказаў Лілі, што яна не першая ў яго, што да яе былі ў яго дзяўчаты, але ўсё гэта было «не тое», каб яна ведала і верыла яму. І яна паверыла, стараючыся не думаць пра тое, што стаяла за гэтымі абыякава кінутымі словамі «ты ў мяне не першая» і што гэта такое «гэта ўсё было не тое».

Яна насіла ўжо апошнія тыдні, хадзіла, бы тая качка, цяжка перавальваючыся з нагі на нагу. Сваркі былі і раней, але цяпер яны сталі кожны дзень і з кожным днём набывалі незразумелую зацятасць і жорст-

касць. Блізіўся час родаў, яна разумела, што ёй патрэбен спакой, і старалася, як толькі магла, каб знайсці нейкую раўнавагу, каб усё было добра, каб усё скончылася добра.

Ён дзве ночы не начаваў дома, і яна вечарам сабралася выйсці на вуліцу, на свежае паветра. Гэта яна так суцяшала сябе, так гаварыла сама сабе і гаспадыні, а папраўдзе выйшла пашукаць яго. Гаспадыня сказала, што бачыла яго ля закусачнай. «Толькі ты доўга не гуляй,— папярэдзіла яе гаспадыня.— На вуліцы вельмі моцны мароз».

Мароз і праўда быў вялікі, градусаў сорак пяць, яна толькі хаўкнула ротам і спынілася, затуляючыся каўняром, аддыхваючыся, баючыся ўздыхнуць на поўныя грудзі. Кругом быў снег, і ў паветры сіціліся дробненькія сняжынкі-іголачкі, даставалі да твару, студзілі яго.

Яна асцярожна ішла, баючыся пакаўзнуцца, снег вострa рыпеў пад нагамі.

Яна ўжо прывыкла да марозу, прызвычаілася дыхаць праз каўнер, і мароз ужо не здаваўся такім вострым і даўкім. Яна супакоілася, заварожаная гэтай глухой цішынёй. Здавалася, што ўвесь горад знаходзіцца пад вялізным шкляным каўпаком, з якога сеецца і сеецца дробны снежны пыл. Святло ад ліхтароў вырастала конусамі ўгору, пералівалася ўсімі колерамі і разыходзілася канцэнтрычнымі кругамі. Яна палюбавалася на гэта дзіва, дома яна такога ніколі не бачыла, і павярнулася, каб ісці назад, а было гэта якраз каля невысокага аднапавярховага доміка кінатэатра.

Якраз скончыўся сеанс, людзі пасыпалі на вуліцу, выдыхаючы пару, і яна ўбачыла іх — Наташу і Толю. Яны выйшлі ўдваіх, ён трымаў яе пад руку, Наташа нешта гаварыла яму і смяялася, а ён ківаў галавой. Яны прайшлі, не заўважыўшы яе, і ёй трэба было прамаўчаць, не абзывацца, але яна не вытрымала, пазвала: «Толя». Усё, што адбылося далей, яна ўспамінала як нейкі страшны кашмарны сон.

Яны павярнуліся разам абое, быццам чакалі яе голасу, і пайшлі на яе абое, гэтак жа, як выйшлі з кіно,— пад ручку, а яна стаяла ля драўлянага слупа і чакала іх, з цяжкасцю разумеючы, на якім яна свеце. Быццам гэта ішоў да яе не яе муж і яна не была яго

жонкай, быццам яна замахнулася на нешта чужое. У галаве пачало звінець, звон нарастаў і нарастаў, пакуль яны набліжаліся да яе, і перастаў, як толькі яны падышлі і загаварыў Толя.

Што ён загаварыў, яна хутчэй здагадалася па тым, як шавяліліся яго губы, бо голасу яго не чула, хоць ведала, што ён павінен быў быць, раз шавяліліся губы і з рота ішла марозная пара. Потым да яе дайшоў і голас.

— Ну, чаго ты ходзіш, чаго стаіш? Ідзі дамоў,— сказаў ён.

— А ты?— спытала яна.

— Я таксама прыйду,— сказаў ён. Ён сказаў гэта ціхім, мяккім голасам, голас быў не п'яны, і яна павярнулася і пайшла. Яна адышла метраў з дзесяць, як яе дагнала Наташа: «Ну, што, дачакалася свайго? Едзь туды, адкуль прыехала. Я табе яго не аддам».

Ліля пайшла, не стала яе слухаць. Ёй было ўжо ўсё роўна, што яна і як гаварыла.

У той вечар ён яе набіў. На стале стаяла астылая вячэра — скаварада з халоднай смажанай бульбай, накрытая талеркай, парэзаны селядзец з цыбуляй, нарэзанае скрылікамі сала — яго вячэра. Яна сядзела на ложку, тупа слухаючы самую сябе.

Ён зайшоў у пакой, не распрануўся, зірнуў на стол, падступіў да ложка, на якім сядзела яна, і ўдарыў яе.

Здаецца, ён нават не размахваўся, але ўдарыў моцна, шчака гарэла яшчэ некалькі дзён пасля, хаця фізічнага болю ні тады, ні пасля яна не адчула. Проста сядзела на ложку, потым хістанулася ўбок, як ад ветру, і — выпрамілася.

Ён ударыў яшчэ раз. Яна зноў села так, як сядзела, здзіўлена пазіраючы на яго. Ён ударыў трэці раз, павярнуўся і пайшоў.

Наступны раз яна ўбачыла яго ў бальніцы, калі ён прыйшоў забіраць яе з дзіцем. Яна яшчэ тры месяцы пажыла ў пасёлку, пакуль трохі акрэпла дзіця, і вясновым днём, калі ён быў на працы, сабралася і паехала назад, дамоў. І вось ужо сын які — дзесяцікласнік. Усе гэтыя гады яна маліла бога, каб ён не быў падобны да бацькі. А ён чым болей рос, тым болей збіраў усё яго: і валасы, і паходку, і голас... Гэта ўсё няхай, толькі б не быў такі жорсткі, такі халодны...

Тамара чакала яе каля садзіка. Невысокая, у кажушку, у лёгкіх боціках і чорнай шапцы-вушанцы, яна сапраўды выдавала на хлапчука.

— Адабрала ў Алёшы шапку. Знойдзе сабе, калі захоча куды выйсці,— растлумачыла яна Лілі Іванаўне.

На пераапрананне ў касцюм Дзеда Мароза пайшло некалькі хвілін, і вось яны ўжо на вуліцы: Дзед Мароз з вялікім кійком у руцэ, за плячыма — белы мех з падарункамі, побач з Дзедам Марозам маленькі Іванка з сумнай загадкавай усмешкай. Да дванаццаці заставалася яшчэ хвілін з дзесяць, на дварэ ўжо амаль не было людзей, горад нібы вымер. Прабеглі хлопец з дзяўчынай: спяшаліся паспець на першы навагодні тост. Свяціліся вокны дамоў, сыпаў і сыпаў снег, загараючыся рознакаляровымі агнямі ля аплеценай гірляндамі ёлкі, што стаяла каля магазіна.

Яны ішлі паўз доўгі, выгнуты дугой пяціпавярховы дом.

— Тамара, пастой. Бачыш вось гэту люстру?— Ліля Іванаўна кіўнула на крыштальную люстру, яна добра была відаць праз акно, насупраць якога яны стаялі. У люстры гарэлі ўсе лямпачкі, святло пераліvалася, драбілася ў маленькіх крышталёвых ромбіках. У пакоі было светла, урачыста.

— Бачу... Вельмі прыгожая...

— І мне падабаецца. Я такую павешу ў зале.— І, нібы адказваючы на недаўменны позірк Тамары, дадала: — Я яшчэ летась яе купіла. Ляжыць у скрынцы пад ложкам, чакае майго свята.— Ліля Іванаўна ціхенька засмяялася.— А ў Юраў пакойчык павешу во такую,— Ліля Іванаўна павяла Тамару да другога пад’езда, паказала на акно трэцяга паверха. Там спакойным белым святлом свяціла круглая матавая люстра, распісаная мудроным залатым арнаментам.

— Можа, і гэта ў цябе ўжо ёсць?— спытала Тамара.

— Ёсць,— адказала зусім сур’ёзна Ліля Іванаўна.— Калі б ты ведала, як я чакаю гэтай хаты, як я чакаю!

— Ну, цяпер жа ўжо скора,— сказала Тамара, і выйшла гэта ў яе вельмі ласкава, і Ліля Іванаўна з удзячнасцю зірнула на сяброўку.

— Абяцаюць недзе пасля Новага года. Дом гато-

вы, засталося невялікае што — падмазаць, падчысціць, падключыць... Дык чаго ж мы стаімо, Іванка,— раптам сказала адразу пагрубеўшым, блізкім да мужчынскага голасам Ліля Іванаўна.— Пара, пара.— Яна ўскінула мяшок на плячо, распраміла плечы, правяла рукавіцай па белых вусах, па барадзе, і быццам ужо не было нядаўняй выхавацельніцы, і не было жаночага суму ў вачах і голасе, а стаяў сам Дзед Мароз — вясёлы, усмешлівы, прытупнуў нагой, скалануў галавой, і яны пайшлі па рыпучым снезе — Дзед Мароз і бедны Іванка, які шукае сваю Снягурку.

Націснулі на чорную кнопку званка, дзверы адразу адчыніліся, быццам іх за дзвярыма чакалі.

— О, паглядзіце, хто да нас прыйшоў! — радасна закрычаў вусаты мужчына, паварочваючыся ў пакой, да накрытага стала, за якім сярод дарослых — мужчыны і жанчыны гадоў шасцідзесяці і другой пары гадоў па трыццаць — сядзелі і двое дзяцей: дзяўчынка гадоў сямі і хлопчык гадоў пяці. Відаць, застолле было з усіх трох кален адной сям'і. Твары дзяцей засвяціліся несхаванай цікаўнасцю, радасным чаканнем — што ж будзе далей?

Дзед Мароз смела і шырока ступіў у кватэру, гопнуў мяшок на падлогу, падаў магутны голас:

— Я Дзед Мароз, падарункі прынёс! Валерку — машынку, Зіначцы — дзяўчынку.— Ён палез у свой бяздонны мех, дастаў адтуль маленькую завадную машынку хлопчыку і вялікую, як дзіця, ляльку.

Дзеці — заўсёды дзеці. Яны затанцавалі, закрычалі, па падлозе затарахцела сваім маленькім механізмам машынка, у голас якой уплятаўся плач лялькі: «Ма-ма, ма-ма». Дарослыя пацягнулі Дзеда Мароза і Іванку да стала, і хоць тыя адчайна ўпіраліся, але ў руках у іх, як і ў гаспадароў, шыпелі фужэры з шампанскім, і ім нічога не заставалася, як падняць іх і выпіць.

— Мы з Іванкам зайшлі ўсяго на хвілінку,— расказваў Дзед Мароз, і ўсе ўважліва слухалі яго, быццам верылі яго словам.— Мы шукаем Снягурку, Іванкаву Снягурку. Яна, бедная, згубілася, баімся, што сумуе недзе адна... Вы ўжо не затрымлівайце нас.

Іх не затрымлівалі, толькі паспачувалі іхняй бядзе.

Не было Снягуркі і яшчэ ў адной кватэры, і ў другой, і ў трэцяй, але там былі дзеці — пестуны Лілі Іванаўны, і мяшок Дзеда Мароза рабіўся худзейшы і лягчэйшы...

Перайшлі ў суседні дом. Тут жыў чатырохгадовы Славік, і Дзед Мароз уручыў яму падарунак — светлавы пісталет. Той пісталет узяў, але адразу адклаў убок, пільна ўзіраючыся ў Дзеда Мароза. Дзед Мароз адчуў сябе неспакойна. Трэба было ўцякаць, але не адпускалі гаспадары. Славік тым часам абышоў Дзеда Мароза кругом, агледзеў яго ўсяго — вусы, бараду, футра... Вочы яго спыніліся на ботах.

— Гэта не Дзед Мароз!— сказаў ён са слязьмі.

Яго кінуліся суцяшаць:

— Што ты, Славік, гэта Дзед Мароз! Ён табе і пісталет прынёс...

Але Славік не хацеў нікога слухаць.

— Не хачу пісталета... Гэта не Дзед Мароз, гэта цёця Ліля. Я пазнаў яе. Гэта яе боты!..

Апошнія словы Ліля Іванаўна і Тамара чулі ўжо на лесвічнай пляцоўцы, збягаючы ўніз. Ліля Іванаўна доўга не магла супакоіцца.

— Ну вось і дагуляліся. А мне ж з ім трэба будзе і паслязаўтра, і пазней... Не хацела ісці ў гэтыя Дзяды Марозы, дык загадчыца ўгаварыла. А цяпер перажывай! Ён жа перастане мне верыць. Канечне, перастане... Хіба што боты памяняць...

Яны не заўважылі, што пазванілі не ў тую кватэру, а калі зразумелі гэта, было позна. Тут гуляла вясёлая маладзёжная кампанія, і іх не выпусцілі. З шумам, гоманам, быццам толькі іх і чакалі і толькі іх не хапала для поўнага вяселля, адразу пацягнулі за стол, налілі фужэры. Як не ўпіраліся Ліля Іванаўна і Тамара, давялося выпіць. У Тамарыным фужэры была гарэлка, і яна выпіла ўсё да дна, пакуль разабралася, што да чаго. Уключылі магнітафон, і Тамара скінула гарачы Іванкаў кажух і пайшла танцаваць, і так ёй гэта спадабалася, што Лілі Іванаўне каштавала немалых клопатаў прымусіць яе адзецца і пайсці на вуліцу.

Мяшок у Дзеда Мароза пахудзеў зусім, на самым дне ляжалі дзве каробкі цукерак, перавязаныя чырвонымі стужачкамі: Ліля Іванаўна купіла іх сама і ўзяла з сабой — можа, і згадзяцца. Няма страшней, калі Дзед Мароз заходзіць у хату, дзе ёсць малыя, а пада-

рункаў няма. Дзед Мароз — заўсёды Дзед Мароз, ён самы вясёлы, самы багаты, ён усясільны. У яго ёсць чароўны кіёк, варта стукнуць ім аб зямлю, і будзе тое, што ён пажадае.

Можна было ісці дамоў, і Ліля Іванаўна павярнула ў той бок, але Тамара папрасіла зайсці яшчэ ў адзін дом, зусім недалёка, на суседняй вуліцы.

— Пайшлі, Лілечка. Мы толькі павіншуем і пойдзем дамоў,— настойвала Тамара.

— Зойдзем дык зойдзем.

На званок доўга ніхто не выходзіў, хаця за дзвярыма чуліся музыка, галасы. Нарэшце дзверы адчыніў высокі мужчына з хваравіта-белым тварам і светлымі, зачасанымі ўгару валасамі. Ён стаяў, не выпускаючы з рук дзвярэй, пазіраючы на гасцей маленькімі, глыбока схаванымі вочкамі.

— З Новым годам! Дабра і ўроду, шчасця і прыходу ў хату! — бадзёра, як песню, як да самых дарагіх суседзяў заспяваў Дзед Мароз, ступаючы да гаспадара.

— А мы Дзеда Мароза не заказвалі,— няпрыветна адказаў той, холадна пазіраючы на няпрошаных гасцей.

— Дзед Мароз сам выбірае, куды яму ісці,— не разгубіўся Дзед Мароз, хоць яму не спадабаліся і гэтыя маленькія вочкі гаспадара, і яго насцярожанасць.— Мы з Іванкам шукаем Снягурку, ці не вы хаваеце яе?

— Дзед Мароз сам выбірае, куды ісці. І мы шукаем Снягурку,— паўтарыў ломкім, дзявоча-юначым голасам Іванка, пільна пазіраючы на гаспадара.

— Які Дзед Мароз, які Іванка, якая Снягурка,— зазлаваў гаспадар, але Дзед Мароз рашуча націснуў на яго плячо, і таму нічога не заставалася, як пастараніцца, прапусціць гасцей у кватэру. Насустрач ім ішла жанчына — невысокая, поўная, усмешлівая.

— Праходзьце, праходзьце,— загаварыла яна напеўным голасам.— Ігар, хіба ж так можна? Сюды, сюды праходзьце, да стала.

На мяккай, з дарагога замежнага гарнітура канапе сядзелі дзяўчынка гадоў пяці і старэнькая бабулька, сухенькая, але такая ж невялічкая, як і гаспадыня, з такімі ж прыветнымі вачыма. Яны глядзелі па каляровым тэлевізары навагодні «Агеньчык» і цяпер павяр-

нулі галовы да гасцей. Дзед Мароз дастаў з мяшка каробку цукерак, падаў дзяўчынцы, нагаварыўшы кучу прыемных слоў — і расці, і цвісці, слухаць маму і тату і старэнькую бабулю, не дурэць і не хварэць... яшчэ многа чаго, і ўсе слухалі яго, нібы заварожаныя. Нават гаспадар нібы падабрэў, наліў чаркі, паднёс гасцям.

Праводзілі іх гаспадар і гаспадыня. Гаспадар палез у пінжак, што вісеў на вешалцы, прыгаворваючы:

— Дык колькі мы павінны?.. Колькі?

— Дзед Мароз грошай не бярэ!— адказалі Дзед Мароз і Іванка, і нешта, не то здзіўленне, не то нямое пытанне, зарадзілася і застыла ў вачах гаспадара.

Ужо на вуліцы Тамара радасна прагаварыла:

— Ты бачыла, Ліля? Я з ім чокнулася, і ён выпіў. Яй-богу, выпіў!

— І ты гэтаму радуешся? Гаспадыня маладзец, а ён...

— Што гаспадыня... Ён выпіў са мной,— Тамара засмяялася.

«П'яная баба, што з яе возьмеш»,— падумала Ліля Іванаўна.

Яшчэ нядаўна ціхія вуліцы жылі людскімі галасамі, смехам, гоманам. Каля кінатэатра «Вільнюс» барукалася ў снезе «куча-рагоча», і Дзеда Мароза з Іванкам ледзь не ўцягнулі ў гэты жывы крыклівы клубок, які качаўся, пішчаў, крычаў, рагатаў здаровым маладым вяселлем. Далей на плошчы ярка свяцілася ёлка, укруга яе вадзілі карагод, танцавалі. Ваўсю наярваў на гармоніку польку кульгавы невялічкі чалавечак, віхрыўся снег, узбіты быстрымі нагамі. Нейкая вясёлая маладзіца падчапіла пад руку Дзеда Мароза, пацягнула ў круг:

— Давай, Дзед Мароз, не лянуйся, растрасі каўбы!

Дзед Мароз тупнуў нагой, адкінуў свой мех і кій, крутануўся і пайшоў вярцець маладзіцу ў імклівай польцы. Тамару таксама падхапіў нейкі мужык, і яна расшпіліла свой кажушок, каб было вальней.

— Дзеўкі, пагрэць Дзеда Мароза! Чарку яму! — крыкнула маладзіца, як толькі скончылася полька, і да іх адразу ж падбегла дзяўчына з пляшкай і шклянкай, і Дзед Мароз не паспеў апамятацца, як у адной руцэ яго была чарка з гарэлкай, у другой — бутэрброд з каўбасой.

— Давай-давай, не думай! — насядала маладзіца.— Выпівай, ты мне спадабаўся.

Дзед Мароз выпіў, кракнануў, правёў рукой па грудзях:

— Як Хрыстос босымі ножкамі па душы прайшоў!

— Во, гэта па-мужчынску. Ану, наліце і мне, я хачу з ім выпіць! — не сунімалася маладзіца.

Ёй налілі, яна выпіла, але ўбачыла, што Дзед Мароз шукае свой мяшок і кій, запрацівілася:

— Куды ты? Заставайся з намі. Я цябе ўпадабала...

— Чаго ты прыстала,— умяшалася дзяўчына, тая, што дзяліла гарэлку.— Гэта ж не мужчына, а баба.

— Баба? Не можа быць! А мы зараз праверым!— З гэтымі словамі маладзіца схапіла Дзеда Мароза, прыціснула да сябе і палезла пад кажух да Дзеда Мароза. Але і Дзед Мароз не стаяў спакойна, вёртка крутануўся, вылузнуўшыся з абдымкаў кабеты, даючы зразумець, што ён — асоба сур'ёзная і не дазволіць нейкай там лёгкасці...

— Мужык, мужык! — радасна закрычала маладзіца.— Яй-богу, мужык!

Гарманіст расцягнуў мяхі гармоніка, і Дзед Мароз тупнуў нагой, тупнуў другой і пайшоў выраблянь такое, чаго і нельга было зрабіць на гэтым растаптаным снезе. Маладзіца не адставала, падступала да яго, наступала.

— Не, ты скажы праўду, ты мужык ці баба? Калі мужык, пайшлі з намі. Вунь нашы вокны, там і дагуляем Новы год.

— Не, не магу,— Дзед Мароз кіўнуў галавой на мех і кій, што ляжалі пад ёлкай.— На службе.

Гарманіст наярваў «барыню», і Дзед Мароз сыпаў чачотку, узнімаючы снежны пыл. Хацелася расшпіліць сваю апратку, каб дыхалася вальней, але трэба было заставацца тым, кім стаў, і Дзед Мароз толькі паслабіў шалік на шыі, узмахнуў рукамі і пайшоў з прыпеўкай:

Авохці мне,
Нехта спаў на мне:
Андарак не так,
І ў руцэ пятак.

Гарманіст ускінуў плечуком, падступаючы бліжэй, ірвануў гармонік смялей, шырэй. А Дзед Мароз ішоў

далей, вытвараючы нагамі нешта прыгожа-мудрагелістае, спыніўся, каб перадыхнуць, набраць паветра ў грудзі, выйшаў на новы круг, даў другую прыпеўку:

Ах, любоў, любоў,
Дзе жа ты падзелася?
У сабакі пад хвастом
У трубачку звярцелася...

І пайшоў далей, высока несучы галаву і ўсміхаючыся.

— Давай, давай яшчэ!— падахвочвала Дзеда Мароза маладзіца, але той раптам схапіў свой мяшок і кіёк, падхапіў пад ручку Іванку — і ходу па вуліцы.

Трохі адсапліся, перайшлі на спакойны крок.

— А ён нават і не пазнаў мяне. Я з ім чокнулася, а ён не пазнаў,— з горыччу прагаварыла Тамара. Яна была зусім не п'яная, і вочы яе глядзелі сумна.

— Хто «ён»?

— Як хто? Ігар. Няўжо ты не разумееш? Ігар... Маё першае няўцешнае каханне.

— Ну, дзеўка, калі б я ведала, куды ідзём, ніколі б не пайшла.

— Ён зусім не змяніўся, такі ж высокі, стройны.

— Высокі, стройны... Ён жа баіцца на людзей глядзець. Вочкі, як свярдзёлачкі, нібы пытаюцца: што вам трэба?

— Ён заўсёды ўсяго баяўся. Во смеху было б, каб ён пазнаў... А, было б смеху?

— Добры смех...

— Смех... Не хочацца ісці дамоў... А, Ліля?! Давай зойдзем куды-небудзь яшчэ, а?

— Не дуры, дзеўка. Там цябе Алёша зачакаўся...

Яны ішлі, слізгаючыся ў мяккім снезе, вялікі мажны Дзед Мароз і маленькі Іванка, і калі б хто чуў іх гаворку збоку, мог бы падумаць, што ідуць дамоў бацька і капрызлівы сын.

— Не хачу. Мне надаела. Усё надаела. І дом, і...— плакалася Тамара.

— Што табе яшчэ трэба? У цябе добры муж, спакойная свякроў, дачка. Усё ёсць у хаце...— суцяшала яе Ліля Іванаўна, хоць сама верыла і не верыла сваім словам. Верыла, бо і праўда, у Тамары было ўсё гэта. Ёй ніколі не трэба было думаць, дзе перахапіць дзесятку-другую перад авансам, ці калі трэба купіць боты, ці яшчэ што. Алёша зарабляў добра, і ў свякрухі

была добрая пенсія. Ды і Тамара мела больш сотні. На адной зарплаце, як у яе самой, надта не разгонішся, не накупляеш. Глядзі, як стачыць канцы з канцамі. І сам Алёша быў далікатны, уступчывы. Ён любіў Тамару, і Тамара гэта адчувала і, можа, таму ўзяла сабе волі болей, чым трэба было б. Але ведала Ліля Іванаўна і другое: калі згублена нешта ў душы, тады ўсё гэта — і хата, і дываны, і машына — нішто. Калі няма спакою ў душы — душа шукае нечага, мітусіцца. Ліля Іванаўна ведала і тое, што мітусенне мітусеннем, а калі дзіцяці няма чаго есці ці няма чаго надзець — тады галава будзе занята іншым. І таму яна старалася ўтрымаць Тамару ад таго неабдуманага кроку, пра які потым можна горка пашкадаваць. Яна думала. «Канечне, ты можаш гаварыць так, ты можаш капрызіць, а што б ты рабіла на маім месцы, застаўшыся адна з дзіцем у чужым халодным краі без грошай, без працы, без нічога». Але думала яна гэта без жалю да самой сябе, без зайздрасці да Тамары, бо ўсё гэта было столькі разоў перажыта і перадумана, і было гэта так даўно, што цяпер успаміналася, як сон, і толькі сон.

— Ну, вось мы і прыйшлі,— сказала яна, націскаючы на кнопку званка ля знаёмых, абабітых зялёным дзвярэй. І Тамара не ўпарцілася, яна нават выпрасталася, паправіла прычоску, рэмень на кужушку і, як толькі расчыніліся дзверы — адчыніў іх сам Алёша,— кінулася яму на шыю:

— Алёшачка, з Новым годам!

Той сустрэў яе, як малое дзіця, якое нашкодзіла і цяпер просіць прабачэння, пачаў атрасаць снег з шапкі, вінавата кіўнуў галавой Лілі Іванаўне, і яна з палёгкай павярнулася, пачала спускацца ўніз. Яна адчувала вялікую стомленасць, ёй хацелася хутчэй дамоў, у пасцель.

Дом сустрэў яе дзікай, уключанай на ўсю сілу барабаннай музыкай. Магнітафон стаяў на стале сярод талерак. Тут стаяла ўсё, што яна нагатавала і што было ў халадзільніку, у духоўцы. Калі б усё было з'едзена, яна нічога б не сказала. Папоркаліся ва ўсіх талерках, як парасяты,— і халоднае, і заліўное, і вінегрэт, і курыца... І тут жа брудныя талеркі, нажы, відэльцы, абы-як, абы-дзе...

Калі б хацеў страшней паздзекавацца з яе самой, з яе працы, яе старання зрабіць, каб было не горш як у

людзей, нічога лепшага зрабіць нельга было. У давяршэнне да ўсяго на стале, побач з магнітафонам, стаялі дзве пустыя пляшкі — адна ад гарэлкі, другая ад віна. Ліля Іванаўна адчыніла халадзільнік: яе пляшкі. Разам з Юрам у пакоі быў Валодзя — здаровы бугай пад два метры з пустымі вачыма. Летась скончыў дзесяць класаў, на працу нікуды не пайшоў. «Усё роўна скора ў армію ісці»,— сказаў ён неяк Лілі Іванаўне, калі тая пачала ўшчуваць яго. Не такі таварыш трэба быў яе сыну, яна гэта добра ведала і старалася адвадзіць Валодзю ад іх кватэры. Старалася, але не змагла.

— Сынок, што гэта? — толькі і змагла яна сказаць, кіўнуўшы на стол. Валодзя стаяў у кутку ля парога, яна старалася не заўважаць яго.

— Новы год! — п'яным голасам адказаў сын.

Яна павярнулася да Валодзі:

— Што ты з ім зрабіў?

— Ён сам ужо мужчына,— адказаў Валодзя, пасміхаючыся.

— Мужчына? Вон з маёй хаты, і каб нагі тваёй больш тут не было! — закрычала Ліля Іванаўна, схапіла яго за руку і павалакла да дзвярэй. Ён і не ўпіраўся. Яна падштурхнула яго на выхад, і ён пакорліва пайшоў, потым спыніўся, азірнуўся на Юру. І той раптам узвіўся, падскочыў да маці.

— Не чапай яго! Ён прыйшоў да мяне, не да цябе!

Ліля Іванаўна паглядзела на сына і заплакала.

Яна плакала і не чула, як хлопцы апраналіся, як забралі магнітафон і пайшлі. Пачула толькі, як грукнулі дзверы, села на ложак, бяздумна пазіраючы на стол. Потым устала, зняла з сябе футра Дзеда Мароза, пераабулася, падвязала фартух і пачала прыбіраць пасуду. Перанесла на кухню талеркі, паслала на стол чысты абрус, паставіла пасярод вазачку з трыма чырвонымі гваздзікамі, іх падараваў ёй сёння бацька адной з яе дзяўчынак — сарамлівы, далікатны чалавек. Праз нейкі час з кухні разам з бульканнем вады пачуўся яе ціхі голас. Яна спявала. Цяжка было разабраць словы, чутна была толькі мелодыя — спакойная, сумная, як калыханка. Вада перастала цячы: Ліля Іванаўна пачала выціраць посуд і складваць у шафку, што вісела на сцяне.

Званок у дзверы яна пачула адразу і адразу пайшла адчыняць. Гэта быў учарашні знаёмы — той, каго

яна прымусіла мыць лесвічную пляцоўку. Ён быў не п'яны, у руцэ — загорнутая ў белую паперу пляшка шампанскага. Ліля Іванаўна, здаецца, зусім не здзівілася, убачыўшы яго.

— Жонка прагнала?

— Не, я сам... Я прыйшоў...

— Нічога не гаварыце,— перабіла яна яго стомленым голасам.— Заходзьце.— Правяла ў пакой.— Распранайцеся, я зараз.

Узяла ў яго паліто, шапку, павесіла на вешалку, падала крэсла, прынесла дзве талерачкі, нажы, відэльцы, непачатую міску халоднага, нарэзала каўбасы, яшчэ тое-сёе. На некалькі хвілін знікла ў ваннай і зайшла ў пакой у цёмна-бардовым шарсцяным гарнітуры, з тонкім вітым залатым ланцужком на высокай шыі. Ён ляжаў якраз там, дзе праходзіла маршчына, і яе цяпер амаль не было відаць. Госць сядзеў, прыткнуўшыся на краёчак крэсла.

— Ну, што ж вы седзіцё як не мужчына? Адкрывайце шампанскае, ды будзем весяліцца,— сказала яна, надаючы свайму голасу вясёласць і лёгкасць, падбіваючы мужчыну на смеласць.

— Ага, я зараз,— паспешліва адказаў госць, вінавата зірнуўшы на Лілю Іванаўну, і ўзяў у дрыготкія рукі цяжкую пляшку.

# ПЕСНЯ

*Апавяданне*



Ад маладога снегу ўвесь двор быў белы, як вывараная ў шчолаку і высушаная на марозным ветры скацерка, і Алене здалося, што ён стаў яшчэ бялейшы, калі ступіў на двор сын — у строга чорнай, прыдзірліва падагнанай парадпай форме марскіх афіцэраў, высокі, стройны, з тонкімі стрэлкамі вусоў на маладым гарбаносым твары.

Таўстаморды трохтыднёвы шчанюк кінуўся быў яму насустрач па прамеценай ад ганка сцежцы, улез у снег, загруз па вушы і, не дабегшы да марака пару метраў, раптам павярнуў назад, у сенечкі, паўз гаспадыню, якая з голым бярозавым венікам гнала дарожку да калодзежа. З сенечак праз адчыненыя дзверы шчанюк ускочыў у першую хату, потым у другую,

з разгону наляцеў на кошку — тая сядзела спіной да дзвярэй і не чакала гэтага, запознена адскочыла ўбок, паспеўшы, аднак, даць лапай шчанюку па абвіслым вуху. Той у сваю чаргу не чакаў такога, заматаў ад болю галавой, але ўспомніў, што на лапы паналіпала снегу, і затрос імі, пырскаючы снегам на падлогу.

А высокі, стройны марак ва ўсім чорным тым часам ішоў па белай дарожцы да хаты, пазіраў на Алену і ўсміхаўся ёй такою роднаю ўсмешкаю, што Алена як стаяла з венікам у руцэ, так і засталася стаяць, не ведаючы, што рабіць далей. Азірнулася, прыставіла венік да плота, пачала хуценька выціраць набраклыя ад марозу чырвоныя рукі — спачатку адзін бок, потым другі, нарэшце не вытрымала, сарвалася з месцы і з крыкам «Мішка, сынок!» павісла ў яго на шыі. Ён падхапіў яе маленькае, але важкае цела, прыціснуў да сябе, пацалаваў у мяккія цёплыя губы. Так яны стаялі нейкі час, прыціснуўшыся адно да аднаго, заплюшчыўшы вочы. Потым ён апусціў яе на зямлю, але яна не расшчапіла рукі, толькі адкінулася назад, прыдзірліва ўзіраючыся ў яго твар. Чорныя валасы, гладкі, без адной маршчынкі белы лоб, з-пад якога глыбока пазіралі карыя вочы, тонкі з гарбінкай нос, акуратныя, трошкі апушчаныя па краях вусікі, сухі вастраваты падбародак, якім заканчваўся строгі авал твару,— усё гэта, сабранае разам, надавала яшчэ зусім хлапечаму твару невядомую ёй сур'ёзнасць і сканцэнтраванасць, унутраную сілу. Нарэшце яна адпусціла яго, успляснула рукамі:

— Дзед, увесь дзед. Увесь, як ёсць,— заміргала вачыма.— Дык пайшлі, сынок, у хату, хоць там такая неразбярыха. Думала, прыбяруся трохі, ведала ж, чакала і — не паспела. Ды ўжо што зробіш...

Толькі цяпер вылез з будкі і вінавата — праспаў госця — завіляў хвастом стары чорны сабака з белай мордай і белымі лапамі.

— Эх ты, гультай,— папракнуў яго Міша, патрапаўшы за вухам, і той радасна закруціўся, стараючыся дастаць лапамі Мішу на грудзі.

— Саўсім састарэў. Бацька падмогу ўжо прынёс... І добра жывуць, мірацца ў адной будцы,— сказала маці, кінуўшы на шчанюка, які выглядваў з сянец.

— Бацька на рабоце?

— Сена возіць. Наказвала, каб не пазніўся. Сён-

ня ж збяромся вечарам. Учора закалолі кабанчыка, ухадзіліся збольшага...

— На вячэру хопіць? — пажартаваў сын.

— Хопіць... Абы здароўе было есці...

— Па гэтым пакуль што не плачам...

— Ага, сынок: еш, пакуль рот свеж... Ты раздзявайся, а я тут скоранька пастаўлю на стол...

Яна снавала сваёй спорнай нячутнай хадою то ў пограб, то ў сенцы, то к печы, а Міша здзеў шынель і кіцель, усунуў ногі ў лёгкія хатнія тапкі — яны стаялі пры парозе, нібы чакалі яго ўвесь гэты час, пакуль ён бадзяўся па свеце, і цяпер толькі па-сапраўднаму адчуў, што ён дома, быццам і не ездзіў нікуды, і не прыехаў ніадкуль. І прыемнае было адчуванне гэтай лёгкасці, нібы разам з шынялём і кіцелем ён зняў з плячэй нябачны вялікі клопат. Клопатам гэтым апошнія месяцы, як ні дзіўна, было чаканне паездкі дамоў. Здавалася, мора, служба забрала яго ўсяго, ён ужыўся ў строгі вайсковы быт, стаў жыць яго прадпісаным, аргументаваным рытмам, і гэты рытм не быў яму цяжкі, можна сказаць, стаў другой натурай, а калі стала вядома, што падпісаны загад на водпуск,— ажыло, зашчымела ўсё тое, што было звязана з домам, з тым далёкім, неабчэсаным вясковым хлопцам, якім ён некалі быў. Хаця што значыць — «неабчэсаным»? Там быў адзін чалавек, тут — другі, і Мішу радавала, што гэтыя два такія далёкія адзін ад аднаго чалавекі могуць так мірна ўжывацца ў ім самім.

Калі на стале ўжо стаяў абед, будзячы ўспаміны такімі знаёмымі дамашнімі пахамі, на вуліцы затахкаў трактар і па двары размашыстым крокам прайшоў бацька. І вось ужо ён, шырокі, медзведзяваты, заняў усе дзверы і ў наступную хвіліну згроб сына, сціскаючы ў магутных адбымках.

Пасля абеду Міша пайшоў да бабы Зосі. Жыла яна ў старэйшай дачкі Ніны, і прайсці трэба было ўсё сяло. Цераз сенцы, згінаючы галаву ў нізкім праёме дзвярэй, ён зайшоў у хату. Цётка Ніна стаяла ля парога, як чакала яго.

— Мі-і-ша, ці гэта ты? — расплылася яна ўсім шырокім тварам, убачыўшы пляменніка, смела пацалавала і засмяялася здаровым грудным смехам адкрытага

чалавека: — Ой, як даўно з вусатымі не цалавалася!

— З кім гэта ты там цалуешся? — пачуўся слабы голас з бакоўкі.

— Са мной, баба Зося,— адказаў Міша і ступіў у бакоўку.

Баба Зося ляжала на ложку пры печы. Высока на падушцы была відаць толькі галава яе — нешта белае, зморшчанае, і ўверсе на гэтым белым у цёмных упадзінах вачніц кругла чарнелі вочы з нейкай сваёй задаўненай думкай.

— Унучак... Прыехаў! — і здзівілася, і ўзрадавалася старая. Глухі хрыплаваты голас выдаваў, што яна даўно ляжыць і даўно не была на свежым паветры.

— Ага, прыехаў. А то ж гэта ты, баба Зося, разлеглася, як пасля жніва? Ці мо паміраць надумалася?

Міша хоць і даўно не быў дома, а тыя кароткія наезды пасля здачы сесій, калі хочацца ўсё пабачыць, усюды паспець, наўрад ці можна браць у разлік,— але ў душы застаўся такім жа вясковым хлопцам, якім быў некалі, і гаворкі вясковай не згубіў, і не цураўся яе. Яму і самому было прыемна адчуваць сябе так, быццам ён з'ехаў з дому на нейкае нядоўга і во вярнуўся. І цяпер ён сказаў «разлеглася», «жніва» спецыяльна грубавата-жартаўлівым тонам, каб ліквідаваць дыстанцыю, якая ўзнікла, пакуль яго тут не было, і каб вярнуць сябе таго, колішняга, і нібы сапраўды адчуў усё, што было за словам «жніва»,— і пыл, і духату, і смагу, і жаданне прылегчы ў цяні, выпрастаць ногі і ляжаць, заплюшчыўшы вочы, слухаць звон неба. Ён ступіў бліжэй на ложка, але яго пацягнула за рукаў цётка Ніна:

— Што ты, з холаду? Абагрэйся трохі.

— Во так, унучак, нікога не падпускае,— пажалілася баба Зося, праўда, без крыўды ў голасе, свецячыся круглымі, чорнымі, як вішні, вачыма.— А я і праўда, унучак, сабралася была паміраць. Во, бачыш.— Яна выпрастала аднекуль з-пад коўдры маршчыністую, нібы сатканую з суравых нітак, руку, бездапаможна тонкую ў прасторным рукаве сіняга бумазейнага халата, адкінула ўбок адну ватную коўдру, пад ёй была другая, адкінула і тую, пасунулася сама ўбок, і Міша ўбачыў на саматканай шэрай пасцілцы дзве электрычныя грэлкі — адну ў нагах, другую па-

сярод, правады ад іх цягнуліся пад падушку, а адтуль далей, да разеткі ў сцяне.— Паміраць была сабралася, унучак. Ведама, холад прыйшоў, ніяк сагрэцца не магла. Сама пагана, калі нагам холадна. Аж дзве грэлкі прынеслі,— тлумачыла яна.

— Надаела, кажа, тут, на гэтым свеце, холадна, зябка, пайду ад вас,— пацвердзіла дачка, але сказала гэта спакойна, нават з усмешкай, як пра нешта надта звыклае, нявартае добрай увагі.

— Ага, саўсім была надумалася, унучак, аж тут во — ты прыехаў. Бач, як добра на́дзяваюць вас,— здзівілася баба Зося, паказаўшы на шынель.

— А хіба мы нядобрыя? — усміхнуўся Міша.

— Добрыя, ужо ж... Гэта казённае?

— Казённае.

— І, мусіць жа, дарагое. Падыдзі, унучак, не слухай яе, я ўжо сагрэлася,— ківок на дачку, тая ўсё стаяла побач з Мішам.

Міша падышоў да ложка. Баба Зося ўзяла ў руку крысо шыняля, памацала.

— Файнае сукно. Можа, заморскае?

— Ды не, наша,— адказаў Міша, а рука бабы Зосі пабегла па беражку шыняля вышэй, да грудзей, пацягнула ўніз. Міша нагнуўся, і галава яго апынулася зусім блізка ад круглых вострых вачэй. Яны пазіралі на яго, нават не пазіралі, а бегалі па твары, нібы шукалі нешта. Губы прыадкрыліся, паказаўшы выкрышаныя бакавыя зубы. Нарэшце бабіны вочы сустрэліся з яго вачыма, і была ў іх нейкая жаласная просьба, такая непадобная на ўсё тое жывое, вясёлае, што Міша заўсёды бачыў у бабы Зосі, аж ён разгубіўся. Тым часам бабіна рука дайшла да каўняра, пацягнула яго ўніз, і Міша адчуў на сваім ілбе асцярожны дотык сухіх бабіных губ, потым яшчэ і яшчэ. Рука аслабла, быццам знясілела, адпусціла каўнер, і Міша выпрастаўся. Баба Зося ляжала, як і тады, калі ён зайшоў, высока на падушцы і пазірала на яго хітрашчаслівымі вачыма.

— Яўмен, яй-богу, Яўмен,— загаварыла яна з перадыхамі і гаварыла, можа, болей сабе, чым дачцэ і ўнуку.— І кропачкі пабраў... І нос пераломаны, і вочы такія, і лоб... А сукно файнае, файнае сукно, насі здаровы.

— Дзякуй, баба, буду насіць. Толькі ты ўжо не па-

мірай, а вечарам прыходзь да нас,— адказаў Міша. Ён ужо саўладаў з сабой і сказаў гэта сваім звычайным жартаўлівым тонам.

— Ды ўжо ж, унучак, цяпер падажду паміраць. А прыйсці — слабая я, і снегу насыпала шмат.

— Які там снег, трохі прыцерушыў зямлю. А вы паціхеньку, па дарожцы.

— Паміраць падажду, а калі пачую сілу, то, можа, і прыйду.

— Яна як калі: то цэлы дзень ходзіць — і па хаце, і на двор, і памагае, а калі цэлымі днямі ляжыць,— сказала дачка. Сказала так, як гэта гаворыцца пра дзяцей ці пра моцна хворых людзей, не зважаючы на іх прысутнасць.

У вачах бабы Зосі раптам мільганула, як іскра, нейкая думка.

— Скажы, унучак, вось я слухаю радзіва,— яна кіўнула на сцяну, на рэпрадуктар.— Там перадаюць, што на моры шмат караблёў гэтых усякіх, ну, гэтых амерыканскіх...

— Шмат.

— І ты іх бачыў?

— Не надта блізка, але бачыў.

— Табе толькі караблёў гэтых не хапала,— засварылася на старую дачка. Тая стрэльнула на яе вачыма, незадаволена пажавала губамі, але зараз жа твар яе засвяціўся, нібы падсвечаны знутры:

— А можа, унучак, ты надумаў жаніцца? — вугалькі вачэй яе пазіралі востра і весела.

Пытанне гэта застала Мішу ля парога, і ён павярнуўся назад, упёрся рукамі ў вушакі:

— Надумаў, баба, надумаў. Толькі гэта будзе ў наступны водпуск.— Ён глядзеў на бабу Зосю і смяяўся сваімі карымі вачыма.

«Як ён падобны на Яўмена, увесь Яўмен»,— зноў падумала баба Зося, успомніўшы свайго, даўно нежывога мужа, але спытала другое:

— І яна будзе?

— Павінна быць,— адказаў унук сур'ёзна і паўтарыў: — Павінна быць.

— Тады добра,— сказала баба Зося, хоць ні дачка, ні ўнук яе ўжо не чулі: яны былі ў сенцах.

Цётка Ніна правяла пляменніка да варот і тут, быццам успомніўшы, сказала:

— Яна і праўда паміраць была сабралася... Набрала сабе ў галаву: памру і памру.

— А можа, і не...— усміхнууўся Міша.— Памятаеце, тое ж было і залетась, зноў жа зімой... Сабралася паміраць і адзежу на смерць падрыхтавала, а пасля перадумала: хай Ніна Валька замуж выйдзе, тады... І на вяселлі нават танцавала. А яшчэ раней сама мне казала: «Ну, унучак, хачу толькі даждацца, каб ты школу кончыў, вырас, надта карціць пабачыць, які будзеш, а там і памру...»

— То калі было... А цяпер гаворыць і сама верыць таму, што гаворыць. Тры дні аб адным кубку малака... І гэты холад. Мерзнуць пачала. Але пачула, што ты прыехаў, і ажыла. Усё пра цябе і пра цябе. «Хачу бачыць Мішку». Сёння нават талерачку супу з'ела. А то ж нічога ў рот не брала.

— Яна малайчына ў нас,— задуменна прагаварыў Міша.— Дык вы ж не пазніцеся, цётка Ніна, бярыце дзядзьку ды прыходзьце...

— А як жа не прыйсці, прыйдзем,— адказала яна пляменніку і зноў радасна, усім тварам усміхнулася.

На другі бок вуліцы на адкрытым з усіх бакоў пляцы-пагорку стаяла цэркаўка. Маленькая, свежапафарбаваная, абнесеная квадратам падноўленай агароджы, яна прыгожа выступала на фоне шэрага неба бела-блакітнай макаўкай, востра напомніўшы Мішу пра школу і школьныя гады. Іхняя школа стаяла трошкі далей, у акружэнні дуплаватых ліп і клёнаў, і з вокан яе добра было відаць цэркаўка. Вельмі цікава было бачыць, як сюды ў рэлігійныя святы адна за адной ішлі старэнькія бабулі — ціхія, засяроджаныя на сваіх вечных думках. Ступаюць на царкоўны двор — перахрысцяцца, падыходзяць да царквы — перахрысцяцца, і ўсё гэта пачціва як «дзець добры» пры сустрэчы.

Старыя — адно. Гэта было аднекуль здалёк, з такой даўніны, як Яраслаў Мудры ці Ефрасіння Полацкая, чаму, як казцы, цяжка паверыць розумам, а сэрца прымае. Пацеха пачыналася тады, калі на царкоўны двор ступалі маладыя людзі.

Пад'язджае «Масквіч», ці «Волга», ці «Жыгулі», адтуль выходзяць зусім маладыя тата і мама, і дзіця яшчэ на руках не ўмеюць дзяржаць, і ступаць не ведаюць куды, і нібы баяцца нечага ці саромеюцца,

асабліва мужчыны, цягнуць галовы ў плечы... Старыя неслі дзяцей на руках — усё ўспрымалася спакойна. Праўда, і неслі яны іх урачыста, важна, як і трэба насіць дзяцей. А гэта вылазіць малады бацька з ня-даўна адгадаванай бародкай а ля апостал і кіруе ў тыя ж высокія дзверы з крыжам угары. Пачыналася гульня ў адгаданку: «Хто ён, бацька? Адкуль? Кім працуе? І ці шмат кіламетраў давялося накруціць, каб дабрацца да гэтай невялічкай цэркаўкі, дзе яго дзіця-ці памажуць лоб вадой, якую бяруць з аднаго кало-дзежа школа і царква?»

Тады было весела, а цяпер падумалася з сумам: нешта ж гнала і гоніць людзей за сотні кіламетраў сюды, у гэту маленькую цэркаўку. Вера ў бога? Наў-рад. Тады што? Мода на крыжыкі? Мода на хрыш-чэнне?..

Пакуль ён канчаў вучылішча ды плаваў, пабудава-лі новую школу, ужо далей ад царквы. Цікава, што ця-пер прыдумляюць падшыванцы, каб школьнае жыццё ішло хутчэй і весялей? Прыдумаць — абавязкова прыдумаюць, на гэта розуму і фантазіі заўсёды стае. Хоць гэта жаданне падагнаць бег часу — «хутчэй, хутчэй», асабліва пакуль чалавек сядзіць на школь-най парце,— як яно непатрэбна. Як шкадаваць бу-дзеш потым, што гэты час прамільгнуў так хутка. Ха-ця калі паглядзець спакойна, у гэтым запозненым шкадаванні ўжо жыве практыцызм другога ўзросту, калі ў чалавеку сядзіць цвярозы практык — тая па-ганая істота, якая і на час глядзіць, як на тавар, і пе-раацэньвае кожнае імгненне, забываючы пра тое, што, можа, з-за гэтага імгнення, такога, якім яно было, і варта было жыць. Хаця б таму, што было яно бес-карыслівым. Ды і само гэта шкадаванне — не што ін-шае, як разбежка паміж узростамі, неразуменне ад-наго ўзросту другім.

Снег мякка асядаў пад нагамі, крохка рыпеў. Мі-ша ішоў пасярэдзіне дарогі, галоўнай вуліцай сяла. Прамая і шырокая, яна цягнулася кіламетры на паў-тара. Кашлатыя, разбухлыя ад снегу дрэвы стваралі ружова-белы тунель, ён праразаў пасёлак наскрозь і губляўся, нібы ўрастаў у далёкі лес.

На вуліцы нікога не было, і нішто не замінала Мі-шу заставацца ў тым ідылічным настроі першага часу знаходжання дома, калі здаецца, што ўвесь свет ство-

раны для цябе і ўсім людзям толькі і клопату, што любавацца табой... Хаця ён тут пры чым? Ён у водпуску, дома, вечарам збяруцца суседзі, радня. Прыедзе Ларыса. Яны ўжо вырашылі пажаніцца ў наступны яго водпуск, але гэта пакуль што іхняя тайна. А сёння проста пасядзяць, пагамоняць, паспяваюць песні, патанцуюць. Танцы як танцы, а без песень не бывае ніводзін такі вечар. Старым есці не давай, а дай вось так сабрацца, выпіць чарку, успомніць, што з імі калі было ці магло быць. Растрывожаць душу гэтымі гаворкамі, распаляцца і неўзаметку перавядуць на песню. І акрамя песні няма для іх тады нічога.

Каля старэнькай, урослай у зямлю хаты з крывой ігрушай пад забітымі дошкамі крыж-накрыж вокнамі Міша павярнуў у вулку — абнесены жэрдкамі праезд, што вёў на другі пасёлак. Павярнуў, але далей не пайшоў, прыпыніўся, змахнуў з жэрдкі снег і ўзяўся за яе рукамі.

Гэта была бабіна-Зосіна хата. У ёй яна нарадзіла, выгадавала і пусціла ў свет чацвярых сваіх дзяцей. Старэйшыя — цётка Ніна і Мішаў бацька — засталіся тут, сярэдняя дачка ў Баранавічах, малодшы сын ва Уладзівастоку. У гэтай хаце нарадзіўся і Міша, гэта пазней яны пабудавалі сваю. Гадоў з пяць назад, як стала цяжка жыць адной, перайшла баба Зося да цёткі Ніны, а хата стаіць, трухлявее. Можа б, у каго і паднялася рука пабурыць яе, але сама баба Зося не дае слова на гэта.

Другі пасёлак выстраіўся паралельна першаму, быў такі ж шырокі і прамы, і дамы на ім былі навейшыя і болей прасторныя, былі і цагляныя; і дрэўцы паўз двары і сады таксама былі маладзейшыя. Называлі яго «новы» ў адрозненне ад старога, на якім жыве цётка Ніна і стаіць бабіна-Зосіна хата.

Можа, нейкіх пяць хат было на новым пасёлку, калі ўзяў пляц і пачаў будавацца Мішаў бацька, а за ім і дзядзька Кандрат. Бацька сядзеў на трактары, той на машыне. Дружылі яны яшчэ са школы, таму і пляцы ўзялі блізка, цераз вуліцу. Разбудаваўся пасёлак хутка, упёрся ўжо адным канцом у цэх прамкамбіната, другім — у гравійку і гатоў да скачка цераз яе.

За пасёлкам адкрываўся воку шырокі заліўны луг, за ім, падразаючы берагі на заваротах, цякла Шчара.

Міша выйшаў за новы пасёлак і спыніўся, зачара-

ваны некранутай белай пустыняй, што распасціралася проста перад ім, управа і ўлева, ускідвалася ўдалечы лініяй узвышэння, якая ішла паралельна пасёлку і пазначала сабой рэчышча ракі, запаволена-спакойнай і санлівай такой парой.

І яму ўявілася — нібы толькі што прайшло перад вачыма,— як гэта роўная, бяскрайняя посцілка снегу пойдзе цёмнымі плямамі, як твар жанчыны перад родамі, потым плямы пачнуць сінець, набракаць вільгаццю, спярша па нізкіх мясцінах, пасля вышэй. Плямы растуць, распаўзаюцца, як чарніла на прамакатцы, злучаюцца адна з адной, збягаюцца разам, пакуль не займуць увесь луг аж да самых агародаў, потым папаўзуць і на агароды, захопліваючы плацдарм аж да самых дамоў. Здаля вада здаецца сіняй, а падыдзе бліжэй, заплешчацца ля платоў, і ўсе ўбачаць, што яна сівая, золкая — звычайная вясенняя паводкавая вада. Во калі самая пара кінуць на яе вароты, узяць шост і пагнаць на Шчару, бо такой парой яна жартаў не разумее, падхопіць на спіну гэты прымітыўны карабель, крутане, як лісцік, туды-сюды і павалачэ к мосту з такой дурной сілай і злосцю, што не хопіць духу і «мама» крыкнуць. А калі хопіць духу, то наўрад хто пачуе гэты крык у сівым бяскрайнім моры.

Пахадзіўшы па многіх морах, адчуўшы на сабе стоеную да пары, нікому не падуладную сілу сабранай неразам вады, яе ласку і штармавую лютасць, ён, як і некалі, называў паводкавую стыхію сваёй ракі морам, хоць ведаў, што мора — нешта зусім іншае.

За ўзвышэннем, нібы намаляваныя на школьным малюнку, рознакаляровымі плямамі прасвечвалі з-за дрэў дахі дамоў зарэчнай вёскі. Лявей і шчэ далей, дзе, выбягаючы з лесу, Шчара робіць крутое калена, за лугам, мечаным белымі трохкутнікамі-стагамі, відаць былі яшчэ дрэвы, яны хавалі за сабой другую вёску. А трохі бліжэй сюды, за Панскай сажалкай, на беразе прарэзанага меліярацыйнай канала, некалі ён убачыў маладога бабра, а пасля і пасябраваў з ім.

Было гэта ў дзевятым класе. Ён на веласіпедзе вяртаўся з баравікоў, поўны кош іх быў прывязаны на багажніку. Марс — выпадковая помесь паляўнічага сабакі і дварнягі, так што цяжка было сказаць, якой крыві ў яго болей — тады ён быў нашмат маладзейшы, і Міша без яго ніколі не выходзіў у лес,— бег то збоку,

то ззаду, то наперадзе, выбіраючы дарогу аднаму яму вядомай сабачай логікай. Ён і даў знаць, што некага запыніў. Міша прыставіў веласіпед да альхі, перайшоў цераз канал і пабег на голас.

Яны сядзелі адзін насупраць аднаго — невялічкі, месяцаў чатырох рыжы з белым каўнерыкам на шыі бабёр і Марс. Марс адчуваў сябе гаспадаром сітуацыі. Ён сядзеў на траве, шырока расставіўшы пярэднія лапы, спіной да канала, загароджваючы бабру дарогу да вады. Бабёр стаяў на ўсіх чатырох, натапыраны даўгімі чорнымі валасамі і падобны на купіну, якіх шмат на лузе, не спускаючы маленькіх, як канаплянае зерне, вочак з сабакі. Ён толькі бліснуў імі на падыходзячага Мішу і зноў утаропіўся ў сабаку. У ім ён бачыў свайго галоўнага ворага. Так яно і было. Марс, узрадаваны падмогай, кінуўся быў да гаспадара, і бабёр тут жа рвануў на прарыў — кароткімі, няўклюднымі скачкамі. Ён мала што не дабег да канала, як яго дагнаў Марс і шкуматнуў за чорную лапату хваста. Бабёр адчайна піснуў, і ярасна рвануўся ўсім целам назад на сабаку, і дастаў таго за ляжку, і Марс заекатаў, але насядаць на бабра стаў больш рашуча і люта. Толькі Мішаў голас трохі супакоіў яго. Праз некалькі хвілін адчайнага брэху сабака і бабёр занялі такія ж пазіцыі, як і раней, толькі ўжо бліжэй да канала. Але цяпер бабёр паспакайнеў. Не звяртаючы ўвагі на Марса, ён стаў залізваць рану на хвасце. Марса гэта спачатку злавала, потым і ён суцішыўся, кідаючы позіркі на Мішу: «Ну, што ты з яго возьмеш?»

Нідзе паблізу бабры не вадзіліся, іхнія хаткі Міша бачыў кіламетры за тры на ручаі, у глухім лесе. Гэты, відаць, зблудзіў, па ручаі выйшаў у луг, у канаву, і па канаве дабраўся аж сюды. Бабёр паводзіў сябе так, быццам яму начхаць было і на Марса, і на Мішу. Залізаўшы рану на хвасце, пачаў вылізваць поўсць на баку.

Міша схадзіў да веласіпеда, узяў кавалак хлеба і сала, што браў з сабой у лес і не з'еў. І сабаку, і бабра застаў там, дзе пакінуў. Падзяліў і хлеб, і сала на дзве долі — таму і другому. Марс сваю долю з'еў адразу, бабёр толькі бліснуў на сваю, але не крануў. Міша падсунуў хлеб і сала палкай пад самы нос яму. Бабёр чмыхнуў, але не ўзяў. «Можа, ты саромеешся пры

нас есці. Тады мы пойдзем,— сказаў Міша і паклікаў Марса. Той доўга не хацеў ісці, але, калі ўбачыў, што Міша сеў на веласіпед і паехаў, кінуўся яго даганяць.

Назаўтра Міша зноў прыехаў на тое месца. Ні хлеба, ні сала не было. Не было відаць і бабра. На гэты раз Міша ўзяў з сабой морквы і высыпаў яе на траву. На наступны дзень морквы таксама не стала. На пясчаным спуску ў канаву Міша ўбачыў свежыя адбіткі лапак бабра. А яшчэ на наступны дзень Міша ўбачыў і яго самога. Ён сядзеў на беразе, але, як толькі Міша пачаў падыходзіць да яго, нырнуў у ваду. Нырнуў, але далёка не паплыў. Міша прысеў на траву і хвілін праз дзесяць убачыў вусатую морду: бабёр вылазіў на бераг. Цяпер Міша раскідаў моркву так, каб яна ляжала ланцужком адна за адной і аж да яго. Бабёр з'еў адну, другую, трэцюю, але тыя, што былі блізка ля Мішы, узяць не адважыўся...

Так пачалася гэта дружба. Бабёр прывык да Мішы, ён ужо чакаў, калі паявіцца той з морквай, пачаў браць моркву ў яго з рук. Было пацешна пазіраць, як той упіраецца лапкамі, стараючыся вырваць морквіну з Мішавай рукі. Дома недзе павінна быць фотакартачка, як бабёр ваюе з Мішам за морквіну. Тым разам яны прыйшлі на канаву ўдвух з Віцем Крываносам, ён таксама хадзіў у дзевяты клас. Узялі з сабой фотаапарат, і Віця зрабіў некалькі кадраў. Дні два пасля таго Міша не мог прыйсці да бабра — касілі з бацькам сена за ракой. Колькі ні прыходзіў пасля — бабра не было. Можа, успомніў сваю рачулку, свой дом і вярнуўся, а можа, хто забіў.

Да самай зімы, як вымытыя дажджом косці, бялела на беразе канавы морква: Мішу ўсё здавалася, што бабёр аб'явіцца, хоць на адзін раз, але аб'явіцца, і кожны дзень, ідучы з дому ў гэты бок, ён браў з сабой моркву.

Бабёр не аб'явіўся. На ўспамін пра яго ў Мішы засталіся дзве фотакарткі: тая, дзе бабёр адбірае ў Мішы морквіну, і другая: бабёр п'е ваду. П'е, а сам хітрымі вачыма стрыжэ ўгору, на фотаапарат. У вачах свеціцца неба, а ад вострай пысы, уторкнутай у ваду, конусам, як ад носа карабля, бягуць хвалі. Пазней ён бачыў другія хвалі — ад стальной, у многія тысячы тон махіны. Яны разбягаліся ў бакі, як цяжкія, тлустыя, упэўненыя ў сваёй імклівай пеннай сіле невядо-

мыя дагістарычныя жывёліны, але як яны былі падобныя на гэтыя, малюсенькія, ад баброваи пысы. Якраз такія хвалі рабіў некалі ён сам, дзьмухаючы на гарачае, толькі што згатаванае малако, якое ў кубку давала яму піць ад прастуды маці.

Гэта фотакартка бабра была з Мішам і ў вучылішчы, плавае яна з ім і цяпер. Яму здаецца, што яго бабёр жывы і што яны павінны абавязкова сустрэцца яшчэ адзін раз. Як яны пазнаюць адзін аднаго і калі гэта будзе, ён не ведае, але ў запасе ў іх ёсць час, бо жывуць бабры да дваццаці гадоў.

Ёсць людзі, якія як не ад самага нараджэння ведаюць свой будучы жыццёвы шлях. Яшчэ з першага класа яны ведаюць, што ім наканавана быць музыкантам, ці спеваком, ці вучоным, ці, у горшым выпадку, як бацька і маці,— доктарам ці настаўнікам. За іх падумалі, склалі ім праграму бацькі, і з гэтай праграмай яны жывуць, дакладна ведаючы, што будзе заўтра, паслязаўтра, праз год, праз пяць...

Міша быць мараком ніколі не збіраўся. Жыў сабе, дзікаватае дзіця лесу, лугу, Шчары, задушлівай летняй спякоты з даўкім саламяным пылам, кіслых асенніх дажджоў, сухіх калядных маразоў са снягамі па пахі, нясмелай песні першага жаўранка — недзе там, у цёмнай вышыні халоднага пасля замаразкаў неба... Ніколі не было яму страху ўстаць у чатыры гадзіны раніцы, каб на матацыкле з бацькам, пакуль яшчэ цёмна і людзі збіраюць у кучу самыя цікавыя перадранішныя сны, праскочыць па шэрай лесавой дарозе ў пушчу, на вядомыя толькі ім і не толькі ім баравіковыя дзялянкі ці ў мясціны, дзе, схаваўшыся ад надакучліва-прагнага чалавечага вока, расце пахучая трава бальсан, каб да васьмі гадзін, калі ўсе бягуць на працу, вярнуцца назад з поўнымі кашамі. Ці сесці з бацькам у кабіну «Беларуса» з пустым прычэпам на буксіры і паехаць у дровы, цягаць пяціпудовыя плашкі і чурбакі, ускідваць на прычэп, пакуль ён не вырасце вышэй за кабіну трактара, потым дома разгрузіць, і старацца ні ў чым не ўступаць бацьку, хоць у таго спіна, як добрая дубовая плашка, а ў цябе лапаткі, як кволыя крыльцы ў анёлаў. Ці праскочыць з брэднем па Шчары далей у лес, дзе яна хітра вяжа свае шматлікія мудрагелістыя петлі, як заяц, збіраючыся залегчы, утварае затокі на радасць шчупакам, плоткам і ім — рыбакам...

Так ён жыў, задаволены жыццём і сабой, і дажыў да дзесятага класа, і хто ведае, які́м быў бы яго далейшы пуць, калі б аднойчы зімой, якраз такой, як цяпер, парой, і тады снег быў мяккі і чысты, не завітаў у іх вёску капітан ваенна-марскіх сіл. Гэта быў стрыечны дзядзька Віці Крываноса. Ён і пабыў нядоўга, адзін дзень, і расказаў скупа пра сябе і свае марскія паходы, але Міша адразу, як убачыў яго ў чорнай параднай форме, адчуў гарачы штуршок у грудзях, адчуў, як па ўсім целе яго пайшло цяпло, нібы ад радасці, што бывае толькі пры рэдкім улове, і сказаў сабе: усё, цяпер я ведаю, што мне рабіць.

Так ён стаў мараком.

Скончыў дзесяць класаў, сабраўся і паехаў паступаць у вучылішча. Маці — у слёзы, бацька сапе ў нос, адна баба Зося падтрымала адразу і не раздумваючы: «Едзь, унучак — няма мора, дык марак будзе». І вось... «таварыш старшы лейтэнант...». Некалі Міша не мог уявіць свайго жыцця без лесу, поля, Шчары. Хаця ён і цяпер не ўяўляе яго. Колькі разоў за гэтыя гады снілася, быццам з бацькам на матацыкле ў грыбы едуць, і столькі баравікоў, і такія прыгожыя, і радасць — на ўвесь свет. Ці сена косяць. А то на жніве, і бабы спяваюць. Прачнецца, а песня ўсё яшчэ звініць ў вушах. Снілася Шчара. Нешырокая, але заўсёды такая страшная, такая злосная... Можа, таму, што некалі тануў у ёй? Але хто з вясковых падшыванцаў не наглытаўся вады, пакуль адчуў сябе на яе хвалях, як дома?.. Колькі і якой вады не пабачыў, а такой ласкавай, такой мяккай, такой далікатнай вады, як у Шчары, нідзе не сустракаў. Толькі чаму яна такая страшная, калі сніш яе?..

З лёгкім сцішаным сумам Міша прайшоў на аўтастанцыю, каб сустрэць Ларысу, а ўбачыў яе — невысокую, танюсенькую, з вялікімі вачыма на прадаўгаватым мілым твары і радасць у іх, і сум гэты саступіў месца радасці бачыць яе, чуць яе голас, абдымаць яе. З гэтай радасцю яны ішлі па вуліцы сяла, вітаючыся з людзьмі: рабочы дзень канчаўся, і ўсе спяшаліся дамоў.

Іхняя хата ўжо гудзела, як клуб перад пачаткам кіно. Тут ужо былі цётка Ніна з дзядзькам Дзянісам, іх дачка Валя з мужам: яны гадзіну назад як прыехалі з Мінска, дзядзька Кандрат з цёткай Маняй, абое, як

заўсёды, вясёлыя, шумныя, і, як заўсёды, абое былі заняты работай: дзядзька Кандрат кроіў хлеб, а цётка Маня завіхалася над вялізнай глыбокай скаварадой, у якой нешта сквірчэла, узрывалася; была цётка Клава, яна расстаўляла на сталах чаркі і фужэры. Быў уключаны тэлевізар, па якім паказвалі фігурнае катанне, якое глядзеў, можа, адзін толькі дзядзька Дзяніс. У кутку пад люстэркам настырны шчанюк наседаў на кошку, стараючыся раздражніць яе.

— А вось і мы, мама,— сказаў Міша, падыходзячы з Ларысай да маці: яна ўбачыла, як яны зайшлі, і ішла ім насустрач.

— Алена Іванаўна,— сказала маці, паціскаючы вузенькую, халодную з марозу Ларысіну руку і пільна ўзіраючыся ў блакітныя вочы той, з кім ёй, мусіць, наканавана дзяліць яе сына, гэтага адзінага, дарагога...

— Ларыса,— дзяўчына спакойна вытрымала Аленін позірк.

— Ты так глядзіш, быццам ужо ніколі яе не ўбачыш,— засмяяўся сын.

— Убачу не ўбачу, а паглядзець хачу,— адказала маці.— Распранайцеся ў нас,— запрасіла яна Ларысу і паглядзела на Мішу: «Ну, куды ты глядзіш?»

— Распранемся,— весела сказаў ён, беручы Ларысу за паліто каля каўняра. Ларыса пазірала Мішу ў вочы, пакуль ён расшпільваў паліто з верху да нізу, потым грацыёзна павярнулася, пакінуўшы паліто ў яго руках, застаўшыся ў цёмна-вішнёвай шарсцяной сукенцы. Міша панёс паліто і белую вязаную хустку ў бакоўку, Ларыса стала прычэсвацца перед люстэркам.

Алена выйшла ў сенцы. Ёй трэба было трохі супакоіцца. У тым, як Міша дапамагаў Ларысе зняць паліто, у тым, як спакойна стаяла Ларыса, як пазірала яму ў вочы, Алена ўбачыла нешта большае, чым проста паслугу хлопца дзяўчыне, і гэта ёй не спадабалася. Можа, каб гэта зрабіў хто іншы, яна б і не звярнула ўвагі, але ж гэта быў яе сын! Яна не маленькая, яна добра ведала, што сын яе ўжо зусім дарослы чалавек, і Ларыса не маленькая, і сустракаліся яны ўжо не ад-

ну вясну, але нейкі чарвячок учапіўся ў сэрца, і трэба быў нейкі час, каб ён адпусціў.

І таму яна ўзрадавалася і зазлавала, калі з двара зайшоў муж, і накінулася на яго:

— Дзе ты ходзіш? Трэба садзіцца...

— То і будзем садзіцца,— адказаў ён мякка, адчыняючы дзверы ў хату і прапускаючы яе, паспеўшы непрыкметна прыгарнуць яе рукой да пляча. Ёй, мусіць, якраз і не хапала гэтага памяркоўнага, свойскага голасу, гэтай звычайнай простай ласкі, і яна адразу супакоілася, ускінула галавой і ў хату зайшла з заўсёднай вясёлай усмешкай, якую ўсе прывыклі бачыць на яе твары.

— За стол, за стол, за стол! — скамандавала, як заспявала, яна.

Усе дружна заварушыліся, беручы кірунак у другі пакой, дзе, ссунутыя разам, чакалі два сталы, застаўленыя ядой і пляшкамі, пачалі рассаджвацца, уступаючы месца адзін аднаму.

У гэты час нячутна, як нехаця расчыніліся дзверы, і нехта, увесь закручаны ў вялізную чорную хустку — адно відаць былі ногі ў белых мяккіх валёнках ды рука з кійком,— асцярожна пераступіў парог.

— Ой, хто да нас сёння прыйшоў! — першая ўбачыла госцю і першая падала голас гаспадыня, скоранька прычыніла дзверы і стала дапамагаць раздзявацца. Раскруціла верхнюю хустку, пад ёй была яшчэ адна — меншая і лягчэйшая, здзела кажух, і тады ўсе ўбачылі, што гэта не хто іншы, як баба Зося. Баба Зося папраўіла белую ў вялікія залёныя кветкі хустку на галаве, падступіла да пакоя, дзе стаялі сталы, сказала:

— Добры вечар у хату.

Агледзела застолле, але засталася нечым незадаволена, павярнулася да гаспадыні і тут убачыла Мішу: яны з Ларысай якраз выйшлі з бакоўкі.

— Гэта твая дзяўчына? — спытала баба Зося ўнука, зірнуўшы на Ларысу — спачатку на твар, потым на грудзі, ногі, задаволена пашавяліла губамі: — Дык жа ж прыгожая,— пахваліла так, як хваляць дзяцей.— Файная... Толькі добра дружыце,— дадала, зноў жа як дзецям.

Яна радавалася, што, дзякаваць богу, дайшла сюды, а то ўжо баялася, ці дойдзе. Можа, гадзіны дзве

ішла; пройдзе, пастаіць трохі, аддышацца і зноў пойдзе, яшчэ пройдзе і зноў спыніцца: і ногі дрыжаць, і рукі калоцяцца, і дыхаць цяжка, хоць лажыся на дарозе і памірай. І во — дайшла!.. Як горача ў іх... А дзяўчына харошая, маладзенькая, а не баіцца. Унук не промах, ведае, каго выбіраць... і тут пайшоў па дзеду. Той ведаў, у які бок глядзець. Яна кінула позірк на сцяну над акном, паверх галоў людзей. Там, у рамцы, вісеў павялічаны сямейны фотаздымак — апошні фотаздымак, дзе яны ўсе разам — Яўмен, яна сама, свякруха, Ніна, Коля. Ніна ў чаравічках, з чырвоным шыўковым банцікам на белай сукеначцы, Коля — босы. Цёпла было, летам. Сама яна ў белай кофце, чорнай спадніцы, у чаравіках з высокімі зашнураванымі халяўкамі. Свякруха стала ззаду — паміж ёй і Яўменам. Ён сядзіць нага на нагу, рука на калене, камандзірская фуражка, бліскучыя, да самых каленяў боты, сінія дыяганалевыя штаны, гімнасцёрка. Ён толькі вярнуўся з фінскай вайны — цэлы, здаровы, а тут якраз заезджы фатограф. Здымаў ён іх на вуліцы, каля хаты, толькі вынеслі слончык сесці ды распялі посцілку на сцяне. Радаваліся, што вайна нарэшце скончылася, і ніхто не ведаў, што другая стаіць за плячыма, і не далей, як праз некалькі месяцаў. Тут жа, ля гэтай сцяны, і застрэлілі беднага немцы зімой сорак першага. Паранены, ён уцёк з лагера, а нехта подторкнуў: чырвоны камандзір хаваецца. Адно сям'ю пашкадавалі, не расстралялі.

Доўга стаяць бабе Зосі не далі, паклікалі за стол, і яна пайшла насустрач знаёмым галасам, жыва варушачы губамі, нібы чытала малітву.

Як помніць сябе, Міша любіў такія вечары. Былі яны часцей за ўсё у суботу ці ў нядзелю. Раптам мільгане ля акна рашучай паходкай і ўляціць у хату цётка Маня і з парога:

— Дзевачкі, сёння вячэраем у мяне! — «Дзевачкі» — гэта ўсе: і жанчыны, і мужчыны, і дзеці.

— А што ў цябе ёсць? — пытаецца маці.— Не «чаму?», «што?», «як?», а адразу каня за аброць.

— Бліны ёсць, гуркі, бульбы адвару...

— Бульбу не трэба. У мяне смажаная з мясам. Можа, капусты ўзяць?

— Вазьмі, твая крапчэйшая...

— А пляшку? — напамінае пра сябе гаспадар, вы-

ходзячы з бакоўкі, дзе, карыстаючыся выхадным днём, прылёг быў на канапцы.

— Ёсць і пляшка, але можаш узяць, не закісне. Болей нічога не трэба. Клава селядзец прынясе, халоднае...

Цётка Маня пабегла, а тут ужо заварушыліся: бацька мацае шчаку, правярае, ці не трэба дастаць электрабрытву; маці адчыніла шафу, глядзіць, што б такое надзець свяжэйшае...

Не пройдзе і трыццаці хвілін, як застолле ў цёткі Мані гудзе ваўсю. Вып'юць жанкі па чарцы — «ай, бабы, дзе наша не прапала», заружавеюцца, падміргнуць адна адной і, нібы самі сабой, не згаворваючыся, завядуць:

Ой, у лузе каліна стаяла,
Пад калінай дзяўчына гуляла...

Запявае заўсёды Мішава маці, запявае, водзіць у бакі галавой, пазірае перад сабой, але нічога не бачыць — так «перажывае» за тую дзяўчыну-каліну. Ёй памагае, вядзе разам цётка Клава. Сама яна не адважваецца запяваць, а ўпа́ру... Яна маладзейшая з усіх іх, чорныя, нібы праведзеныя алоўкам, дужкі броваў, чысты смуглявы твар, цёмныя вочы. У іх схавана нешта нераскрытае, як агонь пад попелам.

«Хахлушка мая залатая»,— гаворыць, абдымаючы яе, Мішава маці, яны горнуцца адна да адной, затаіўшы ў вачах глыбокую жальбу. Прычыну гэтай жальбы ўсе ведаюць: у цёткі Клавы ніколі не было дзяцей, а пяць гадоў назад не стала і мужа, таксама саўгаснага трактарыста. Зваліўся з трактарам з моста ў канаву і не змог выбрацца з кабіны.

Падцягвае і дае разгон песні цётка Маня. У яе звонкі голас, і бярэ яна так высока, што здаецца, і канца яму не будзе.

І сёння, як заўсёды, пачала маці. Цётка Маня, цётка Клава сядзелі побач, яна ўшчамілася між іх, падміргнула: «Спяем?»

— Спяем,— кіўнула цётка Маня, павёўшы вачыма кругом, нібы правяраючы, ці гатова публіка. Публіка была гатова: курцы дымілі ў сенечках, усе астатнія сядзелі на сваіх месцах, нібы чакалі. Міша з Ларысай таксама былі тут. Неяк само сабой выйшла, што іх пасадзілі на покуці і глядзелі на іх, як на маладых.

Міша сціскаў Ларысіну руку пад сталом, а сам гля-

дзеў на маці — быструю, увішную, пільную да ўсяго, што каму трэба за сталом, расчырванелую ад бегатні і выпітай чаркі, а перад вачыма стаяла нядаўняе: ён з чамаданчыкам у руцэ адчыняе варотцы, заходзіць у двор; яна бяжыць да яго і з крыкам: «Міша, сыночак!» — павісае на шыі. І вось тады, трымаючы яе ў абдымках, цёплую, мяккую, маленькую, і суцяшаючы яе, ён адчуў, якая яна слабая і як доўга яна чакала яго. Бацька — іншае, бацька — мужчына. Скажа слова, ляпне рукой па плячы, закурыць — і ўся душа. А яна... Вось і цяпер... «Спяем?» — «Спяем!...» Суцішылася, прыслухоўваючыся да нечага ў самой сабе, выжыдаючы нечага. Заружавеліся, закрамянелі шчокі, засвяціліся вочы.

Ужо вячэра кіпіць-закіпае,—

павяла ціха, нібы і не спявала, а прагаворвала.

Ужо вячэра кіпіць-закіпае,—

удыхнула паветра, ускінула галавой, і два новыя галасы з нечаканай смеласцю падхапілі, паднялі вышэй:

Ужо вячэра кіпіць-закіпае,
Мой мілы на парожак ступае.
Сядай, мілы, не стой у парозе,—

павяла смялей і павярнулася да таварак, і тыя з лёгкай ахвотай, быццам толькі і чакалі гэтага павароту, падхапілі, узнялі:

Сядай, мілы, не стой у парозе,
Раскажы, што ты чуў у дарозе...

І забіліся, зазвінелі галасы, а над імі — тоненькі галасок цёткі Мані; нібы ціхім летнім раннем у кузні нехта неасцярожна стукнуў малатком па кавадле, і ўсё сяло слухае гэты звон.

І баба Зося слухала песню — аж рот раскрыла. Цяпер гэта была зусім не тая баба Зося, якую Міша бачыў удзень. Есці яна нічога не ела, піць — таксама, адно трымала руку на фужэры з шампанскім, якога болей за палавіну наліў ей Міша, і з дзіцячай цікаўнасцю ўслухоўвалася ва ўсё, пра што гаварылася за сталом. Сказалі тост, і яна трошкі адпіла. Пасмакавала, здзівілася: «Нешта ж смачнае надта» — і паставіла на стол, гладзячы шкло далонню, і было відно, што на сярэднім пальцы ў яе надзеты шырокі, даўняга чырвонага золата пярсцёнак. Гэта быў падару-

нак яшчэ маладога дзеда Яўмена, і баба надзявала яго вельмі рэдка. Міша і прыпомніць не мог, калі гэта было апошні раз, і во зноў надзела.

Яшчэ болей ажывілася яна, калі заспявалі. Слухала так, быццам чула першы раз, усёй істотай цягнулася за гэтым тонкім-тонкім голасам.

— Манечка, у цябе галасок, як валасок. Аж боязна, каб не сарвала,— не вытрымала, прызналася.

— Ой, цётка Зося, на мае песні яго стане,— супакоіла яе Маня і давяла песню да канца, уздыхнула, кінула рукі на прыпол.

— Ну, баба Зося, цяпер твая чарга,— папрасіў Міша.

— Баба Зося, давай, давай,— падхапілі дружна ўсе, і ўжо не было ей куды дзецца. І яна выпрамілася, правяла рукой па завязанай хустцы, затрымала яе на самых ражках, зацiснула іх і пачала:

Раз палосу Маша жала,
Залаты снапы вязала
Удалая.

Голас быў хрыплаваты, хоць і чысцейшы, чым раніцой, яна не спявала, а проста расказвала:

Яна жала і ўстала,
Пад снапочкам задрамала
Маладая.

Заахвочаная ўвагай, набірала смеласць, свяціліся маладым агнём вочы, разгладзіліся маршчыны.

Ішоў салдацік із паходу
Васемнаццатага году —
Ішоў з Кітая...

Баба Зося глядзела на Мішу, глядзела сур'ёзна, з нейкай жальбою, і Міша адчуў у яе голасе невядомую трывогу. Але яна раптам ускінула галавой, усміхнулася:

Ішоў салдацік і стаміўся,
Каля Машы прыпыніўся:
Дай напіцца!
Я б дала табе напіцца,
Ды цяпла мая вадзіца —
Не гадзіцца.

Ведаў Міша бабу Зосю і не ведаў. І гэта рука з пярсцёнкам, і цёмная хустка, і ўся яна сама, такая маладая... І песня гэта была не пра нейкую Машу, а пра яе самую. Гэта яна жала і задрамала пад снапочкам, і было гэта не далей, як учора...

Баба Зося нібы забылася на ўсіх, хто сядзеў за сталом, і спявала ўжо для самой сябе. Праўда, пазірала на «салдаціка», на старшага лейтэнанта ваеннамарскіх сіл, што сядзеў напроці са сваёй нявестай.

Скончыла спяваць, адкінулася назад, да спінкі крэсла, і ўсе ўбачылі, што ёй цяжка дыхаць і што твар яе стаў бялейшы, чым быў дагэтуль. Міша ўстаў, абышоў кругом стала, абняў яе, пацалаваў:

— Ты малайчына, баба Зося!

— А што? — нібы здзівілася яна.— Гэта ж песня. Тут усё жызненна, усё маладзёжна.

Яна выйшла ў другі пакой, прылегла на ложак, сцішылася. Хвілін праз колькі сюды заглянуў Міша. Баба Зося адкрыла вочы, як толькі ён зайшоў, спытала:

— Дык яны ж, унучак, і страляць могуць?..

— Хто, баба Зося?

— Ну, караблі тыя.

— Могуць, яшчэ як могуць,— адказаў Міша сур'ёзна, потым усміхнуўся.— Але ты не бойся... Мы таксама страляць умеем...

— Яно ўжо ж, унучак... Толькі ты не зважай на мяне. Ідзі да Ларысы, а я трошкі паляжу і пайду... дамоў... Чуеш, як хораша спяваюць...

І Міша пайшоў туды, дзе спявалі.

# ЖАНЧЫНЫ

*Апавяданне*



Жыта было густое і высокае, і Паўліна жала яго высака, не баючыся, што маці насварыцца. Левай рукой займала жменю, правая з сярпом, быццам сама сабой, была ўжо там: тугі поцяг сярпа, картавы трэск перарэзаных саломін — і цяжкія каласы, баўтануўшыся над галавою, кладуцца на вязьмо. Рука ловіць новыя сцяблiны, новы ўзмах сярпа — і яшчэ адна жменя кладзецца на жнеўнік, і яшчэ, і яшчэ...

Неба няма — адна белая смуга над галавой. Сонца не відно, але яно смаліць у плечы, у рукі, зямля дыхае, як напаленая печ, стракочуць конікі, шархацяць каласы, быццам недзе перасыпаецца сухі пясок. Хочацца піць. Паўліна разгінаецца, праводзіць рукой з сярпом па твары — змахвае пот, паварочваецца назад. За ёй — зваяванае поле: жнеўнік і снапы,

снапы, снапы, снапы... Яна і сама не ведае, калі паспела столькі зжаць... Як збавенне, аднекуль налятае ветрык — ён як жывы, абцякае, абмывае гарачае цела. На Паўліне адна толькі кашуля, уся адзежа там, ля лесу, пад кустом, там і гладыш з вадой. Загоны жыта далёка ад дарогі і ад сяла, ніхто яе не бачыць, хоць ты скінь і кашулю... Ад ветрыку так добра — і душы, і целу.

Хутка павінна прыйсці маці, прынесці абед, тады яны пойдуць у цянёк, будуць глядзець адна адной у вочы, гаварыць, гаварыць, гаварыць — кожнае сваё, такое дарагое. І Паўліна зноў пачынае жаць — пахапліва, спяшаючыся, каб болей зрабіць, каб маці пахваліла. А ветрык не пакідае яе, абдзімае, казыча грудзі, шархацяць каласы, як пясок, снапы адзін за адным кладуцца на жнеўнік, усцілаючы ўсё поле, і нешта вялікае, светлае, як песня, поўніць душу і дае радасць і спор працы.

І раптам Паўліна ўбачыла — адкуль ён узяўся? — чалавека... Малады мужчына з чорнымі шырокімі вусамі ішоў да яе, падміргваў. Паўліна прыціснула рукі да грудзей: яна раптам адчула, усім сваім целам адчула, што на ёй адна толькі кашуля... А чалавек загадкава ўсміхаўся, набліжаўся, і былі страшныя яго вочы. Паўліна пазнала яго і перапалохалася. У жаху кінулася ўцякаць — туды, у лес, дзе ляжала яе адзежа. Жнеўнік блытаўся пад нагамі, чапляўся, не пускаў; чым далей, тым цяжэй было бегчы, яна задыхалася, але бегла наперад, чуючы за спіной дыханне вусатага чалавека, потым зачапілася за сноп і паляцела-паляцела, і ляцела доўга-доўга, як у запаруджаным кіно, і ўдару аб зямлю не пачула, і не абкалолася... Пакуль ляцела, адчула, што ўсё гэта — сон, і ўзрадавалася.

У палаце відна ад ліхтара: ён стаяў па той бок вуліцы і кідаў на сцяну павялічаны квадрат акна. Выразна, быццам пакінуты лёгкім размашыстым штрыхом мастака, значыўся на фоне акна верх бярозкі. Яшчэ маладая, яна да трэцяга паверха даставала толькі некалькімі наструненымі галінкамі. Днём відаць, што почкі набраклі і ўжо чакаюць цёплай пары, каб пусціць лісты.

Ігнатаўна спакойна ўсхрапвала на сваім ложку. Вера Васільеўна таксама спала, а можа, і не спала,

проста ляжала затаіўшыся. Яна і днём любіць ляжаць так: заплюшчыць вочы, суцішыцца — ці то жыве, ці не жыве.

Тры ложкі ў палаце і іх трое. Ігнатаўна і Вера Васільеўна ляжалі ўжо тут, калі яе прывезлі. У бальніцах няма асаблівай патрэбы таіць свае хваробы, і Паўліна Іванаўна на другі дзень ведала, што ў Ігнатаўны прыроджаны парок сэрца і што яна трэцюю зіму запар прыязджае ў Мінск лячыць яго і трэці раз ляжыць тут, у гэтай бальніцы. Расказала пра гэта сама Ігнатаўна, расказала нібы з гонарам, як і пра тое, што пры гэтым пароку яна нарадзіла семера, а выгадавала шэсцера дзяцей; трое — дзве дачкі і сын — сталі настаўнікамі, адзін аграномам, адзін інжынерам, а самы меншы тут, у Мінску, начальнік, і над многімі людзьмі начальнік. Сёмы таксама быў хлопчык, але нарадзіўся ў вайну і памёр у блакаду... «То хіба я не заслужыла, каб мяне на старасці шанавалі, даглядалі?.. Я сябе не шкадавала, і гадавала, няньчыла, адна, без мужыка, яго забіла на вайне, то хай хоць цяпер мяне паглядзяць. Во паляжу, праверуся ды буду ў санаторый прасіцца, у Нясвіж, там спакойна і кормяць добра, а наперадзе вясна, мне трэба направіцца, соткі трэба сеяць... Дактары не пусцяць — сыну скажу, хай дабіваецца... Радзіць — не на танцулькі схадзіць, а выгадаваць яшчэ мудрэй. Гэта хто не ведае, думае, што ўсё проста...»

Не столькі цяжка, як няёмка было слухаць Паўліне Іванаўне гэту не без нейкай хітрасці споведзь. Яна вялася быццам назнарок для яе, Паўліны Іванаўны: Ігнатаўна ведала, што яна не замужам у свае немаладыя ўжо гады, і не была ніколі замужам, і ні разу не раджала... Але Паўліна Іванаўна маўчала, усміхалася сабе. А Вера Васільеўна моршчыла бяскроўны белы лоб і старалася перавесці гаворку на што іншае...

Вера Васільеўна пра сваю хваробу расказвала мала, ды тут і расказваць нічога не трэба было: сэрца слабенькае, зношанае, яе прывезлі сюды ў перадінфарктным стане. «Дактары і самі не ведалі, дзе я: па гэты ці па той бок інфаркту,— гаварыла яна Паўліне Іванаўне, усміхаючыся стомленай усмешкай.— Толькі на другі тыдзень устанавілі, што па гэты...»

Сама Паўліна Іванаўна ехала ў Мінск у госці, а трапіла ў бальніцу. Здушыла ў грудзях — ні ўздыхнуць, ні голас падаць. Як быццам і болю ніякага, толькі слабасць і не стала чым дыхаць. Хапаеш паветра, як рыбіна на пяску, а яго няма... Ні каму расказаць, ні пахваліцца: прыехала ў гатэль, а паклалі ў бальніцу. Любіла пацвельвацца над мужчынамі, што насілі з сабой валідол ці нітрагліцэрын: «Што вы за мужчыны?», не баялася, што нехта пакрыўдзіцца на яе словы — людзей трэба падвінчваць, трэба сачыць, каб не апускалі крылле, яно таксама ўніз цягне, калі яго апусціць. Ажно і сама... Праўда, здаецца, цяпер усё прайшло, трэба выпісвацца...

Паўліна Іванаўна ўстала, падышла да акна. Фортка была адчынена, і з двара цягнула жывым вясновым марозікам. Можа, адсюль і той ветрык — у сне? Пад вокнамі нехта прайшоў у белым халаце — пачуўся бадзёры хруст крохкага лядку.

Неба цёмнае, ціха і сонна на вуліцы. Прайшоў першы трамвай, здаецца, і ён сунуўся, як сонны. І святло ліхтароў зеленаватае і як быццам ужо лішняе...

Некалі Паўліна Іванаўна вучылася ў Мінску. Моцнай ахвоты застацца тут у яе ніколі не было, не прыйшла гэта ахвота і пазней. Але кожны год на тыдзень-другі Паўліна Іванаўна прыязджала сюды. Пахадзіць па тэатрах, па музеях, кіно, зайсці ва універсітэт, сустрэцца са старымі знаёмымі... Гэта стала законам, тым, без чаго яна не магла жыць. Кожны ад'езд з Мінска даваўся нялёгка, і чым далей, тым цяжэй. Паўліна Іванаўна не ведала, што хацела кожны раз знайсці ў гэтым дарагім ёй горадзе. Гэты горад патрэбен быў ёй, як паветра для дыхання.

Паўліна Іванаўна прыткнулася лбом да настылага шкла, заплюшчыла вочы. Прыемна было стаяць нерухома, слухаць, як халаднее гарачы лоб, як яго абсыпаюць калючыя іголкі.

— Вам нядобра, Паўліна Іванаўна? — Голас у Веры Васільеўны чысты, відаць, яна даўно ўжо не спала. Гэта яна і фортачку адчыніла. Ігнатаўна баіцца прастудзіцца, заўсёды зачыняе. Паўліна Іванаўна павярнулася:

— Не! Не, Вера Васільеўна,— адышла ад акна,

лягла на ложак. Ён быў першы ад акна, потым стаяў ложак Веры Васільеўны, трэці — Ігнатаўны.

— Не, Вера Васільеўна,— паўтарыла задуменна Паўліна Іванаўна.— Я вельмі добра пачуваю сябе. Так добра, што аж страшна: думаю, ці праўда гэта, ці не самападман? Быццам нічога і не было — ніякага прыступу, ніякага болю. Я не чую сэрца — і гэта мяне страшыць...

— Дык гэта ж добра. Гэта вельмі добра. Значыць, вы паправіліся, зусім паправіліся. І яшчэ гэта значыць, што ўсё ў вас было несур'ёзна... Я па сабе ведаю, у мяне практыка ўга якая, бывае, назбіраецца ўсяго-ўсякага, а лажыцца на сэрца...

— Мне таксама хочацца верыць, што гэта выпадковае...— ціха сказала Паўліна Іванаўна і павярнулася да Веры Васільеўны.— Мне прысніўся сон. І добры, і нядобры, але болей добры. Здаецца, я і зараз там, у тым сне. Сасніла, што я жала жыта. Зусім-зусім маладая, здаровая, і ўсё так добра ў мяне, так ясна. Жну — і хочацца жаць. Гляну наперад — жыта, як мора, гляну назад — снапы, як салдаты, многа снапоў. І гарачынь на дварэ, сонца, на мне толькі кашуля — прасторная, лёгкая, якія некалі шылі ў сяле, здаецца, развядзі рукі — і цябе панясе. Губы пасмяглі, а гладыш з вадой далёка, і трэба старацца жаць. Потым прыйшоў вецер, абдымае мяне, лашчыць, я жну, а ён нібы гуляе са мной, забаўляецца, і хочацца мне, каб гэта было як можна даўжэй. І тут аднекуль з'явіўся чалавек з вусамі. Я адзін раз яго бачыла і тут убачыла яго і надта перапалохалася. Кінулася бегчы да лесу, дзе адзежа, бягу, а ногі цяжкія, як з волава, жнеўнік блытаецца пад нагамі, а чалавек бяжыць за мной і рагоча. Здаецца, зараз ужо буду там, ля лесу, ля сваёй адзежы, але тут зачапілася за сноп, зачапілася і... прачнулася...

— Гэта ж цэлая карціна, Паўліна Іванаўна. Я гарадская, я не ведаю, што гэта такое — жаць жыта... Мне здаецца, яго заўсёды жалі камбайны, праўда, ведаю, раней камбайны не самі хадзілі, іх коньмі цягалі...

— Не-е-е, Вера Васільеўна, гэта не камбайны, гэта жняяркі былі,— Паўліна Іванаўна засмяялася.— Ды і жняяркі прыйшлі пазней. А то жалі сярпамі.

Выйдуць жанкі, пастануць на загонах, адна ля адной — і пайшлі, хто скарэй, хто ўдалей. Здаля-то і жней саміх не відно,— адно толькі каласы ўзлятаюць угору ды шторхат стаіць над полем. А то яшчэ песню зацягнуць — сумная-сумная песня, сумная, але прыгожая. І цяпер здаецца, жну, хочацца болей зжаць, каб мама пахваліла, а так хочацца ўбачыць яе... Дзесяць гадоў, як яна памерла, і ні разу не снілася. Хачу сасніць маму, а сасніла гэтага чалавека... Ага, чалавека,— паўтарыла, быццам успомніла, Паўліна Іванаўна.— Дык я раскажу да канца... Ага... Было гэта на самым пачатку маёй працы ў раёне. Я тады была сакратаром выканкома. Дзевятнаццаць гадоў, а ўжо начальніца. Зелле горкае, а не начальніца.

Прыехаў неяк у наша сяло старшыня выканкома, сход праводзіць. Усе яго ведалі, і ён усіх ведаў, да вайны настаўнічаў, потым партызаніў тут жа.

Сход ідзе, трэба пратакол пісаць, і нехта назваў мяне. У мяне восем класаў было. Сяджу за сталом, пішу, і ён збоку пазірае, што я там пішу. І праз тыдзень зноў прыязджае, гаворыць, каб збіралася ў раён. Доўга мяне не ўгаворваў, я на рашэнне скорая і тут няшмат думала. Сабралася і паехала. Маці ў сяле, я — там. Думала, проста пераехала з аднаго месца ў другое, з сяла ў мястэчка, а перавярнула ўсё жыццё. Час цяжкі, бедны, пасляваенны. Трэба людзей сустракаць, гаварыць з людзьмі, пытанні вырашаць, а кругом гола, бедна, нястача... Я сама з Заходняй Беларусі, нам лягчэй было, чым ва Усходняй, але і нам даставалася. Якраз самы разгар кампаніі — калектывізацыя. Усе — і райкомаўцы, і выканкомаўцы, і іншыя арганізацыі, актыў — усе на выездах... Агітуем, угаворваем, даказваем... І трэба было ехаць праводзіць сход у адно сяло. Не простае гэта было сяло — глухое, далёка ад раёна, у лесе і побач з тым сельсаветам, дзе забілі старшыню. Сабраліся, думаем, каму ехаць. Усе мужчыны, адна я сярод іх, маладая камуністка. Скажу вам, Вера Васільеўна, са свайго вопыту, столькі год у раённым кіраўніцтве і ўсё з людзьмі — усякімі, рознымі людзьмі. Дык вось, у вайну людзі ідуць туды, дзе смерць ходзіць, лягчэй, чым у такі, мірны час. Можа, яно чым і можна вытлумачыць, але я гэтага не разу-

мею... «Хто паедзе?..» Адзін хворы, у другога жонка раджаць павінна, трэці намеціў іншае месца... і кожны гаворыць, як апраўдваецца... Чаго вы апраўдваецеся? Я ж усіх ведаю, ведаю, што ўсе ваявалі, і добра ваявалі, то чаго вы тут апраўдваецеся? Кажу: «Я паеду». Далі мне праважатага, падводу. Наган браць не захацела, што ён мне паможа, калі што здарыцца... Выехалі, каб завідна прыехаць, а там толькі лесам кіламетраў дванаццаць, а разам і ўсе дваццаць. Мала што мы і не даехалі, кіламетраў пяць засталося, як нас перастрэлі. Фурман мой, ён і памочнік, і абарона, малады хлопец, кульнуўся з калёс і быў такі! Толькі цень мільгануўся між ствалоў. А іх трое, з аўтаматамі. Маладыя, чыста паголеныя, у аднаго чорныя вусы. Ён узяў каня пад аброць, завярнуў на другую дарогу. Кажу: «Хлопцы, не па той дарозе паехалі».— «Мы ведаем, дзе наша дарога». Павярнулі яшчэ на адну дарогу, яшчэ. Выехалі на невялікую паляну, капа сена на ёй: не забытая, знарок прывезеная. Кругом елкі стаяць — густа, панура. Сышла я з падводы: ногі распраміць, зацяклі, пакуль сядзела. Маўчым. «Дык што, сама распранешся ці памагчы?» Гаварыў той, што вёў каня, з вусамі. Не гаварыў, а загадваў. Быццам так і павінна было быць, быццам гэтым павінна было скончыцца. Вось дзе я зразумела, як цяжка быць жанчынай. І мне стала страшна. Не за сябе, а за тое, *што* яны могуць зрабіць са мной. Я ж жанчына! І пашкадавала, што не ўзяла нагана з сабой... Мне стала крыўдна, крыўдна на сваіх таварышаў. Яны былі мужчыны, і гэта ўсё мяняла. Ні аднаму з іх ніхто не прапанаваў бы такое. І яны гэта ведалі. Хай смерць, хай што заўгодна, толькі не гэта. Гэта не страшна, гэта незразумела, гэта дзіка, гэта агідна. Стаю і чую, як чырванею, абрастаю чырванню, як каростай. Здаецца, зараз загаруся. І ногі дрыжаць, і ўся дрыжу. Баюся, што не вытрываю, упаду, і ведаю, падаць мне ніяк нельга. І цемната паціху абступае паляну. Чамусьці думаю, што маё жыццё залежыць ад святла. Як толькі сцямнее, усё маё скончыцца. А вусаты стаіць, бачу распранае, распрануў ужо мяне вачыма, абмацвае, усміхаецца дзіка. «Ці, можа, ты яшчэ не навучылася распранацца сама?..» І робіць крок да мяне... І тады пачуўся го-

лас аднаго з тых двух. Яны, як прыехалі, маўчалі. «Не трэба». Не ведаю, каму гэта было сказана — мне ці вусатаму, толькі вусаты зморшчыўся, аж зубамі заскрыгатаў. «Энкавэдзісты прыехалі?» — пытаецца ў мяне. «Прыехалі»,— кажу. Мы з дня на дзень чакалі іх. Калі мы ад'язджалі, іх яшчэ не было. «Шмат?» — пытаецца зноў. «Шмат». Не да мяне было ўжо ім. «Не тое вы робіце, хлопцы»,— кажу. Як мацюкнецца ён, развярнуў каня. «Дарогу знойдзеш?» — пытае. «Знайду...» — «Едзь і malі бога». А я ўжо і сама малю. Выехала на дарогу і сама сабе не веру... Даўно гэта было, і во на́ табе — сёння прысніўся той, вусаты...

Яны сціхлі і доўга маўчалі: кожная перажывала сваё. За акном святлела, роўным настойлівым гулам абуджаўся горад.

Спытала Вера Васільеўна — ціхім, асцярожным голасам, з сорамам, што пытае пра такое:

— Ну, а чаму б вам было не ўзяць дзіця... Многія ж бяруць... і яно становіцца родным.

— Чужое я не хацела браць, магла сама радзіць. Хіба я калека? — адрывіста, грубавата адказала Паўліна Іванаўна...

— Ну, а так...— Вера Васільеўна запнулася, але зноў смела пайшла далей.— Ну, што зробіш... Не выйшлі замуж... Хіба ў вас ніколі не было чалавека, якога вы кахалі — па-сапраўднаму кахалі?

Паўліна Іванаўна зморшчылася:

— Быў... Хоць што я кажу — быў... Ёсць. Ён ёсць і цяпер. У яго сям'я, двое дзяцей, і ён не такі...

— Ён у Мінску?

Паўліна Іванаўна кіўнула галавой.

— І ведае, што вы тут, у бальніцы?

— Не... ведае. І ўвогуле ён нічога не ведае.

— Дык што ж ты сабе думаеш, га, што ты сабе думаеш? — раптам на ўсю палату пачуўся голас Ігнатаўны. І Паўліна Іванаўна, і Вера Васільеўна аж уздрыгнулі, як перапалохаліся.

— Хіба вы не спіце, Ігнатаўна?

— Не сплю,— Ігнатаўна гаварыла на поўны голас,— даўно не сплю. Добры сон табе сасніўся, дзеўчачка. Жыта — гэта добра. Жыта — гэта жыць... Работа ўсякая добра. І што маці не ўбачыла — не гаруй. З мяртвымі лепей не бачыцца. Хто ведае, чаго яны прыходзяць.

— Мне так хацелася ўбачыць яе...

— Яшчэ ўбачыш... Яна сама прыйдзе, калі захоча.— Ігнатаўна пачала заплятаць свае рэдзенькія сівыя валасы ў касу, ужо гэтым паказваючы, што самае важнае яна сказала.

Паўліна Іванаўна і Вера Васільеўна пераглянуліся, і было ў гэтым пераглядзе нешта вельмі харошае.

...Паўліна Іванаўна выпісвалася ў гэты дзень. Яна пераапранулася і зайшла ў палату развітацца. Светла-зялёны шарсцяны касцюм вельмі быў ёй да твару, падкрэсліваў крэпкае і маладое цела. Толькі нейкая разгубленасць была ў яе ўсмешцы і ў вачах. Пацалаваліся з Верай Васільеўнай. Вера Васільеўна прыткнула хусцінку да вачэй. Ігнатаўна сама падышла, каб пацалаваць. А калі Паўліна Іванаўна зачыніла дзверы, з сумам сказала:

— Божачка ты мой, такая баба! І колькі дзяцей магла нараджаць.

•

## Змест

**Кудравец А.**

К 88 Смерць нацыяналіста: Аповесці, апавяданні.— Мн.: Маст літ., 1992.— 191 с.

ISBN 5-340-01120-8.

Кудравец А. Смерть националиста: Повести, рассказы.

Новую кнігу прозы Анатоля Кудраўца склалі напісаныя за апошнія гады аповесці і апавяданні. Творы гэтыя — згустак трывог і болю аўтара за чалавека, за яго права на радасць і спагаду.

Вострыя драматычныя калізіі і трагічныя матывы твораў — гэта жорсткія рэаліі нашага часу, нашага жыцця,— тое, пра што не гаварыць, не думаць проста немагчыма.

**К $\frac{4702120201-063}{М 302(03)-92}$ БЗ 131—91 ББК 84 Бел 7**

*Литературно-художественное издание*

*Кудравец Анатолий Павлович*

Смерть националиста

*Повести, рассказы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

*Кудравец Анатоль Паўлавіч*

Смерць нацыяналіста

*Аповесці, апавяданні*

Рэдактар *Л. К. Лявонаў*. Мастак *В. А. Тарасаў*. Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін*. Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*.
Карэктар *А. Т. Глушчанка*.

ІБ № 3889

Здадзена ў набор 01.04.91. Падп. да друку 16.01.92. Фармат 84×108[1]/[32]. Папера кн.-часоп. Гарнітура кудрашоўская энцыклапедычная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 10,08. Ум. фарб.-адб. 10,50. Ул.-выд. арк. 10,13. Тыраж 3700 экз. Зак. 1185. Цана 2 р. 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства Інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

